# ВЯСНОВЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ

З БЛАКНОТА МАСТАКА Б. АРАКЧЭЕВА.









На першай старонцы вокладкі: **На дэманстрацыю.**

Мал. П. Калініна.

На чацвёртай старонцы вокладкі: **Вясновы пейзаж.**

Фота А. Дзітлава.

# АКНО Ў ВЯСНУ

А. АСІПЕНКА

Фото А. Дзітлава.



Першую баразну праклалі Яўгенія Глушэня і Васіль Казак.

За ноч на сонцапёку сярод парыжэлага леташняга верасу расцвіла трава сон. Уся паляна між стромкіх сосен з адзінокай бярозай пасярэдзіне сінела буйнымі кветкамі гэтай самай ранняй непатрабавальнай расліны. Ва ўрачыстай веснавой цішыні гулі пчолы, недзе далей у лесе, пераймаючы лясных салістаў, свісталі, цілілінькалі шпакі. У небе, зеленаватым, з адзінокім кучаравым воблачкам, спяваў жаўрук. Нават не верылася, што ён пакінуў прастрань палёў дзеля гэтага нічым асаблівым непрыкметнага пералеску з рэдкім сасняком.

Але вясны з яе багаццем колераў і фарбаў, з яе яркай зелянінай, нясканчоным гоманам птушак і асляпляльна белым сонцам не было. Лёгкі подых ветру ўздымаў на дарозе бурунчыкі пылу, набрынялыя пупышкі не распускаліся, а беспаможна шарэлі на зеленаватым небасхіле. Нават ружаваты бярозавік цёк па чырвонаму альховаму лубку не так, як звычайна цячэ вясной — цурком, а скупа — кропля за кропляй. Здавалася, вясна толькі прачынаецца, гаворачы людзям: «Пачакайце, усё яшчэ будзе, гэта-ж толькі акно ў вясну».

Абыякавасць прыроды, нязвыклую і недарэчную для такой пары года, раптам парушыла далёкая, поўная дысгармоніі музыка. Натужліва гудзеў трактар. Нясмелы, перарывісты з падвывам і тарахценнем рокат яго матора мацнеў з кожнай хвілінаю.

За лесам было другое жыццё, неспакойнае, вірлівае. І гэты рокат матора неяк усё адразу паставіў на месца: вясна, не гледзячы ні на што, пачалася.

...У канторы Івацэвіцкай МТС пуста. Дзяўчына, якая сустрэлася на эмтээсаўскім двары, на пытанне, дзе іх начальства, адказала з дакорам:

— Усе ў полі. Наступленне пачалося.

І хоць словы яе, відаць, былі ўзяты з газетнай перадавіцы, тут яны прагучалі не трафарэтна, а вельмі да месца. Потым іх нам даводзілася чуць не раз.

Наступленне пачалося!

Гэта гаварыў і малады трактарыст Васіль Казак, і аграном камсамолка Ніна Малец, і старшыня калгаса Дзмітры Цімафеевіч Хайчанка, і многія другія людзі, што самі ажыццяўляюць веснавое наступленне ў бітве за ўраджай.

У калгасе імя Жданава першую баразну на трактарах «Беларусь» праклалі камсамольцы Яўгенія Глушэня і Васіль Казак.

Раніцай, калі яшчэ не ўзыходзіла сонца, а толькі пабялеў акрайчык неба, абодва камсамольцы вывелі свае трактары ў поле. Непадалёк ад лесу ў леташнім годзе быў пасеяны лубін. Калгаснікі меркавалі сабраць насенне для сёлетняга года. Але лета было дажджлівае і лубін не паспеў.

Потым нечакана ўдарыў мароз, пайшоў снег. Так нечакана лубін застаўся зімаваць. Дрэнна, але што зробіш, прышлося заворваць лубін вясной.

Жэня Глушэня прайшлася па ўчастку: на ўзгорках суха, аж курыць пыл, а ў нізіне гразка, так і глядзі, што трактар загразне па самыя ступіцы.

Не ўпершыню Жэня выводзіць свой трактар, але сёлета адчуваецца нейкая асаблівая адказнасць. Перад трактарыстамі пастаўлена зразумелая задача: закончыць сяўбу як мага хутчэй, каб захаваць у глебе скупую вільгаць. Зацягнеш сяўбу — зусім перасохне глеба і тады не чакай ураджаю. Вось чаму і Жэня і Васіль і іх напарнікі вырашылі працаваць і днём і ноччу.

Трактар ірвануў з месца, плугі глыбока ўгрызліся ў зямлю, матор злосна завыў. Роўная бліскучая чарнатой баразна пралегла праз поле. Да абеду вызначаны графікам план быў перавыкананы.

Мы выязджалі ў калгас «Савецкая Беларусь». Развітваючыся, абодва трактарысты папрасілі: «Пацікаўцеся, як там сям'я Глушэняў працуе. Мы хоць афіцыйна з імі не спаборнічаем, але вельмі цікавімся і іх справамі».

Пра тое, што ў МТС ёсць сям'я трактарыстаў, мы не ведалі. Вырашылі абавязкова знайсці яе на неабсяжных калгасных палях.

У вёсцы Аляксейкі — ні душы. Адны — у кузні куюць апошнія заклёпкі на плугах, другія—развозяць з буртоў гной, трэція — рыхтуюць насенне, або аглядаюць сад, як перазімаваў. У такую пару ў вёсцы толькі апошні гультай не знойдзе сабе работы. Нарэшце нам трапляе на вочы старэнькая бабуля. Яна і дае дакладны веснавы адрас трактарыста Глушэні: проста гэтай дарогай, а потым налева, там ужо і ўбачыце трактарыста.

Несцер Давыдавіч Глушэня паходзіць з той бедныты, якая з маленства чакала вызвалення ад

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання V.

Май.

№ 5 (50).

1957.



Несцер Давыдавіч Глушэня здае змену сыну Міхаілу.

Васіль Глушэня дапамагае бацьку.



Калгас «Савецкая Беларусь» першым пачаў сяўбу.



белапольскіх паноў. Савецкая ўлада прынесла яму ўсё: і свабоду, і зямлю, і новую спецыяльнасць. Мусіць, няма тут, у Аляксейках, кавалачка зямлі, які не апрацаваў-бы на сваім трактары Несцер Давыдавіч.

За маленькім рухавым трактарам «Беларусь» цягнецца вялізны плуг. На ім прымасціўся кірпаносы хлапчук. Карыя вочы яго скіраваны назад, у баразну. Часад-часу хлопец спрытна круціць руль: таму баразна роўная, аднолькавай глыбіні.

Здагадваемся, што гэта сын Несцера Давыдавіча. Трактар робіць разварот і спыняецца. Пажылы трактарыст саскоквае на зямлю, цікавіцца, хто мы і адкуль.

— Сорам сказаць, як працуем. Хіба так можна? Усю зіму абяцалі прыслаць спецыяльныя плугі для трактараў «Беларусь». А іх і цяпер няма. Што-ж атрымліваецца? — Глушэня ідзе баразной.— На такім трактары, як мой, працуюць без прычэпшчыка. Напрыклад, пачну і я працаваць на гэтых плугах, што сам прыстасаваў, без прычэпшчыка. Пастаўлю патрэбную глыбіню. На роўным месцы плугі, канешне, будуць араць як трэба. А на ўзгорку яны да самага жвіру пласт уздымуць. Гэта хіба парадак? Вось і бяру з сабой сына Ваську. Не рабіць-жа шкоды калгасу, калі ў нашай МТС у свой час не паклапаціліся. І выходзіць, там, дзе трэба аднаму, удваіх працуем.

І тут на памяць прышла карыкатура ў раённай газеце. Крытыкавалася эмтээсаўскае начальства за непаваротлівасць. Вось і вынікі. Можа і той трактар, што стаяў адзінока ля вёскі Руда, сапсаваўся, а мы лічылі, што трактарысты пайшлі абедаць...

Сонца паволі хілілася да заходу. Чырвоны небасхіл без адзінай хмурынкі абяцаў і назаўтра такое-ж сухое, з ветрыкам надвор'е.

— Дождж, дождж трэба, — Несцер Давыдавіч расцёр у руках кавалачак зямлі. Той нават не пакінуў на пальцах слядоў — зямля сухая. — А вось і змена мая ідзе, сын Міхаіл.

Падышоў хлопец у вайсковым адзенні, з ваеннай выпраўкай. Прыдзірліва агледзеў трактар, быццам прымаў яго не ў бацькі, старога трактарыста, а так у нейкага стажора. Потым змераў вачыма ўзаранае поле, задзірыста сказаў:

— А я за змену гэты кавалачак падыму.

— Вельмі хуткі. Глядзі, каб толькі ворыва як ворыва было. Вы маладыя — паспешлівыя.

Мы расказалі, што іх працай цікавіліся Жэня Глушэня і Васіль Казак.

— То сур'ёзныя сапернікі. Але падужаемся, хоць у нас, як бачыце, з плугамі не ўсё ў парадку, — і нібы ўспомніўшы, што час не чакае, Міхаіл ускочыў на трактар. І зноў загуў матор, абуджаючы няўдалую вясну.

А ў гэты час у цэнтры калгаса ішла падрыхтоўка да заўтрашняй сяўбы. Трактарыст камсамолец Леанід Ступніцкі пасля абеду прадыскаваў плошчу. У свірне стаяла гатовае насенне. Назаўтра раніцой на полі былі і калгасны аграном Ніна Малец, і старшыня Дзмітры Цімафеевіч Хайчанка, і маладыя калгаснікі Міхаіл Жыгар і Антон Белы. Нарэшце прывезена насенне, засыпана ў сеялку. І вось ужо кладзецца роўнымі радамі ў пульхную глебу зерне.

— Дождж, дождж трэба, — у каторы раз мы пачулі гэтыя поўныя тугі і надзеі словы.

І вось цяпер, калі вы чытаеце гэтыя радкі, калі вясна ўвайшла ў поўную сілу, а навокал усё зелянее, цягнецца да сонца, успомніце добрым словам усіх тых, хто сёлета ў цяжкіх умовах пачынаў змаганне за ўраджай, адчыняў акно ў сапраўдную вясну.



Аграном Ніна Малец і старшыня калгаса Дзмітры Цімафеевіч Хайчанка правяраюць насенне перад сяўбой.

## Цыбулька ў спорце



Цудоўна! Сонца прыгравае, кветкі цвітуць. Цяпер можна і спортам заняцца.

Ого! Якраз фіззарадку перадаюць. «Падыміцеся! Станьце прама!»

— Ну, і дзівакі. Я і лежачы магу займацца, ды яшчэ як. Раз, два! Раз, два! Далібог, выходзіць. Якая гэта знаходка для такіх лянівых людзей, як я. Ці не праўда, мае сябры?

# Родныя берагі

П. БЕРАЗНЯК

Колькі сёння навокал сонца! На момант Івану Ладзята здалося, што сонца зусім такое-ж, як у далёкім Асунсьёне. Але гэта толькі на момант. Яго зноў падхапіла плынь урачыстага натоўпу людзей, якія накіроўваліся на гарадскую плошчу, дзе ўзвышаўся манумент В. І. Леніна. Радасныя твары людзей, агністыя палотнішчы сцягоў, урачыстыя гукі музыкі, густая зеляніна вясны выклікалі ў юнака нязвыклы, светлы настрой. Нават да болю знаёмы твар бацькі, што крочыў побач, здаваўся Івану азораным нейкім новым святлом. Адзін толькі малодшы брат Жора з хлапчукоўскай бесклапотнасцю церабіў пальцамі канцы свайго піонерскага гальштука і вачамі, поўнымі невыказанага захаплення, глядзеў на прыбраны натоўп, на святочную вуліцу, на вясновы блакіт неба.

У будні дзень і не падумаў-бы, што ў невялікім гарадку Нясвіжы столькі жыхароў. Прасторная плошча каля Палаца культуры ўжо не змагла змясціць святочны натоўп. А па Гарадзейскаму і Сноўскаму трактах усё ішлі, ехалі на веласіпедах, грузавіках, падводах калгаснікі з навакольных вёсак.

Уладзімір Сяргеевіч Ладзята, іванаў бацька, агледзеў шумлівую плошчу, высокую трыбуну, абцягнутую чырвоным шоўкам, і ў яго вачах зайграла ўсмешка.

— Помніш, Канстанцінаўна, радзівілаўскі фэст,—звярнуўся ён да жонкі.—Здаецца, у трыццаць сёмым гэта было. Столькі тады народу наплыло, але з сённяшнім раўняць нельга...

— Тата, а што такое фэст?—не выцерпеў Жора.

— Ну, свята такое, кірмаш. Вось як у Багадзе пасля чэрвеньскіх ліўняў.

— Ага, дык гэта з боем быкоў, — здагадаўся хлопчык.

— Са святам вас, з Першым мая, — выйшаў з натоўпу сакратар райкома комсамола.—А табе, Іван, сёння выступіць прыдзецца,—паказаў ён на трыбуну.

— Мне?—збянтэжыўся Іван. — Што вы... Не змагу я... Ды і пра што гаварыць...

— Знойдзеш пра што. Сэрца падкажа.

Іван ужо не заўважаў, як навокал сціхлі смех і гамонка, не бачыў, як на трыбуну падняўся першы прамоўца. Ён думаў аб тым, што скажа перад шматтысячным натоўпам людзей. Бадай рэдка хто з іх ведае, як многа выпала перажыць на долю яго дваццаці вёснаў. І ці здагадваецца хто-небудзь, што вось гэтага пасівелага без пары чалавека, іванавага бацьку, гора і нястача дзевятнаццаць год таму назад прымусілі пакінуць родную вёску Казлы Нясвіжскага раёна.

Распрадалі несамавітыя пажыткі, закруцілі ў палатнянае прасцірадла аднагадовага сына Ваню і рушылі ў заморскія краіны.

Невядомы для іх раней Парагвай сустрэў эмігрантаў сонцам, прасторамі травяністых прэрыяў. Багатая прырода, здавалася, абяцала такое-ж багатае жыццё.

Але заакіянскі «рай» прынёс расчараванне ў першыя-ж дні. Сын хлебароба, Ладзята рашыў набыць уласную зямлю. Але аказалася, што нават невялічкі шматок незанятай прэрыі каштуе неймаверных грошай. Адкуль-жа будуць тыя грошы ў людзей, якія ўцяклі ад жабрацтва з родных мясцін?

Прышлося пакідаць малога Ваню ў хаціне жаласлівай індыянкі з племя гуарані, а самім цэлы год батрачыць у багатых фермераў. Нарэшце, разжыліся запаветным кавалачкам зямлі. «Ну, цяпер заживем,—думаў Уладзімір Сяргеевіч.—Сям'я невялікая, зямля ёсць. Ці многа нам трэба?»

Дзесяць патоў праліў Ладзята, пакуль апрацаваў матыкай цвёрдую глебу на сваім участку. Жалезны плуг для такога гаспадара быў нечуванай раскошай. У Парагваі плугам карыстаецца толькі дваццаць працэнтаў усіх хлебаробаў. Знялі першы ўраджай кукурузы і маміоку. І што-ж? Усіх гэтых запасаў хапіла толькі на поўгода. Як жыць далей? Прышлося зноў пайсці ў батракі, зноў адзінокі Ваня вымушаны быў капацца ў пяску з маленькімі гуарані.

Рашыў Уладзімір Ладзята канчаткова здрадзіць векавым звычкам сваіх продкаў—расстацца з зямлёй. Але горад Каранель Багада, куды ён падаўся з сям'ёю, не зычыў нічога лепшага. Жыллём служыў будан, змудраваны з кавалкаў фанеры і іржавай бляхі; заработкі былі выпадковымі. Не стала жыццё лепшым і пасля таго, як Уладзімір Сяргеевіч знайшоў пастаянную работу ў кравецкай майстэрні і перасяліўся з сям'ёй пад сапраўдны дах.

Горка раскайваўся Ладзята, што пакінуў родную сялібу пад Нясвіжам, што марныя пошукі шчасця кінулі яго з агню ды ў полымя. А як балюча зашчымела сэрца, калі атрымаў ліст з родных Казлоў. Аднавяскоўцы пісалі, што Чырвоная Армія прагнала паноў, што яны раздзялілі панскую зямлю і жывуць цяпер у шчасці і дастатку. Чалавека пацягнула дадому, да хат з саламянымі стрэхамі, да белых вішань у вясновы час. Да чаго-ж халодным і чужым здалося цяпер парагвайскае неба. А неўзабаве прышла яшчэ адна, ужо чорная вестка: палеткі Казлоў топчуць фашысцкія боты і гусеніцы танкаў.

Хоць маленькі Парагвай знаходзіўся за тысячы кілометраў ад пекла вайны, але і тут жыццё станавілася цяжэйшым. Ды яшчэ прыбавілася сям'я. Спачатку нарадзілася дачка Тоня, потым сын Жора. Ваню настаў час ісці ў школу. Не хацелася аддаваць сына туды, дзе вучаць на чужой, іспанскай мове, дзе кволым дзіцячым душам прывіваюць атруту нянавісці да Савецкага Саюза, да той зямлі, дзе жылі ваневы дзяды і прадзеды, дзе нарадзіўся ён сам. Але Ваня ні на хвіліну не забываў, што ў яго ёсць сапраўдная Радзіма, ёсць мілагучная родная мова, якой ён навучыўся ад бацькоў. Глыбока ў сэрца хлопчыку запалі матчыны песні пра гусей-лебедзяў, пра беларускіх жней.

— Тата, паедзем дадому, — не па-дзіцячы тужліва сказаў аднойчы бацьку Ваня.

— Душой рад быў-бы, сынок,— уздыхнуў бацька, — ды вырвацца цяжка. Не дазваляюць нам вярнуцца дадому.

З таго часу Ваня адчуваў глыбокую нянавісць да кожнага, апранутага ў форму паліцэйскага або дзяржаўнага чыноўніка. У разуменні хлопчыка гэта былі людзі, якія не дазваляюць яму паехаць у краіну спелага жыта і задушэўных песень жней.

На адным з урокаў гісторыі, калі настаўнік праклінаў анафемай «чырвоных», г. зн. Савецкі Саюз, за яго «пасягальніцкія планы на цудоўны сонечны Парагвай», Іван Ладзята не вытрымаў:

— Хлусня, пан настаўнік!—выгукнуў ён.—Чырвоная Армія вызваліла ад фашыстаў дзесяткі краін і ні на адну з іх не пасягнула.

У той-жа дзень «агент чырвоных» Іван Ладзята апынуўся за парогам школы. Яму нічога не заставалася, як ісці шукаць работы. Гэта было нялёгка, бо ўсе прадпрымальнікі Каранель Багады ведалі аб намеры Ладзятаў вярнуцца ў Савецкі Саюз, ведалі і аб «антыпатрыятычным» учынку Івана.

...Івана Ладзяту вывелі з забыцця бурныя воплескі, якімі ўдзельнікі першамайскага мітынгу на плошчы сустрэлі словы першага прамоўцы. Хіба вось аб усім гэтым і расказаць? Не, навошта сваімі змрочнымі ўспамінамі псаваць святочны настрой людзям. Няхай лепш вунь тыя жыццерадасныя, шчаслівыя юнакі, яго аднагодкі, ніколі не ведаюць, што давялося перажыць яму на чужыне. І няхай ніколі не напаткае іх іванаў лёс.

Пятнаццацігадовым падлеткам ён вымушаны быў пакінуць бацькоў. У сталічным горадзе Асунсьёне ніхто не ведаў, што ён—«чырвоны». Тут можна было знайсці



Іван Ладзята (у цэнтры) расказвае сваім таварышам пра сваё жыццё на чужыне.

Фото С. Чырэшкіна.

работу, пракарміцца самому, дапамагчы сям'і, бо выпадковыя заработкі сястры Тоні былі вельмі мізэрным падспор'ем для бацькоў. Няхай хоць адзін Жора вучыцца, можа яму ўсміхнецца шчасце.

У радыёмайстэрні, куды Івану ўдалося паступіць падручным, ён пазнаёміўся з маладым гуарані Філінэ Фрасіо. Нягледзячы на свае гады, Філінэ быў ужо членам Камуністычнай партыі. Ён даваў Івану чытаць газету «Адэлантэ»—орган падпольнай Камуністычнай партыі. Іван прасякнуўся гордасцю за стойкі парагвайскі народ, які вядзе непрымірымую барацьбу з прыгнятальнікамі. Ён сам стаў дапамагаць сваім таварышам. Цяпер Іван з чыстым сумленнем мог называць сябе «чырвоным». Па даручэнню Філінэ ён наведваў рабочыя кварталы, удзельнічаў у падрыхтоўцы першамайскай дэманстрацыі.

І ён наступіў, незабыўны дзень 1 Мая 1954 года. Асунсьён прачнуўся спакойна, як у звычайны працоўны дзень. На скрыжаванні вуліц тырчэлі сонныя фігуры адзінокіх палісмэнаў. Гандляры

Тэхнік Нясвіжскага радыёвузла камсамолец Іван Ладзята.



адчынялі акяніцы на вітрынах сваіх магазінаў. Ля вакзала адзінай у краіне чыгункі стаялі карэты, таксі, дзелавіта пераклікаліся гудкі паравозаў.

Але жыхары горада доўга не маглі ўцяміць, чаго ўсё-такі нехапае ім у гэтую раніцу. А нехапала заводскіх гудкоў. Ніводзін завод не падаў свайго голасу, ніводзін рабочы не выйшаў на работу. Горад нібы застыў у прадчуванні чагосьці надзвычайнага.

І яно неўзабаве пачалося. З ускраін вуліцамі і завулкамі ў напрамку галоўнага праспекта рушылі калоны працоўных з чырвонымі сцягамі і транспарантамі. «Свабоду камуністычнай партыі», «Няхай жыве 1 Мая», «Работы і свабоды», «Прэч амерыканцаў!» — гучалі з транспарантаў лозунгі на іспанскай мове і мове гуарані. «Няхай жыве Савецкі Саюз—надзея міру і шчасця чалавецтва!» — заклікалі словы з палотнішча, якое нёс Іван Ладзята з незнаёмым смуглявым юнаком.

Як ручаінкі і рэкі зліваюцца ў адну імклівую раку, так і асобныя калоны на галоўным праспекце зліліся ў адзіную чалавечую плынь. У калонах не чутна размоў, твары дэманстрантаў суровыя.

Галава калоны мінула помнік першаму прэзідэнту, бульвар. Наперадзе ўжо выступалі ў сіняве шпілі прэзідэнцкага палаца. Праспект перагарадзілі амерыканскія танкісты са шчацінай буйнакаліберных кулямётаў. З прылягаючых вуліц імчалі на матацыклах паліцэйскія з аўтаматамі. Аднекуль вынырнуў рэактыўны бамбардыроўшчык, на малой хуткасці пачаў кружыць нізка над дэманстрантамі.

«Што гэта? — зжахнуўся Іван. — Няўжо ўсё гэта супраць мірнага шэсця людзей?» Ён пачаў пакутліва прыпамінаць, дзе яму прыходзілася чуць нешта падобнае. Прыпомніў. Ды гэта-ж ён чытаў у кнізе М. Горкага «Маці», якую даў яму Філінэ Фрасіо. Няўжо гэта паўторыцца сёння, у сонечны майскі дзень, пад мірным парагвайскім небам?

І нібы ў пацверджанне іванавых сумненняў у сярэдзіну калоны ўварваліся матацыклісты. Гумавыя дубінкі замільгалі ў паветры. Над галовамі засвісталі кулі, аднекуль з пад'езду хлынуў моцны струмень вады з пажарнага бранспойта. Калоны рассеяліся, людзі кінуліся ў розныя бакі. А паліцэйскія, нібы карычневая саранча, усё прыбывалі і прыбывалі. Пярэднім колам матацыкл штурхнуў дзяўчыну, яна ўскрыкнула, павалілася. Паспрабавала падняцца, але другі матацыкліст пераехаў цераз яе. Абцёршы рукавом разбітую да крыві шчаку, Іван падхапіў дзяўчыну, кінуўся ў пад'езд незнаёмага дома. Апрытомнеўшая дзяўчына з удзячнасцю паглядзела на Івана.

— Вам лепш?—спытаў Іван.— Дадому зможаце дайсці?

Дзяўчына ўстала, хістаючыся, падыйшла да лесвічнага акна. Праспект быў пусты. На панелі валяліся капелюшы, хусцінкі, нават нейчы чаравік з адарванай падэшвай.

— Калі іспанцы заваёўвалі дзікае племя гуарані, яны вытваралі нешта падобнае,—задумліва сказала дзяўчына.—Вы ведаеце легенду гуарані?

— Не,—нясмела адказаў Іван.— Я не гуарані. Я з Расіі.

— З Расіі?—ўзняла бровы дзяўчына. І было ў яе вачах ні то здзіўленне, ні то дакор, нібы яна хацела сказаць: «Навошта-ж вы пакінулі Расію? Як-бы я хацела быць цяпер на тваёй Радзіме».

...Расказаць хіба аб тым далёкім Першамаі? Або падзяліцца незабыўнымі ўражаннямі аб звароце на Радзіму. Расказаць аб тым, як у Нясвіжы іхняй сям'і адразу далі светлую кватэру з трох пакояў. Што бацьку і сястру Тоню з радасцю прынялі на работу ў швейную арцель, а яго—тэхнікам на радыёвузле. Што ён з Тоняй сталі пад слаўны сцяг Ленінскага камсамола, атрымалі магчымасць працягваць вучобу. Але-ж для жыхароў Нясвіжа ўсё гэта—звычайная і прывычная рэч. Яны не ведаюць, што такое лёс эмігранта.

— Слова прадастаўляецца камсамольцу Івану Ладзята.—Аб'явілі на трыбуне.

Юнак моцна сціснуў пальцамі край трыбуны, каб схаваць сваю ўсхваляванасць.

— Дарагія таварышы землякі!— Іван адчуў, як нейкая гарачая хваля абдала яго твар.—Я хачу расказаць вам пра шчасце чалавека, пад нагамі якога зямля, а над галавой—яснае неба любімай Радзімы!

Гіганцкім прыбоем пракаціліся над плошчай воплескі. Ад нахлынуўшых пачуццяў, ад хвалявання вочы Івана заслала плянёнкай нейкага туману. Перад ім паўсталі вочы маладой гуарані з нямым дакорам: «Як-бы я хацела быць цяпер на тваёй Радзіме!».

**г. Нясвіж.**



**Ад рэдакцыі:** Паважаны чытач, табе добра вядома, што наш Антось Цыбулька не любіць, каб за яго гаварыў хто-небудзь. Але тут выпадак выключны. І мы бярэм на сябе смеласць сказаць некалькі слоў.

На малюнку — стадыён «Дынамо». Вунь тая белая кропка — Антось Цыбулька. Ён роўна за дзень да матча заняў самае зручнае месца. Ёсць такія, што на захоп імкнуцца. Вось Цыбулька яго і захапіў.



Ён спіць і... сніцца яму дзіўны сон. Ён бачыць сябе варатаром, а спартакаўскія вароты на вось такім замку.

Які ў яго быў выраз твару, калі ён назаўтра глядзеў матч, запытайцеся ў знаёмых балельшчыкаў.

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО СЦЯГА

**Зараз гэты сцяг стаіць на самым пачэсным месцы ў Ашмянскім краязнаўчым музеі. У час святочных дэманстрацый ён калышацца над калонамі рабочых. Гэты чырвоны сцяг з гербам Краіны Саветаў у жніўні 1944 года рэяў над адной з калон шматтысячнай дэманстрацыі жыхароў французскага горада Бардо, прысвечанай вызваленню горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

**Гісторыя гэтага сцяга звязана з лёсам простага савецкага чалавека, слесара Смаргонскага райпромкамбіната Фадзея Канстанцінавіча Варанішчава.**

**У 1929 г. дваццацігадовы Фадзей Варанішчаў пакінуў сваю родную вёску Клідзяняты на Смаргоншчыне і накіраваўся за акіян у пошуках кавалка хлеба. Восем гадоў пражыў ён у Аргенціне, але за гэты час не знайшоў нават сталай работы.**

**У Буэнос-Айрэсе ён сустрэўся са сваімі землякамі, якія звязалі яго з нелегальнай прагрэсіўнай арганізацыяй. Тут і глянуў Фадзей Канстанцінавіч на жыццё іншымі вачамі. Ён зразумеў, што за лепшую долю трэба змагацца.**

**Ішоў 1937 год. У Іспаніі ўспыхнуў фашысцкі мяцеж. Фадзей Варанішчаў дабравольцам пайшоў дапамагаць рэспубліканскай Іспаніі. Змагаўся ён у антыфашысцкім батальёне імя Дамброўскага.**

**Потым удзельнікі антыфашысцкага руху былі інтэрніраваны французскімі ўладамі. Фадзей Варанішчаў трапіў у лагер Сен-Сепрыен. Тут увосень 1939 года ён даведаўся аб вызваленні Заходняй Беларусі. Усёю душою імкнуўся чалавек на радзіму, але вайна не дала ажыццявіцца гэтаму намеру. Нямецкія фашысты захапілі Францыю, і Фадзей Канстанцінавіч апынуўся ў канцэнтрацыйным лагеры.**

**Праз некаторы час фашысты адпраўляюць Варанішчава на будаўніцтва абарончых збудаванняў «Атлантычнага вала», але ён уцякае адтуль у Парыж. А з Парыжа па заданню падпольных арганізацый накіроўваецца ў Бардо, дзе прымае актыўны ўдзел у арганізацыі партызанскага руху сярод славян-эмігрантаў.**

**І вось, нарэшце, лета 1944 года. Французскія партызаны расплаціліся з фашыстамі ў Бардо. Горад быў вызвалены.**

**Фадзея Варанішчава выклікалі ў гарадскі камітэт французскай кампартыі.**

**— Заўтра дэманстрацыя. Ты пойдзеш з партызанскай калонаю.**

**— Добра, — сказаў ён, — толькі сцяга ў нас няма.**

**— Ёсць сцяг, таварыш Варанішчаў. Вось ён. Вазьмі яго на ўспамін аб нашай сумеснай барацьбе за свабоду.**

**Глядзіць Фадзей Канстанцінавіч: ды гэта-ж савецкі сцяг!**

**— Адкуль ён у вас? — узрушаны да глыбіні душы, пытаецца Фадзей Канстанцінавіч.**

**— Яго да вайны нашай рабочай дэлегацыі масквічы падаравалі. Усе гэтыя гады мы яго бераглі, як святыню.**

**У час дэманстрацыі, высока падняты Варанішчавым, палыхаў над галовамі чырвоны савецкі сцяг. Пад ім ішлі французы, рускія, чэхі, палякі, югаславы — браты па зброі, па агульнай барацьбе за свабоду і мір.**

**Гэты сцяг і прывёз на Радзіму Фадзей Канстанцінавіч Варанішчаў.**

**Н. ВАСІЛЕЎСКІ.**



На Цэнтральнай плошчы Мінска. Удзельнікі самадзейнасці 136-га будаўнічага трэста пасля выступлення ў Палацы культуры.

Фото М. Ананьіна.



Н. С. ХРУШЧОЎ.

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР першы сакратар ЦК КПСС Н. С. Хрушчоў за выдатныя заслугі ў распрацоўцы і ажыццяўленні мерапрыемстваў па асваенню цалінных і залежных зямель узнагароджаны ордэнам Леніна і другім залатым медалем «Серп і Молат».

# ВЕРШЫ

Аляксей ПЫСІН

## Крэмль

Стагоддзі Крэмль стаіць,
І захавае вечнасць
Крутыя вежы,
Сцен зубчаты ўзор.
А ўсё-ж,
Калі-б не гэты сцяг, які трапеча,
І не святло,
Не промні гэтых зор, —

Не давялося-б хлопцу
З дальняй ціхай вёскі,
Дзе нават паравоз
Не кожны бачыў дзед,
Ступаць сягоння
Плошчаю крэмлёўскай
І бачыць прад сабою
Цэлы свет.

## Начоўкі

Начоўкі вузкія, вады ў іх мала,
Усяго па локаць матчын глыбіні,

Ды морам самым першым адміралаў
І першым берагам былі яны.

## Кветкі

У кожнай вітрыне, у кожным акне
Кветкі ўсміхаюцца ласкава мне
І просяць: спыніся, вазьмі нас з сабой
Падорыш
Любімай сваёй.

Стаю ля вазонаў, ля кветак жывых,
Іх вочы смяюцца ў зрэнках маіх;
Хмурнеюць,
Калі адыходжу ад іх.

Наіўныя кветкі,
Чароўныя кветкі!

З усіх самых дальніх лугоў і палян
Сабраў-бы я вас у блакітную рань,
Каб толькі са мною тут тая была,
Што першы букет мой калісь прыняла.

Напэўна, сумуе над Сожам адна,
Падоўгу маўкліва стаіць ля акна.
Прыеду туды я, дзе вербы ў вадзе,
Мне рукі на плечы яна пакладзе,
У вочы загляне і дзесьці на дне
Убачыць, як вы усміхаліся мне,
Хмурнелі і ніклі на ранняй зары,
Што вас я нікому не нёс, не дарыў.

Уладзімір СКАРЫНКІН

## Мара трактарыста

Над полем льецца песня жаўрукоў,
Вясенняй сілай дыхаюць палянкі.
Празрысты ранак гулам трактароў
Ужо выводзіць гучныя вяснянкі.

Блішчыць ралля пад чырванню зары
І за плугамі сцелецца бясконца —

Вядзе свой трактар юны трактарыст
Насустрач узыходзячаму сонцу.

Зямля вітае песнямі вясну...
А сам юнак, шчаслівы, уяўляе,
Нібыта ён праз поле баразну
У далячынь, да сонца пракладае.

Васіль КЛІМЯНКОЎ

## Каваль

Зноў аб жытнёвым сніць калоссі
У полі талая зямля
І паспяшацца з працай просіць
Яна сягоння ў каваля.

А ён лямех куе з душою
І сыпле іскры на зямлю,
Як быццам збожжа залатое
З сяўні у пульхную раллю.

Алесь СТАВЕР

## У дарозе

Грукочуць вагонныя колы,
Навокал палі і палі.
Мой горад шумлівы, вясёлы
Далёка застаўся ўдалі.

Насустрач бягуць кіламетры,
Імчыцца чыгунка-струна.
Як хораша свежым паветрам
З адкрытага дыхаць акна.

І лёгка ад радаснай явы,
І клічуць удалеч агні.
Наперадзе — новыя справы,
Наперадзе — новыя дні.

Імчыся, цягнік мой, стралою!
Я рад, што так суджана жыць:
Не ведаць ніколі спакою,
Ніколі на месцы не быць!

Артур ВОЛЬСКІ

## Зязюля

Не ў гняздзечку
пры матулі
дзеткі
выраслі ў зязюлі.

Па ўсім лесе,
па ўсім свеце
разбрыліся
яе дзеці.

Як увесну
варажыла,
па гняздзечку
не тужыла.

Сядзе ўранку
на суку,
завядзе
сваё «ку-ку».

— Ку-каму
паваражыць,
ку-ку — колькі
будзе жыць?

Не заўважыла
зязюля,
як свае
гады мінулі.

Як за тою выражбою
стала кволай
ды сівою.

Вецер круціць
лісце ў віры...
З кім-жа ёй
ляцець у вырай?

Сумна птушцы
зараз гэтак —
без прытулку
і без дзетак.




## НОВЫ ЧАСОПІС ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

У красавіку выйшаў першы нумар часопіса «Вясёлка», орган ЦК ЛКСМ Беларусі. У ім змешчаны цікавыя апавяданні Усевалада Краўчанкі, Івана Шуцько, Васіля Хомчанкі, народныя казкі ў апрацоўцы Алеся Якімовіча, вершы Васіля Віткі, Сяргея Грахоўскага, Артура Вольскага, Васіля Карпечанкі і Генадзія Шманя. Прыгожыя шматкаляровыя малюнкі мастакоў Ю. Пучынскага, Р. Кудрэвіча, В. Грамыкі, У. Сяржантава, М. Бельскага, Э. Вальтэра прывабліваюць вока да гэтага часопіса для самых маленькіх чытачоў.

Старэйшы беларускі пісьменнік Янка Маўр з пажаданнем звяртаецца да іх: «Дарагія маленькія сябры! Вось і да вас прышоў новы часопіс. Знаёмцеся з ім, чытайце і перачытвайце, пасябруйце з ім — і вы ўбачыце, што ён можа быць вашым добрым, цікавым і вясёлым таварышам».

Безумоўна, з першага нумару юныя сэрцы адгукнуцца гарачай зацікаўленасцю да свайго друкаванага таварыша і ён стане жаданым госцем у кожным дзіцячым доме і школе, на стале малалетак — будучых памочнікаў дарослых бацькоў і матак.

Выхад у свет новага часопіса «Вясёлка» — яскравае сведчанне бацькоўскага клопату нашай партыі і ўрада пра падрастаючае пакаленне.

Дамоў прыходзіць Іван Цітавіч позна. Кіраваць калгасам, ды яшчэ ў такім узросце, калі табе ўжо за пяцьдзесят пераваліла,—не вельмі латвая справа. За дзень наматаешся так, што к вечару адчуваеш сябе, як пасля доўгай і цяжкай дарогі. А дома зноў-жа трэба пераглядзецъ свежыя газеты, часопісы, пачытаць кніжку.

Вось і ў гэты вечар Іван Цітавіч бярэ ў рукі важкі том, на чырвонай вокладцы якога зіхаціць слова: «Ленін». А радыё несціхана гаворыць, быццам знарок каб парушаць цішыню. Іван Цітавіч быў памкнуўся да выключальніка, але тут прагучаў голас дыктара: «Пачынаем перадачу па заяўках радыёслухачоў. Старшыня калгаса «Рассвет» Жлобінскага раёна Іван Цітавіч Кавалёў жадае паслухаць песню...».

І паліліся цудоўныя гукі музыкі, загучалі дзівосныя словы, якія славілі нялёгкае і мужнае юнацтва Савецкай дзяржавы:

«...Комсамольцы двадцатага года! Комсамольцы трыццатых гадоў!..»

Іван Цітавіч міжвольна адсунуў кніжку ўбок і заслухаўся. У памяці паўставала мінулае. Гэтая песня для яго—не проста хвалюючая мелодыя. Здавалася, у расчыненыя вокны ўварваўся той вясновы імклівы вецер, насустрач якому ішла калісьці яго маладосць.



# МАЙСКАЕ СВІТАННЕ

**Пятрусь МАКАЛЬ**



«Увага! Гаворыць калгасны радыёвузел. Слухайце канцэрт па вашых заяўках!» — так радыст Нікалай Серадоўнікаў і яго памочнік Яўгеній Кавалёў пачынаюць вячэрнюю перадачу.



Люба Канькова — старанная, працавітая свінарка.

Май 1924 года.

Згушчаецца вячэрні змрок, ён прынікае да шыб, ахінае дамы і прысады, імкнецца атуліць сабой усю зямлю...

З невялічкай гарбатай хаткі паволі выйшла кабета. У левай руцэ яна трымала бляшанку, далонь правай узняла над вачыма, быццам засланяючыся ад сонца, хоць было ўжо амаль цёмна. Жанчына паглядала на вокны суседніх хат: да каго-б па аганёк схадзіць?

Святло гарэла толькі ў адным доме. Туды і накіравалася кабета. Увайшла і здзівілася: паўнюткі пакой хлопцаў. Адзін з іх, прымасціўшыся на падаконніку, шоргаў алоўкам па вялізным спісаным лісце паперы.

«Зноў заварваюць нешта,—падумала старая.—Гэта-ж яны, яшчэ ў дваццатым, вынеслі прапанову стварыць у сяле таварыства па сумеснай апрацоўцы зямлі».

Хтось з хлопцаў загаварыў:

— Вось, можа і бабуля нам добрае слова скажа.

— Не, сынок, не мая гэта справа. Гаварыце ўжо вы самі. А толькі карысці з гэтага... Прапусціце лепей да печкі—вугалькоў набяру, а то ў цемры хата.

— А мы, бабуля, і сабраліся, каб падумаць разам, як-бы гэта святлейшым жыццё наша зрабіць, — зноў пачуўся той-жа ўпарты юначы голас.

Так пачынаўся першы комсамольскі сход у Майскім (тады сяло называлася Шэпілава). Колькі было тут гарачых размоў і спрэчак! Адзін за другім змяняліся прамоўцы ў зрэбных палінялых кашулях. І хай не шмат было красамоўства ў гэтых прамоўцаў, але словы іх гучалі ад усяго сэрца. У іх адчувалася шчырае імкненне будаваць новае жыццё.

Разыходзіліся комсамольцы, калі ўжо на ўсходзе заружавелася палоска зары. Прачнуўшыся, цёплы ветрык перабіраў маладыя лісцікі яблынь, варушыў белыя росныя пялёсткі. Бялёсая імгла адступала і таяла перад неадольнай сілай майскага світання...

Шмат добрых спраў зрабілі майскія комсамольцы. Калі ў сяле стварыўся калгас, яны былі і яго арганізатарамі і яго першымі працаўнікамі. На іх плечы лажыўся ўвесь цяжар станаўлення грамадскай гаспадаркі. Рукі гэтых юнакоў і дзяўчат сапраўды не ведалі стомы. Яны ачышчалі ад хмызнякоў поле, карчавалі пні, ішлі за плугам, які перакрэсліваў спрадвечныя межы, валілі лес, узводзілі першыя калгасныя будынкі.

Іван Цітавіч Кавалёў, якога мы наведалі, доўга расказваў нам пра тыя незабыўныя гады, пра сваіх баявых комсамольскіх сяброў Паўла Фуліянава, Дзяніса Гаспадарэнку, Піліпа Пугачова і многіх другіх.

Калі мы папрасілі Івана Цітавіча расказаць аб сённяшнім жыцці калгаса, старшыня задумаўся.

— Хваліцца асабліва няма чым. Супыніліся мы ў сваім росце. Многія суседзі абскакалі нас. Праўда, агульны прыбытак калгаса летась склаў 1 112 тысяч рублёў. Аднак гэта для нас не ўцеха...

Мы пацікавіліся, у чым прычына такога становішча. Іван Цітавіч пачаў тлумачыць няясна і неакрэслена. Па ўсім было бачна, што ён не хацеў называць імя свайго папярэдніка, у якога некалькі месяцаў назад прыняў справы.

— Патрэбен грунтоўны і, я-б сказаў, паваротны зрух,—працягваў старшыня калгаса.—І тут мы вялікія надзеі ўскладваем на нашу моладзь, на комсамольцаў. А што яны ў нас здольныя сапраўды горы варочаць, можаце пераканацца самі.

Старшыня паказаў у акно:

— Бачыце? — Непадалёку ўзвышаўся вялікі прыгожы будынак—калгасны клуб.—Самі комсамольцы пабудавалі,—не без гордасці заўважыў Іван Цітавіч.

Вечарам у клубе дэманстравалася кінокарціна «Ленін у 1918 годзе». І, вядома, перад пачаткам сеанса — танцы. Зайграў гарманіст польку — і застукалі аб падлогу дзявочыя абцасы.

Мы запыталіся пра культурныя мерапрыемствы, якія праводзяцца ў клубе.

— Сходы, лекцыі, даклады. Бадай і ўсё,—сказала загадчыца клуба А. Андрыянава. А потым дадала:—Славілася некалі на ўвесь раён наша самадзейнасць. Ну, а зараз—хор адзін толькі маем...

Сумна было слухаць гэтыя словы.

Назаўтра мы зноў сустрэліся з многімі маладымі калгаснікамі, але ўжо не ў клубе, а на рабоце. І трэба сказаць, гэтыя сустрэчы пакінулі больш прыемнае ўражанне.

Некалькі месяцаў таму назад у Майскім з'явіўся высокі бялявы хлопец у шынялі з сержанцкімі пагонамі. Калгаснікі не адразу пазналі ў ім свайго аднавяскоўца Валянціна Казлова. За час службы ён пасталеў, узмужнеў і, здавалася, нават пасуравеў. Перад прызывам у армію Валянцін нейкі час працаваў слесарам на Пінскім суднарамонтным заводзе. Дэмабілізаваўшыся, намерваўся завітаць у Майскае толькі ў госці. А прыехаў, спаткаўся з землякамі, паглядзеў на родныя палеткі і— адчуў, як-быццам яго прыкавала нешта.

«Маё месца—тут»,—цвёрда вырашыў юнак. Заявіў аб гэтым у праўленні. Калі яму прапанавалі пасаду брыгадзіра садова-агародняй брыгады, хлопец разгубіўся.

Ідзе абмеркаванне праекта калгаснага стадыёна. «Вось тут паставім трыбуну для самых заўзятых балельшчыкаў, такіх, як вы, Іван Цітавіч!» — гаворыць Марыя Машніцкая, звяртаючыся да старшыні калгаса т. Кавалёва (крайні справа).

— «А ці спраўлюся?»—мільганула думка.

Большасць членаў гэтай брыгады—жанчыны. Калі ім паведамілі, хто новы брыгадзір, некаторыя нездаволена зашапталіся:

— Валька намі камандаваць будзе? Ды ён-жа, прабачце, яшчэ блазнюк...

Нялёгка прышлося на першых парах Валянціну. Не ладзілася ў брыгадзе з працоўнай дысцыплінай. Аднак настойлівы хлопец упэўнена наводзіць парадак у брыгадзе. І можа рана яшчэ гаварыць аб дасягненнях, але бясспрэчна адно: усе калгаснікі брыгады працуюць старанна і з ахвотай.

У калгасе комсамольцы працуюць на рашаючых, адказных участках.

Свінарка Люба Канькова на свінаферме працуе першы год. Да гэтага Люба была рахункаводам. Не па душы прышлася дзяўчыне канцылярская работа. Аднастайны шорах паперы, нязменнае глухое шчоўканне лічыльніка,—гэта настолькі апрыкрала дзяўчыне, што часамі хацелася кінуць усё і пабегчы ў поле ці на ферму, туды, дзе яе сяброўкі рабілі нешта больш значнае. Жаданне дзяўчыны ўрэшце споўнілася. Яе накіравалі на ферму свінаркай. Не дзіўна, што дома яе рэдка можна застаць. Варта толькі паглядзець на ўкормленых свінаматак, якіх даглядае Люба, на жвавых бялютkіх парасят, якія аж свецяцца, як пераканаешся, што яны за клапатлівым гаспадарскім доглядам.

Расказваючы аб справах майскіх комсамольцаў, нельга абыйсці маўчаннем і работу калгаснага радыёвузла. Зараз у сяле нават і старыя гавораць.

— Радыё — цудоўная рэч, але неспакойная...

Калгаснікі памятаюць такі выпадак. Аднойчы нехта спазняўся на працу. І вось ва ўсіх кватэрах, а таксама і на вуліцы, дзе ўстаноўлены рэпрадуктары, пачуўся голас:

— Шаноўны таварыш!... Правер свой гадзіннік!

Гэта быў голас не маскоўскага дыктара, а тэхніка калгаснага радыёвузла Міколы Серадоўнікава. Па радыё ў Майскім перадаюцца розныя аб'явы, звесткі аб выніках соцыялістычнага спаборніцтва, спартыўныя навіны. З чытаннем лекцый выступаюць перад мікрафонам медыцынскія работнікі з калгаснага ўрачэбнага ўчастка і настаўнікі Майскай сярэдняй школы.

Немагчыма расказаць аб усім тым добрым, што робяць сёння майскія комсамольцы. І ўсё-ж хочацца назваць імёны аграногма Алесі Бобрыкавай, даяркі Людмілы Прыцавай, звеннявой ільнаводчага звяна Іны Рубахінай, калгаснікаў-паляводаў Васіля Герыловіча, Уладзіміра Селіванава, Дзямяна Сталярова. Усе яны карыстаюцца заслужанай павагай у аднавяскоўцаў. І гэтая павага заваявана працай.

Любяць у Майскім спорт. Аднак ранейшы старшыня калгаса не вельмі спрыяў моладзі ў разгортванні спартыўнай работы. Таму і тыя спартыўныя секцыі, якія ў свой час былі арганізаваны, пасля распаліся. Праўда, у апошні час справа паляпшаецца.

...У спартыўнай зале школы ў адзін з вечароў сабраліся аматары спорту, каб абмеркаваць план будаўніцтва новага стадыёна. Тыя, хто прышоў загадзя, абступілі брусся, якія стаялі ў зале. Кожны па чарзе паказваў, што ўмеў.

Калі ў гэтую хвіліну ў зале паказаўся старшыня калгаса, усе паглядзелі на яго. Ён падыйшоў да бруссяў, скінуў пінжак і гэтак варухнуў плячамі, быццам скінуў з сябе гадоў з трыццаць.

Лёгкі, парывісты рух—і Іван Цітавіч асядлаў брусся. А калі ён выходзіў рукамі на стойку, позіркі ва ўсіх былі поўны захаплення, а ў некаторых, можа, і зайздрасці.

Абмеркаваўшы план новага стадыёна, хлопцы і дзяўчаты разыходзіліся ў добрым настроі. Яны ішлі, упэўненыя, што план гэты не будзе пахаваны ў кіпах паперы, бо ў ліку яго аўтараў быў і сам старшыня калгаса.

Ад'язджалі з Майскага мы раніцой. Зара залацілa разгалістыя кроны дрэў, якія ўсняліся амаль каля кожнага дома. Побач з карчастымі шматгадовымі яблынямі і грушамі, якія ўжо шмат пабачылі на сваім веку і голлі якіх ужо не раз згіналіся пад цяжарам пладоў, цягнуцца да сонца маладыя цыбатыя дрэўцы. Калі па іх вецці прабяжыць лёгкі ветрык, здаецца, яны прывітальна ківаюць праменнаму ранку, які займаецца над Майскім.

**Калгас «Рассвет»**
**Жлобінскага раёна.**

«Добрыя будуць памідоры!» — брыгадзір садова-гароднай брыгады Валянцін Казлоў і аграном Аляксандра Бобрыкава праводзяць кантрольны агляд парнікоў.

Фото А. Дзітлава.



# БЕЛАРУСКІ ЭКАНАМІЧНЫ РАЁН

**У гутарцы з нашым карэспандэнтам загадчык аддзела цяжкай прамысловасці і транспарту ЦК КП Беларусі Н. Д. Маліненка расказаў:**

**— Тэзісы даклада таварыша Н. С. Хрушчова «Аб далейшым удасканаленні арганізацыі кіравання прамысловасцю і будаўніцтвам» выклікалі ўсенароднае адабрэнне. Працоўныя нашай рэспублікі, як і ўвесь совецкі народ, справядліва бачаць у іх новае праяўленне клопатаў Комуністычнай партыі і Совецкага ўрада аб далейшым росце магутнасці Совецкай дзяржавы, аб новым росквіце соцыялістычнай эканомікі, культуры і дабрабыту совецкіх людзей. У тэзісах абагулены багаты вопыт эканамічнага развіцця нашай краіны за сорак год існавання совецкай улады, дадзен глыбокі аналіз арганізацыйных форм і метадаў кіраўніцтва народнай гаспадаркай на розных этапах соцыялістычнага будаўніцтва, ускрыты наяўныя недахопы ў кіраўніцтве прамысловасцю, вызначаны шляхі іх ліквідацыі.**

**Перабудова кіравання прамысловасцю і будаўніцтвам, пераход да больш дасканалых форм кіраўніцтва дасць магчымасць ліквідаваць ведамасныя перашкоды, больш аператыўна вырашаць пытанні развіцця эканомікі саюзных рэспублік, палепшыць пытанне спецыялізацыі і кааперавання, лепш выкарыстоўваць вытворчыя магутнасці, палепшыць матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне прадпрыемстваў. Цэнтр цяжару па кіраўніцтву прамысловасцю і будаўніцтвам будзе перанесены з шматлікіх міністэрстваў і ведамстваў у эканамічныя раёны.**

**Беларуская ССР — буйны эканамічны раён нашай краіны. За гады совецкай улады з адсталай ускраіны царскай Расіі яна ператварылася ў індустрыяльную рэспубліку з добра развітай прамысловасцю. Цяжка цяпер знайсці такі куток у нашай краіне, куды не ішла-б прадукцыя з прамысловых прадпрыемстваў Беларусі. Трактары і аўтамабілі, падшыпнікі і сельскагаспадарчыя машыны, веласіпеды і матацыклы, электрашчыты і дарожныя машыны, тэлевізары і радыёпрыёмнікі, піаніна і абутак, тканіна і адзенне, — усе гэтыя віды прадукцыі добра вядомы не толькі ў нашай краіне, але і за рубяжом.**

**У сучасны момант рэспубліка выраблае 11,2 працэнта трактароў, 9,5 працэнта металарэжучых станкоў, 9,6 працэнта матацыклаў, 14,6 працэнта веласіпедаў ад агульнасаюзнай вытворчасці.**

**Асабліва развілося за апошнія гады машынабудаванне. У Беларусі ёсць 7 станкабудаўнічых заводаў, 2 заводы дарожнага і меліяратыўнага машынабудавання, 2 заводы сельскагаспадарчага машынабудавання, 3 заводы па вырабу машын для тарфяной прамысловасці. Хутка развіваецца прамысловасць будаўнічых матэрыялаў, тэкстыльная, прамысловасць па пярвічнай апрацоўцы ільну і канапель, харчовая і г. д. Толькі ў пятай пяцігодцы было пабудавана і ўведзена ў эксплуатацыю 150 буйных прадпрыемстваў. На Мінскім аўтазаводзе створаны самы магутны ў Еўропе аўтамабіль — 40-тонны самазвал.**

**Сур'ёзным недахопам цяперашняй сістэмы кіраўніцтва прамысловасцю і будаўніцтвам з'яўляецца ведамасная распыленасць, наяўнасць шматлікіх міністэрстваў і ведамстваў. Гэта прыводзіць да паралелізма, перашкаджае рацыянальнай спецыялізацыі і каапераванню ў межах аднаго эканамічнага раёна, выклікае непатрэбныя сустрэчныя перавозкі.**

**Так, напрыклад, Мінскі аўтазавод атрымлівае пакупныя вырабы з 82 прадпрыемстваў, у тым ліку з Беларусі толькі з двух, сыравіну і матэрыялы — з 250 прадпрыемстваў. У той-жа час у Мінску, Гомелі, Віцебску можна было-б арганізаваць выраб такіх матэрыялаў, як гумава-тэхнічная, пластмасавая, шкло і г. д. Мінскі інструментальны завод вывозіць вялікую колькасць інструменту за межы рэспублікі. У той-жа час трактарны, веласіпедны і многія іншыя прадпрыемствы прывозяць яго з Новасібірска, Масквы, Чэлябінска. Скажам, сёдлы і сумкі для веласіпедаў і матацыклаў мотавелазавод прывозіць з Масквы, а іх можна было-б вырабляць на Мінскай скурагалантарэйнай фабрыцы імя Куйбышава.**

**Для кіраўніцтва прамысловасцю вырашана стварыць Совет народнай гаспадаркі Беларускай ССР. Кіраўніцтва Соўнаргасам будзе ажыццяўляць прэзідыум, у які ўвойдуць старшыня, яго намеснік і іншыя кіруючыя работнікі Совета. Пры Совеце народнай гаспадаркі будзе створан Тэхніка-эканамічны совет. У яго ўвойдуць буйныя спецыялісты, вучоныя, наватары вытворчасці, кіраўнікі партыйных, совецкіх, профсаюзных, комсамольскіх і іншых арганізацый.**

**Соўнаргас аб'ядная звыш 800 прадпрыемстваў, на якіх занята каля 300 тысяч рабочых.**

**Для аператыўнага кіраўніцтва прамысловасцю мяркуецца стварыць 14 галінавых упраўленняў. Намечана стварыць упраўленні — энергетыкі, паліва, мясной і малочнай прамысловасці, машынабудаўнічай і станкаінструментальнай прамысловасці і іншыя.**

**Са стварэннем Соўнаргаса вызваліцца звыш 500 кваліфікаваных спецыялістаў, здольных арганізатараў вытворчасці, якія з міністэрстваў і ведамстваў пойдуць на фабрыкі і заводы.**

**Перабудова кіравання прамысловасцю і будаўніцтвам будзе садзейнічаць новаму буйнаму ўздыму эканомікі і культуры нашай краіны, хутчэйшаму ажыццяўленню гістарычных рашэнняў XX з'езда КПСС.**



*З апавяданняў, якія прэміраваны на фестывальным конкурсе.*

# ПАТРУЛІ

**Васіль БЫКАЎ**

**Апавяданне**

Мал. Ф. Бараноўскага

У нізкім мураваным пад'ездзе старога будынка-інтэрната стаялі два хлопцы. Адзін, Піліп Лапата — прысадзісты, дужы дзяцюк у чорным гарнітуры, пінжак якога аж напяўся на яго шырокіх плячах. Ён нецярпліва пазіраў маленькімі вочкамі на двор, відаць, кагосьці чакаў. Другі—абыякавы да непакою таварыша, Алесь Вострыкаў, спакойна і задуменна калупаў заплямленую, даўно нефарбаваную сцяну. На твары яго з драбнаватымі рысамі ляжала паныласць. Быў ён невялічкі, тонкі, у старэнькай аблезлай, але добра вымытай фэзэзэнаўскай форме. Калі нарэшце са двара паказаўся трэці, той, каго чакалі тут, Піліп загаварыў, і яго басавіты голас, нібы ў дзежцы, забумкаў пад нізкім скляпеннем пад'езда.

— Ну, чаго ты так доўга, Сёмка?

— Ат!—махнуў рукой Сёмка.—Няма кім падмяніць. Пайшлі!

Юнак быў відавочна раззлаваны нечым, і яны ўдвух з Піліпам падаліся на вуліцу. Алесь даў ім мінуць сябе і нетаропкай, сумнай хадой пабрыў следам за імі па вуліцы.

Сонца схавалася за дахамі, але яго няяркія бліскучыя промні яшчэ поўнілі спакойны блакіт нізкім святлом адвячорка. Там, угары, было светла, цёпла і ўтульна, і ў самым зеніце, быццам ладкуючыся на адпачынак, спыніла свой імклівы дзённы бег белая хмурына. На зямлі ад нагрэтых камяніц патыхала духатой, пахла пылам; як звычайна ў суботу, на тратуарах тоўпіліся пешаходы, а спазнелыя аўтамабілі пакідалі за сабой устойлівы ў цішы пах адпрацаванага бензіну.

Алесь паныла ішоў за таварышамі і моцна крыўдзіўся. І як было не крыўдзіцца, калі тыя хлопцы, з якімі ён бадай з год працаваў на адных рыштаваннях, жыў у адным інтэрнаце, сёння так пагардліва паставіліся да яго.

Уся справа пачалася адвячоркам, калі ад іхняй брыгады садзеяння міліцыі вылучаўся камсамольскі патруль. На гэта прызначылі двух: Піліпа Лапату і Сёмку Зубрыцкага. Трэцім упершыню сёння наказалі збірацца яму, Вострыкаву. Алесь пачысціў свой старэнькі фэзэзэнаўскі гарнітур, прышыў белы каўнерык, наваксаваў гамашы і, крыху ўзрушаны, чакаў часу выхаду. Але тут выявілася, што Сёмка і Піліп незадаволены трэцім супольнікам і не хочуць разам з ім ісці ў патрульства. Алесь, па-праўдзе кажучы, разумеў іх: для такой справы патрэбны быў байкі, рухавы хлопец. Ён-жа, чалавек сціплы, не дужа смелы і не дужа моцны, з незнаёмымі трымаўся зважліва і пачціва і заўсёды гатовы быў уступіць сваё месца больш вартаму. Але вось больш вартага і не знайшлося сёння ў іхнім інтэрнаце. Усе пасля работы разышліся хто куды, у пакоях было пуста, і Алесь мусіў збірацца з Піліпам і Сёмкай, якія злавалі, што ў іхнюю кампанію трапіў нежаданы чалавек.

Праўда, яны хутка забыліся на сваю злосць. Жвавы чарнавокі Сёмка шпарка сігаў па тратуары і, цікуючы між сустрэчных прыгожых дзяўчат, апавядаў нешта вясёлае, а Лапата слухаў і ляніва ўхмыляўся вузенькімі вочкамі на сваім дабрадушным санлявым твары. На Алеся яны махнулі рукой — ат, маўляў, няхай ідзе, калі хоча. А не хоча, дык няхай вяртаецца, бяда невялікая.

Але Вострыкаў не вярнуўся, а з самотнымі думкамі ішоў следам. Ды і чаго было вяртацца, калі ў інтэрнаце пуста і сумна. Блізкага сябра ў Алеся яшчэ не было, і ніхто яго не чакае там. Другія неяк зыходзіліся, разам працавалі, разам гулялі, а ён, ціхі, сціплы і непрыкметны, ад усіх заставаўся ўбаку. У сяброўства да яго ніхто не набіваўся, ды і ён асабліва не лез да чалавек.

Хлопцы прайшлі людным вуліцай, мінулі ўжо агорнуты вячэрняй цішынёю парк і падыйшлі да гаркомаўскага дома. Толькі тады, адчыняючы зялёныя дзверы ў мураванай браме, Лапата азірнуўся і ўбачыў Алеся, які ўпарта цягнуўся ззаду. Піліп знарок моцна грукнуў дзвярыма і ўвайшоў у двор.

Там ужо было шмат народу—навучэнцы школ ФЗН, студэнты педінстытута, чыгуначнікі і маладыя рабочыя заводаў, — яны сабраліся сюды і чакалі інструктажу. Трымаліся ўсе купкамі, сядзелі на ганку, уздоўж сцяны і нават на нізенькім штыкетніку, што стаяў ля брамы.

Увайшоўшы сюды, Алесь разгубіўся, не ведаючы, куды падацца. Ён убачыў сваіх, Сёмку і Лапату, якія ўжо размаўлялі з нейкім віхрастым у акулярах хлопцам. Алесь здалёк ваўкавата паглядзеў у іх бок, але не пайшоў туды, а, уздыхнуўшы, прыткнуўся ля штыкета, побач з групай гаваркіх студэнтаў.

Блізка за брамай гаманіла вуліца, шорхалі ногі па асфальту, і ў двор даносіліся ўрыўкі чужых вясёлых размоў. У двары таксама шумелі галасы, адчуванне нязведанай новай справы ўзнесла хлапечы настрой. Студэнты ўжо, відаць, не ўпершыню выпраўляліся ў патрульства і цяпер дасціпна фантазіравалі на тэму начных прыгод. Усе навокал гаманілі і смяяліся, прадчуваючы забаўныя падзеі, адзін толькі Алесь Вострыкаў, маўклівы і насуплены, сядзеў тут, на мулкім штакетніку, і дзёўб абцасам хамлачкі ўпартай да жыцця мураўкі.

Але вось той віхрасты ў акулярах, з якім размаўлялі хлопцы, выйшаў на сярэдзіну і сказаў, што трэба пастроіцца. З жартамі і вясёлымі кпінамі наконт свайго вайсковага спрыту моладзь падалася да яго і пачала нязграбна станавіцца ў шарэнгу. Алесь таксама ўстаў і, не ведаючы, дзе прыступіцца, стаяў зусім разгублены і чамусьці ніякавата моршчыў кароценькі, амаль дзіцячы нос. Ён пэўна стаў-бы дзе-небудзь на левым флангу, калі-б не пачуў баслівы голас Піліпа Лапаты:

— Вострыкаў, давай сюды!

І дзіўная справа душа чалавечая! Знаёмы лапатаў голас прагучаў сярод гоману, як нешта сваё, блізкае і роднае. Алесь адразу адчуў, што трымацца воддаль і замкнёным у яго нестае моцы. Адчуваючы, як пацяплела ў душы, ён знарок паволі падыйшоў да хлопцаў і дзікавата яшчэ стаў у шэраг побач з Лапатам. Выроўніваючыся, хлопцы спачатку штурхаліся і сціскалі яго, паводзячы з боку ў бок, а потым неяк выпхнулі ў першы рад, дзе было вальней, і ён такім чынам апынуўся ля Сёмкі, які нядобра паглядзеў на яго.

Калі шум крыху ўгаманіўся і шарэнга якконечы ўладкавалася на двары, віхрасты ў акулярах аб'явіў, што ён — начальнік штаба камсамольскіх патрулёў, і пачаў інструктаж. Ён сказаў, што ў горадзе здараецца шмат хуліганскіх учынкаў, што камсамол павінен выкараняць іх, і для таго прызначаюцца патрулі, у задачу якіх уваходзіць выяўляць хуліганаў і папярэджваць хуліганства. Дзесяткі з тры хлопцаў уважліва слухалі яго. Потым віхрасты разгарнуў спіс, што трымаў у руцэ, і пачаў размяркоўваць патрулёў па аб'ектах.

Пакуль называліся незнаёмыя прозвішчы і вызначаліся месцы, Алесь пазіраў на начальніка штаба і пацішу слухаў, як шавяліўся збоку яго сусед Сёмка. Ён усё перашэптваўся нешта з Лапатам і хіхікаў нямаведама чаго. Алесь не паварочваўся і не ўнікаў у іхнюю весялосць.

Нарэшце дайшла чарга і да іх. Віхрасты выйшаў на сярэдзіну шэрага і зачытаў:

— Дзесяты будтрэст: Лапата, Вострыкаў, Зубрыцкі. Будзеце патруляваць па вуліцы Пясчанай і ля інтэрната цагельнага завода. Звярнеце асаблівую ўвагу на клуб завода. А хто старшы ў вас?

Начальнік бліснуў акулярамі, нібы стараючыся ўбачыць у шэрагу будаўнікоў старшага, але тыя стаялі маўклівыя і не ведалі, хто ў іх старшы.

— Што, няма старшага?— перапытаў ён.— Ну вось... Вострыкаў і будзе ім.

Алесь збянтэжана зірнуў на начальніка штаба, не ведаючы яшчэ, жартуе той, ці сапраўды загадвае яму. Але пакуль хлопец гадаў аб ягоным намеры, віхрасты ўжо зрабіў адзнаку ў сваім спісе.

— Я не старшы,— запярэчыў Алесь.— Я не ўмею.

Аднак начальнік штаба толькі ўсміхнуўся.

— Ну, што вы? Зможаце, гэта нескладаная справа.

Алесю зноў стала ніякавата, праўда, ужо з нейкай іншай прычыны, чым раней. Лапата ззаду прыцік тады, а Сёмка неяк адразу насцярожыўся. Алесь не бачыў, але, стоячы побач, адразу адчуў гэта. Начальнік тым часам падаў яму чырвоную нарукаўную павязку старшага патруля і зноў паўтарыў, на што трэба звярнуць асаблівую ўвагу.

Так нечакана для сябе Алесь зрабіўся старшым. І толькі калі віхрасты перайшоў да іншых, паверыў, што ўсё гэта адбылося ўсур'ёз і канчаткова.

Нарэшце ўсе справы былі скончаны. Хлопцы ў двары парушылі строй, з гамонкай і мітуснёй збіраючыся разысціся па сваіх вуліцах, калі віхрасты зноў узняў руку:

— Адну хвіліну, таварышы! На мінулым тыдні ў горадзе з'явіўся рэцыдывіст, нехта па мянушцы Фараон. Калі дзе хто заўважыць гэтага бандзюгу, то даць сігнал абавязкова. Міліцыя на яго ўжо справу мае.

Двор пачынаў пусцець, хлопцы адзін за адным выходзілі, скрыпаючы дзвярыма. Алесь, не звяртаючыся да таварышаў, як кольвечы сам завязаў на рукаве канцы павязкі і зірнуў на хлопцаў.

Яны стаялі збоч ад яго і пазіралі на новага начальніка. Лапата, як заўсёды, заклаўшы рукі ў кішэні, ледзь варушыў сваімі белаватымі вейкамі. І хто ведае, што было ў тым яго позірку? Сёмка-ж неяк стрымана ўсміхаўся, але, здаецца, у жвавых чорных вачах яго хавалася насмешка. І хоць у Алеся прапала ўжо ўся крыўда на хлопцаў, гэтая ўсмешка неяк стрымлівала яго ад канчатковага збліжэння. Усё-ж хлопец, узяўшы на сябе пэўны клопат за справу, знарок проста, нібы між імі нічога і не здарылася, сказаў таварышам:

— Ну што? Пайшлі.

— Лавіць Фараона?— перапытаў Сёмка і з'едліва ўсміхнуўся.

— Пойдзем, — няпэўна адазваўся Лапата, і яны выйшлі на вуліцу.

Сёмка і Піліп усё трымаліся поплеч, толькі крочылі ззаду, падкрэслена прапусціўшы наперад старшага з павязкай. У людской цеснаце яны ішлі ля магазінаў. Алесь трошкі пакасіў вокам у бок люстранай вітрыны і аж не пазнаў там сябе. За тоўстым шклом у нагу з ім рухаўся белатвары хлопец у чысценькім выпрасаваным гарнітуры, і на яго рукаве ўрачыстай чырванню зззяла павязка. Крышачку сароменючыся за сваё незаслужанае старшынства, Алесь ішоў нетаропкім, важным крокам, як ходзяць патрулі-салдаты, і з сур'ёзнай мінай углядаўся ў постаці сустрэчных.

Злева, за беленай фігурнай агарожай, стаіўся стары парк. Тут быў глухі бок яго. Дрэвы стаялі паніклыя ў цішы, і між іх галля ўжо гусцеў змрок. На слупах запаліліся ліхтары, але было яшчэ відно, і іх святло марна таяла ўгары, цьмяна асвятляючы толькі блізкае вецце дрэў. У канцы вуліцы залаціста-палевым бляскам святлеў заходні ўскраек неба, аздоблены нізкай барвовай хмурынкай.

Хлопцы ішлі і ішлі ў напрамку тае хмурынкі, і ўжо ззаду засталіся людныя вуліцы і шматпавярховыя дамы. Лапата і Сёмка нешта перагаварыліся і жартавалі між сабой, а Вострыкаў пільна глядзеў па баках. Ён паранейшаму адчуваў сябе не зусім ёмка ў гэтай новай ролі. Праўда, тут, на ўскраіне, дзе прахожых было меней, ён неспакойнеў, а дагэтуль усё здавалася хлопцу, што сустрэчныя з іроніяй і кпінамі пазіралі на яго і, пэўна, думалі: «Вось найшоўся яшчэ ўпарадкавальнік, блазан гэткі!» Асабліва дапякалі яму няпэўныя адносіны таварышаў. Была-б гэта якая іншая справа, менш сур'ёзная, дык ён кінуўбы турбавацца і трымаў-бы сябе куды вальней. Але зараз ён быў галоўным тут, ад яго залежала дзейнасць патруля. І ён адказваў за яе перад гаркомам камсамола. Хлопец адчуваў гэтую адказнасць і хацеў выконваць свае абавязкі як мага лепш.

На скрыжаванні двух пыльных нябрукаваных вуліц ім сустрэліся двое юнакоў. Добра апранутыя, у шэрых гарнітурах з белымі каўнярамі паверх пінжакоў, яны шыбавалі пасярэдзіне вуліцы, трымалі ў роце цыгаркі і адмыслова лаяліся. Увесь іх выгляд быў нахабны і сведчыў, што хлопцы не прывыклі зважаць на чые-небудзь заўвагі. Алесь ведаў, што з такімі чапляцца — не абыйдзешся без сваркі. Другім разам ён паціху прамінуў-бы іх, і нават зараз яму вельмі карцела зрабіць гэта. Але абавязкі — ёсць абавязкі, і, неяк пераадолеўшы нерашучасць, ён спыніўся на асветленым ліхтаром месцы.

— Хлопцы, трэба цішэй, — як мага спакайней сказаў ён. Юнакі спынілі лаянку і, падазрона ўглядаючыся, збочылі да яго. Лапата і Сёмка адсталі ад свайго старшага крокаў на дваццаць і, размаўляючы, шпацыравалі па тратуары. Апрача іх на вуліцы, здаецца, не было нікога.

— Што трэба, блазан?

Гэта прамовіў пярэдні, нізкарослы таўсцяк. Ён насупіў бровы і, выцягшы з кішэні рукі, пагрозліва наблізіўся да Алеся. Другі, сутулы і высокі, змрочна аглядаючы яго, таксама падыйшоў і стаў з другога боку.

Алесь адчуў сябе ніякавата ад такога пагрозлівага намеру, але прыкідваючыся, што не прыкмячае нічога незвычайнага, цвёрда сказаў:

— Мы—камсамольскі патруль. Прашу трымаць сябе культурна.

— Ха! Патруль!—гыркнуў высокі, і яны насмешліва пераглянуліся.— Дык што табе, па пяснях заехаць?

Але тут падыйшлі Сёмка і Лапата і моўчкі, з гатоўнасцю дапамагчы, сталі ззаду. Хуліганы, відаць, зразумелі, што на баку патруля не толькі законнасць, але і сіла, і бокам падаліся далей. Ужо адыйшоўшы, яны вылаяліся і зніклі ў змроку вуліцы.

Патрулі пайшлі далей. Абапал вуліцы цягнуліся нізкія аднапавярховыя дамы. У асветленых вокнах часам з'яўляліся жаночыя постаці, папраўлялі фіранкі, ці завешвалі іх. К ночы моцна пахла бульбоўнікам з гародаў і нечым смажаным, што рыхтавалася на вячэру... Алесь крыху хваляваўся ад не вельмі прыемнай першай сустрэчы і вырашыў цяпер трымацца разам. Лапата і Сёмка ішлі моўчкі. Потым Лапата сказаў:

— Аднак ты, гляджу, зубасты.

Алесь не ўцяміў, была гэта пахвала ці дакор, ці мо' толькі насмешка і адказаў, думаючы пра тых нахабнікаў:

— Іх трэба было як след прабраць.

— Затрымаць ды ў штаб адвесці,— сур'ёзна зазначыў Лапата.

Сёмка, усё штосьць скептычна ўсміхаючыся, сказаў:

— Што з імі валэндацца? Набіць-бы каркі ды і ўсё. Я-б ім паказаў!

Ужо бадай добра сцямнела, калі яны прыйшлі на вуліцу Пясчаную. Гэта была звычайная на ўскраіне вуліца — ціхая, з невялікімі прыватнымі домікамі, садамі і гародамі. Між дамоў цягнуліся высокія платы, над імі ў зорным небе чарнелі вішнякі і ў дварах лязгалі ланцугамі сабакі. Хлопцавы камашы мякка ступалі па ўтаптанай мураве, дзе пасвіліся ўдзень шматлікія гусіныя статкі. У канцы вуліцы згрувасціліся баракі, павеці і абапальныя карпусы цагельнага завода.

Высокае, цёмнае неба заззяла безліччу мігатлівых іскрынак. Няроўнай паласой праз зорныя абшары рассыпаўся Млечны шлях. Пасля гарадскога тлуму тут, на ўскраіне, было неяк незвычайна ціха і глуха. Здалёк даносіліся толькі гудкі паравозаў на станцыі, ды на гарадскіх вуліцах бліскалі фары аўтамабіляў — іх далёкае святло палахліва блукала па сценах будынкаў.

Хлопцы прайшлі між змрочных нямых карпусоў цагельнага завода, мінулі інтэрнат. Усюды было спакойна. Вокны ў будынках ярка свяціліся, часам бразгалі дзверы, і з фортак выляталі гукі радыё. У прысадзістым доўгім будынку клуба, відаць, ішло кіно. Сінаватыя промні, быццам нацягнутыя трапяткія струны, снавалі там у цемнаце над галовамі гледачоў. Патрулі спыніліся перад вокнамі, зазірнулі на экран, і Сёмка раптам узгарэўся жаданнем:

— Давайце паглядзім, — прапанаваў ён Піліпу. Алесь прыкмеціў, што Сёмка чамусьці не размаўляў з ім і звяртаўся да аднаго Лапаты. Разважыўшы, што гэтая благая справа — глядзець кіно, калі яны прызначаны патруляваць, старшы запярэчыў:

— Ну, нельга так. Трэба хадзіць.

— Вось мне яшчэ камандзір знайшоўся! — злосна асек яго Сёмка. — Нельга, нельга!.. Хадзем, Піліп, нас пусцяць.

Але Піліп таксама адмовіўся, і яны зноў пайшлі назад ранейшым шляхам. Цяпер ужо ззаду ішоў Сёмка. Ён пакрыўдзіўся ці раззлаваўся і не размаўляў ні з кім.

Так яны патрулявалі на Пясчанай і апынуліся ў пачатковым пункце свайго маршруту. Час набліжаўся да поўначы. Вокны ў дамах ужо гаслі патроху, і ўскраіну ўсё мацней апаноўвала начная ціша. Патрульства канчалася, і Алесь нават пашкадаваў, што нічога так і не здарылася ў гэты вечар. Пакрысе ён ужо асвоіўся з новымі абавязкамі і хацеў, каб яшчэ што-небудзь здарылася, каб была якая карысць ад яго намаганняў.

У канцы вуліцы яны спыніліся ля воданалорнай калонкі. З яе загнутай трубы ціхенька цурчэў у цемры тоненькі струменьчык, і



хлопцы па чарзе напіліся сцюдзёнай вады, потым пастаялі крыху.

— Ну што, бадай, хопіць на сёння? Пайшлі дамоў, — сказаў Сёмка, кінуў і затаптаў акурак.

— Яшчэ-б трэба на цагельны наведацца, — запярэчыў Алесь.

— Ат, што там хадзіць! Усюды спакойна.

— Але-ж там сеанс хутка скончыцца.

— Мне ўжо надакучыла бадзяцца, — стаяў на сваім Сёмка. — Пайшлі, Піліп!

Агеньчык ля піліпавага твару ўзгарэўся ў цемры, потым патух, і Піліп сказаў з нечаканай прыкрасцю ў голасе:

— Што-ж, аднаго Алеся пакідаць, ці што? Трэба патруляваць, калі прызначылі.

Сёмка крута павярнуўся да яго і ўраз насцярожыўся, пэўна, пакрыўджаны адказам. — — Што, мо' хочаш падзяку з ім зарабіць? — з'едліва сказаў ён, гатовы, відаць, пасварыцца.

— Нашто падзяку, — спакойна адказаў Піліп. — Проста трэба прайсці.

— Ну і ідзі! — са злосцю кінуў Сёмка і хутка пайшоў ад іх.

Алесю не спадабалася гэта, але ён не спрачаўся. Сёмка быў разумнейшы, байчэйшы за яго і з усякай сваркі заўсёды выходзіў пераможцам. Алесь-жа вельмі не любіў сварыцца і часта ўступаў крыклівым, нават тады, калі праўда была на яго баку. Яму цікава было толькі: чаго гэта Сёмка, звычайна такі актыўны ў камсамольскіх справах, гэтак занатурыўся сёння. І паступова ў Алеся выплыла думка, ці не яго старшынства таму прычынай? Калі так, то які дзівак тады гэты Сёмка! А Лапата вось, здаецца, іншы, куды працейшы і зразумелы, — таксама новая рыса ў чалавеку, бо Піліп і Сёмка даўно сябравалі і многія лічылі, што ў іх роўныя характары.

Застаўшыся ўдвух, Алесь і Піліп моўчкі пастаялі крыху, потым Лапата сказаў, таксама, відаць, думаючы пра Сёмку:

— Раззлаваўся дурань.

— Давай, Піліп, хутчэй пойдзем, а то сеанс скончыцца, — сказаў Алесь, і Піліп, зразумеўшы таварыша, згодна налёг на хаду. Праз колькі часу хлопцы зноў уваходзілі на тэрыторыю цагельнага завода.

Кіно ўжо скончылася. Ля клуба чулася гамонка. У розных кірунках разыходзіліся людзі. У цемры блішчэлі ручныя ліхтарыкі. І раптам аднекуль данёсся жахлівы крык:

— А-а-й! Ратуйце! Людзі!

Гэты крык і словы скаланулі хлопцаў. Алесь устрапянуўся і кінуўся бегчы проста на голас. За ім — Лапата.

І тут насустрач ім вынырнулі цьмяныя постаці. Яны набліжаліся да патрулёў, гучна тупаючы нагамі. І толькі, калі ззаду ў другі раз пачуўся прарэзлівы жаночы крык, Алесь зразумеў, хто гэта ўцякаў. Але на нейкі момант ён разгубіўся і, відаць, спазніўся. Покуль хлопец што-кольвечы сцяміў, трое ўцекачоў ужо міналі іх, і тады раптоўна, ахоплены нейкай ледзянячай душу трывогай, Алесь дзікім голасам крыкнуў:

— Стой!!! — і што было сілы кінуўся ўслед.

Куды прапаў Лапата, ён і не заўважыў нават. Пэўна той падаўся туды, дзе здарылася няшчасце. Ды ў першае імгненне Алесь і не зважаў на яго адсутнасць. Ён імчаў, што аж нагам было балюча, і сэрца, захлынаючыся, калацілася ў грудзях. Але ўцекачы, пэўна, ведалі, што ў іхніх нагах — іх паратунак, і таксама добра імчаліся па цёмнай вуліцы. Нейкі час адлегласць між імі і Алесем амаль не скарачалася. Алесь бачыў, а хутчэй адчуваў у цемры толькі прыгнутую постаць задняга ўцекача, пярэднія-ж хутка зніклі, відаць, пахаваліся недзе.

Узрушаны жудасцю здарэння, Алесь наважыўся абавязкова дагнаць злачынцу. Ён не думаў, як здолее затрымаць яго, не ведаў, ці хопіць у яго сілы і смеласці зрабіць гэта. Ён толькі адчуваў сваю адказнасць за яго затрымку, і гэтае адчуванне зараз было мацней за ўсе іншыя пачуцці.

Урэшце яны апынуліся ў тым месцы, дзе была калонка і дзе яны яшчэ нядаўна стаялі ўтраіх. Алесь, сабраўшы ўсе сілы, паскорыў бег і ўхапіў злачынцу ззаду за яго адзежыну. Уцякач спатыкнуўся, і яны абодва з лаянкай пакаціліся па вуліцы.

— За... рэж... ах..., — задыхаючыся ад зморанасці хрыпеў валацуга. Алесь, падаючы цераз яго, ухапіўся за нешта мяккае, але атрымаў моцны штуршок у бок і скурчыўся ад болю, а той вырваўся і ўскочыў. Яны сутыкнуліся на нейкі вельмі кароткі момант, але хлопец паспеў адчуць яго моцнае пругкае цела і зразумеў адразу, што той намнога мацнейшы. Як цяпер быў патрэбны Лапата, але яго не чуваць было — навокал ляжаў сонны маўклівы змрок.

Устаўшы на ногі, злачынца адразу кінуўся наперад. Алесь, ледзь аддыхаўшыся ад зморанасці і болю ў баку, зноў кінуўся за ім. Крыўда, злосць і боль ахапілі яго істоту, і думка, што, не ўтрымаўшы злачынцу, ён ужо не зловіць яго, моцна спалохала хлопца. Усё-ж ён імчаўся следам і зноў ледзь не ўхапіўся за ўцекача. Але калі яго рука ўжо выцягнулася, той крута збочыў, і Алесь апынуўся перад пустой дзіркай у высокім плоце. А з другога боку плота чулася зморанае цяжкае дыханне і злосны, поўны нянавісці і лютасці хрып злачынцы...

— Ну ідзі, гад... калі... жыць надаела!

І бадай упершыню з таго часу, як ён пачуў той жахлівы крык на заводзе, хлопец зразумеў, якая небяспека пагражае і яму. А калі зразумеў, дык у адчуванне раптам пракраўся страх. У цемры за плотам ён адчуў лютасць раз'юшанага ўжо злачынствам чалавека і зразумеў яго рашучасць прыкончыць і другога, хто стаў на яго шляху да выратавання.

Але што было рабіць? Яго назначылі старшым камсамольскага патруля, усклалі пэўныя абавязкі, надзеі. І ці мог-жа ён пасля гэтага пакінуць злачынца, які ўчыніў мо' нават забойства? А што скажуць хлопцы, калі даведаюцца, што ён упусціў злачынцу толькі таму, што не хапіла смеласці. Не, тут была сіла, мацнейшая за страх, за пачуцце самазахавання — сіла таварыскага абавязку. З усіх людзей Савецкага Саюза Алесь Вострыкаў меў зараз самыя найбольшыя магчымасці злавіць злачынцу, і ён не меў права не выкарыстаць іх.

«Але-ж ён так і ўцячы можа», — мільганула трывожная думка. І хлопец, усё яшчэ пранцяты жахам, на адно кароценькае імгненне перамог нерашучасць і рынуўся ў дзірку. Яго з'яўленне па той бок было якраз упару, бо злачынца ўжо шкрабаў па плоце, спрабуючы пералезці ў суседні двор. Алесь падскочыў да яго і што было моцы рвануў за ногі.

Але той не зваліўся, а моцна ўбрыкнуў нагамі. Ён балюча ўдарыў Алеся абцасам у лоб. Хлопец войкнуў ад болю і, знянацку пачуўшы свой голас, ухапіўся за яго, бы за падмогу:

— Сюды! — закрычаў ён. — Сюды, людзі!

Уцякач на плоце спяшаўся, аднак Алесь хапаў яго за ногі і цягнуў долу. Нарэшце ён зваліўся і накінуўся на хлопца.

У куце між платоў, на лапушыстай, пакропленай начной расой гародніне пачалася лютая барацьба. Злачынца некалькі разоў балюча выцяў хлопца. Алесь адбіваўся, біў, куды трапляла, але ён вельмі хутка адчуў, што перамога будзе не на яго баку. Уцякач кароткай спрактыкаванай хваткай паваліў хлопца і ўсім сваім цяжарам узваліўся на яго. Адной рукой ён лаўчыў ямчэй ударыць, а другой хапаў за горла. Алесь круціўся пад ім, як мог, але ў яго вачах ужо разы са два бліснулі агністыя іскры і заняло дыханне. Нарэшце, з усяе сілы ўстрапянуўшыся, ухапіў зубамі варожую пяцярню, што дабіралася да яго шыі.

Злачынца замычэў ад болю, пакінуў Алеся і зноў рынуўся наўцёкі. Але хлопец не адставаў. Абодва яны выскачылі на вуліцу, і тут бандыт моцным размашыстым ударам выцяў Алеся па твары.

У вачах Алеся бліснуў, нібы лопнуў, нейкі жоўты вогненны шар, ён адчуў, што страціў апору, але ўсё-ж не выпускаў з рук забойцу. Вочы яго раптам заплылі слязьмі ад болю і пякучай крыўды. А той другі раз і трэці ўдарыў па галаве, потым яшчэ і яшчэ. Алесь нарэшце выпусціў яго адзежыну і нема закрычаў. Падаючы ніц, ён яшчэ замахнуў рукой і з апошняе сілы ўхапіўся за нагу свайго ворага, ад чаго той зноў спотырч пляснуўся аб зямлю. У гэты момант хлопец пачуў недалёкія галасы, тупат ног і... страціў прытомнасць.

Хутка навокал загаманілі людзі, нехта падняў Алеся з зямлі. Ён, яшчэ не расплюшчыўшы вачэй, пазнаў зморaны лапатаў голас і, зірнуўшы, заўважыў, што з неба свяціў акрайчык месяца, адна палова вуліцы стулілася ў цяні, а ля другой на відным месцы некалькі цьмяных постацей валтузіліся са злачынцам.

Алесь паволі пераступіў з нагі на нагу і, кульгаючы, падаўся да людзей. Патрывожаная начным здарэннем, вуліца ажывала. Аднекуль з'яўляліся людзі, у веснічках стаялі здзіўленыя поўапранутыя жыхары.

Нарэшце, калі міліцыянер і Лапата звязалі злачынцу рукі, афіцэр міліцыі бліснуў на момант у твар затрыманага кішэнным ліхтарыкам і здзіўлена вымавіў:

— Эге! Ды гэта-ж Фараон! Вось як ты трапіў да нас!

Алесь пачуў гэтае знаёмае імя і аж уздрыгнуў ад страху. Але палохацца цяпер не было чаго. Бандыта моцна трымалі. Наўкол узбуджана гаманілі людзі, і з іх гамонкі Алесь дазнаўся, што гэты рэцыдывіст нажом тарнуў нейкага чалавека, які, казалі, наўрад ці выжызе ад раны.

Бандыта павялі, а да Алеся падыйшоў усхваляваны, зморaны Лапата.

— Ну, як ты? — цяжка дыхаючы, запытаў ён. — Не параніў ён цябе?

— Ды не, — адказаў Алесь. У яго душы адразу павесялела ад чуласці таварыша, а боль і слабасць, здаецца, адразу сталі меншымі.

— А я аж напалохаўся, калі ты знік. Думаў, можа забілі цябе.

Яны зноў пайшлі поплеч за натоўпам, які цягнуўся за міліцыянерамі. На заходняй палове неба з усёй моцы свяціў спазнелы маладзічок і ззялі зоры, а на ўсходняй, ужо разганяючы мігатлівую цемру, плыло іншае святло — там нараджаўся ранак.

У Алеся балела ў баку, балела левая нага і слабасць знясільвала цела. Піліп цяпер не адыходзіў ад яго і, убачыўшы, што хлопцу цяжка ісці, сказаў:

— А ты абапірайся на мяне.

Алесь паклаў на яго плячо сваю руку і глянуў у твар. У прыцемках ён не ўбачыў піліпавага позірку, але, бадай, і не трэба было нічога бачыць. Узаемнае добрае імкненне адзін да аднаго яны разумелі без слоў.

— Што, вельмі баліць нага? — пытаў Піліп. — Давай я цябе паднясу, калі хочаш. Бярыся!

Алесь аж засаромеўся ад гэтай шчырасці, але сказаў, што дойдзе сам: нага баліць, толькі не вельмі.

Яны яшчэ памаўчалі, кожны паасобку думаючы аб сваім, і тады ўпершыню ў іх нарадзілася нешта блізкае, цёплае ў іх адносінах. Потым Піліп сказаў:

— Аднак ты смелы, брат. Ціхі, маўклівы, а нішто...

— І ты таксама... справядлівы.

— А ты не ведаў? — пажартаваў Піліп. — Ды вось мы і спазніліся.

Алесь удзячна зірнуў на яго, іх позіркі сустрэліся, і абодва яны шчасліва засмяяліся.





Уборка радыскі на палях соўгаса «Маяк».

# НА КУРЫЛАХ

„Лі-2", нястомны курыльскі рабацяга, прабіў аблокі і рэзка пайшоў на пасадку.

Мы ў Поўднёвых Курылах, у маладым савецкім краі, на зямлі рамантыкі і подзвігу. Адны называюць Курылы краем туманаў і вулканаў, другія—астравамі магнолій і бамбуку. І тыя і другія маюць рацыю.

Тут сапраўды нікога не здзівіш штормамі і туманамі. На дні надвор'е мяняецца некалькі разоў. На ясным небе раптам паявіцца з боку вулканаў цёмнашэрая шчыльная сцяна туману і засцеле ўсё навакол. А то раптам пачнецца шторм, набягуць шалёныя вятры, ліне халодны праліўны дождж. Акіян кідае на бераг горы-хвалі; усё грыміць, стогне.

Але тут-жа, як і каля Чорнага мора, растуць цудоўныя магноліі, а праз бамбукавыя зараснікі часам нават немагчыма прабрацца. У ціхія, сонечныя дні ўсміхаюцца небу шырокія блакітныя бухты. На фоне неба рэльефна выдзяляюцца абрысы высокіх сопак, ля самых вяршынь якіх застыглі баранчыкі беласнежных воблакаў.

Але самае прыгожае тут, на берагах Ціхага акіяна, дзе пачынаецца дзень нашай Радзімы — гэта людзі: рыбакі, маракі, землярobы, кітабоі... Пераважна гэта — моладзь, камсамольцы.

Нават здалёк няцяжка вызначыць месца, дзе размяшчаецца кітакамбінат «Ясны». Тысячы птушак кружацца, узлятаюць і садзяцца на ваду вакол яго. Гэта так званыя «глупышы». Але кітабоі з любасцю называюць іх «марскімі санітарамі», бо яны старанна падбіраюць адыходы апрацоўкі кітоў і гэтым самым робяць вельмі карысную справу.

Калектыў кітакамбіната ўпарта змагаецца за тое, каб паменш выкідваць у мора адыходаў кітовай тушы. Летась на «Ясным» пачаў працаваць новы, абсталяваны айчынным тэхнікай завод. Яго задача — перапрацоўка «шашлыкоў», як іранічна называюць кітабоі часткі тушы, што ідуць у адыходы.

— «Марскім санітарам» пагражае поўнае беспрацоўе, — жартуе загадчык лабараторыі камбіната Анна Даўгаполава.

З кітовага тлушчу выпрацоўваюць многа карысных рэчаў. Але сам кітовы тлушч цяпер не толькі выплаўляюць у вялізных катлах, але і здабываюць шляхам выціскання са змельчаных кітовых тушаў.

На камбінаце ідзе на перапрацоўку нават кітовае мяса. З яго робяць цудоўныя кармавыя кансервы для жывёлы пушных зверасоўгасаў. З мяса вусатых кітоў летась пачалі рабіць першыя харчовыя кансервы. З кітовых костак і іншых адыходаў завод выпрацоўвае кармавую муку.

Кітакамбінат трымае самую цесную сувязь з кітабойнымі суднамі.

— Курс 110°, праходжу праліў Фрыза..., — чуе радыст паведамленне з нейкага грузавога судна.

— Гаворыць «Орша», гаворыць «Орша». Выйшаў на касяк, —дакладвае на базу капітан рыбалавецкага сайнера.

— Я «Тайфун». Вецер норд-вест, сіла 5—6 балаў. Туман. Бачымасць 100 метраў. Пошукі працягваю.

— Нічога суцяшальнага, — дакладвае радыст ва ўпраўленне камбіната і зноў ловіць пазыўныя кітабойцаў.



Увага! Кіты! Хутка прагучыць выстрал гарпуннай пушкі.



Кітабоец даставіў на камбінат «Ясны» забітых кітоў.

Недзе далёка ад «Яснага», змагаючыся з марскімі хвалямі, шукаюць кітоў маленькія, але вынослівыя кітабойныя судны. Часам бывае, што цэлы дзень барануюць яны акіянскую прастору, а на кітоў так і не трапляюць. Калі-ж пошукі паспяховыя, адразу ляціць у эфір: «Буксірую на «Ясны» кітоў», і тады кітакамбінат становіцца ў баявую гатоўнасць...

Яркае сонца павольна выплывае на гарызонце. Кітабойнае судна «Пурга» трымае курс насустрач новаму дню. На палубе ціха. Вахценны курчыцца ад холаду, глядзіць на гадзіннік — хутка змена, гарачы густы чай. На фок-мачце ў спецыяльнай бочцы, назіральнік пільна аглядае наваколле ў бінокль. Ён заўсёды падае радасную вестку: «Кіты». Але цяпер і ён маўчыць, хоць па разліках капітана Юрыя Аляксандравіча Барысава кіты павінны быць недзе тут.

Капітан задумаўся. У штурманскай каюце па карце ён праверыў курс. Усё, здаецца, як трэба. У чым-жа справа? Вопыт і веданне звычак кітоў падказалі Барысаву, што адыход марскіх жывёл з гэтых месц мора выкліканы змяненнем тэмпературы вады ў прыбярэжнай паласе.

Бясконца цягнуцца гадзіны. Усе насцярожаны, нервуюцца. І раптам радаснае:

— Кітовы статак злева ўперадзе, — паведамляе назіральнік.

Гучыць сігнал. Маракі хутка падняліся на палубу і занялі свае месцы. Поспех залежыць ад гарпунера Андрэя Максімава, рослага маладога хлопца, бывалага кітабоя, наскрозь прасоленага марской вадой.

— Поўны ўперад! — зычна аддае загад Барысаў.

— Пачынаем? — пытае гарпунер.

— Да гарматы! — камандуе капітан.

Боцман і памочнік гарпунера рыхтуюць гармату. «Пурга» хутка набліжаецца да статку кашалотаў. Бачны ўжо шырокія цёмнабурыя спіны марскіх гігантаў, іх маленькія акруглыя плаўнікі, бочкападобныя галовы. У статку не менш дваццаці кітоў. Будзе добрае паляванне.

Гарпунер займае месца ля гарматы. Цяпер ён камандуе кітабойцам. Ён павінен так пасласць зарад — чатырохпудовы гарпун, каб дакладна трапіць у самае слабае месца кіта.

Але раптам няўдача... Афарбоўка мора імгненна змянілася, сонца зацягнулася імглой, насунуўся густы туман і схаваў пад сваёй пеляной кашалотаў.

— Падвесці судно да самага статку, — загадвае капітан. — Пачнем паляванне адразу, як спадзе туман.

Кашалоты плаваюць толькі ў яснае надвор'е, у тумане яны трымаюцца на адным месцы. Гэтая іх звычка дае кітабоям магчымасць непрыкметна наблізіцца да кітоў у тумане.

Да полудня неба праясняецца. Сонца прабівае яркімі промнямі рэдкі туман. Кашалоты пачынаюць рухацца, кожныя дзесяць-пятнаццаць секунд выпускаючы фантаны вады, якія ў сонечных промнях пераліваюцца ўсімі колерамі вясёлкі. На судне ўсе зноў занялі свае месцы. Максімаў выбраў кашалота, прыцэліўся, стрэліў. Гарпун трапіў у левы бок жывёліны. Пачуўся глухі выбух гранаты ў тушы кіта. Кашалот ірвануўся ўперад.

— Траві лінь! — крыкнуў Максімаў.

Раптам кашалот рэзка павярнуў і паімчаўся насустрач судну. Сутыкненне з раз'юшаным кітом не абяцала нічога добрага. Зусім нядаўна, у мінулым месяцы, «Пурга» вымушана была прастаяць на прыколе некалькі дзён, каб змяніць вінты, раструшчаныя дашчэнту пасля паядынку судна з параненым кітом.

— Поўны ўперад! — гучыць каманда.

Кіт пранёсся каля самай кармы, зрабіў поўкруг і спыніўся перад суднам. Гэта працягвалася ўсяго адно імгненне, але Максімаў паспеў стрэліць яшчэ раз. Кашалот павольна стаў перакульвацца на бок. Тушу хутка падцягнулі да барта, накінулі канат на хваставыя плаўнікі і надзьмулі гарачым паветрам, каб ён трымаўся на вадзе.

Паляванне працягваецца. Кітабоец зноў упарта рассякае хвалі. «Пурга» рапартуе:

— Буксірую чатыры кіты на «Ясны».

Звычайны, будзённы дзень на Курылах працягваецца...

Ул. ВАСІЛЕЎСКІ.

в. Сахалін.



Пасадчыца Рая Знак.



Інжынер-мікрабіёлаг Ліля Драчанава правярае дрожджы.

Днём і ноччу дыміць стромкая цагляная труба — комін, узняты высока над шасціпавярховым чырвоным гмахам.

Гэта мінскі хлебазавод «Аўтамат». Ні на хвіліну не спыняецца тут праца. З шырокіх варот гужам выходзяць аўтамашыны.

Узыходзіш на чысты, аздоблены маладымі дрэўцамі заводскі двор, і знаёмым хлебным пахам напаўняюцца грудзі.

Хораша пахне хлеб!

З намі ходзяць па цэхах сакратар партарганізацыі Юзэфа Іпалітаўна Каспяровіч і комсорг завода, зменны тэхнолаг Ніна Гулай. Першая — ужо амаль чвэрць веку выпякае хлеб і прайшла шлях ад падсобніцы да камандзіра вытворчасці, інжынера, партыйнага работніка; другая адразу-ж пасля заканчэння тэхнікума атрымала на заводзе адказны ўчастак — хлебны цэх, стала зменным тэхнолагам. Ёсць нешта агульнае ў іх: яны горача любяць завод, сваю нялёгкую працу.

— Вы выбралі вельмі нязручны час, — спачувальна сказала нам Юзэфа Іпалітаўна, калі мы паведамілі пра свой намер зрабіць фотанарыс. — У нас ідзе пераабсталяванне хлебнага цэха.

— А я думаю, што гэта не перашкода, — заўважыла Ніна Гулай. — Якраз наадварот. Гэта паказчык нашай ініцыятывы: і пераабсталяванне ідзе, і завод на поўную магутнасць працуе!

Ніна дадала:

— Мы зараз манціруем агрэгат Рабіновіча. Гэта самая навейшая машына ў хлебнай вытворчасці — выдатнае дасягненне нашай айчыннай тэхнікі.

Неўзабаве, калі стануць працаваць новыя агрэгаты, адпадзе неабходнасць у тых шматлікіх чанах-дзежках (з кожнай выпякаецца 340—350 кілаграмаў хлеба), якія займаюць цэлы паверх.

Дзевяноста такіх чанаў, у якіх зараз рыхтуецца цеста, заменяць металічныя карыты. Яны падвешваюцца над канвеерам ля цестараздзелачнай машыны. Адсюль камякі цеста, будучыя боханы, па канвееру бясконцым патокам ідуць у шафы, дзе цеста выстойваецца і падыходзіць.

З увядзеннем новай тэхнікі вызваліцца шмат людзей. Поўнасцю будуць заменены канвеерам вагнеткі, якімі ўсё яшчэ карыстаюцца для адвозкі цеста ад машыны да печаў.

Гэта будзе зроблена да канца года. Але і сёння ўжо большасць працэсаў механізавана. Прасейваюць муку, замешваюць, падаюць і наразаюць цеста машынамі. Магніт, устаноўлены над сітамі, выцягне кожную металічную пылінку, калі яна выпадкам трапіць. Перад засыпкай у цестамясільную машыну мука ўзважваецца. Гэта робяць вагі-аўтамат.

І мука, і цеста, і дрожджы, і тлушчы, і цукар, і, нарэшце, гатовая прадукцыя — усё гэта строга правяраецца ў заводскай лабараторыі. Тут праводзяць аналізы, распрацоўваюць новыя пытанні, звязаныя з практыкай хлебапячэння. Інжынер-мікрабіёлаг Лілія Аляксандраўна Драчанава разам са сваімі маладымі калегамі паспяхова ўкараніла новы спосаб выкарыстання дражджэй: яны кладуцца не ў рошчыну, як раней, а ў цеста. Ад гэтага хлеб стаў больш пульхны, смачнейшы.

Завод працуе круглыя суткі.

Прыёмка змены. Брыгадзіры Аляксандр Галенчык і Соня Школьнікава.





З кожнай канвеернай печы за змену дастаецца па шэсць тон чорнага хлеба, па чатыры-пяць тон белага. З карусельных печаў у булачным цэху за змену выпускаецца да трох тон рознастайнай здобы. У бягучым годзе асвоены ае новыя гатункі: булачка грамадзянская, ляпёшка, ружанчык і іншыя.

Каб гэта ўсё рабілася, як калісьці, толькі рукамі, то спатрэбіліся-б



Агульны выгляд цестамеснага аддзялення хлебнага цэха.



стамес працаваў без браку. Яны-ж сочаць, як падыходзіць цеста.

З адной такой дзяўчынай мы пазнаёміліся ў цэху.

— Гэта Волька Кудзін — наша лепшая работніца, — адрэкамендавала нам дзяўчыну Ніна Гулай. — Камсамолка. Паспявае нарыхтаваць цеста на ўсе тры печы.

— Прышла на завод з вёскі, — сказала нам Волька Кудзін. — Скончыла сямігодку. Спачатку працавала прыбіральшчыцай, потым падсобніцай. Вельмі зацікавілася спецыяльнасцю цестамеса. І навучылася. Два гады замешвала жытняе чорнае цеста. А цяпер — белае!

мочніца пасыпае падмостак, дзе кладуцца батоны, спецыяльнай падмешкай, каб не прыставалі, а Рая «меціць» іх ножыкам і ўвішна дзейнічае лапатай.

За змену — пяць тон. Намахаешся, што і рук не падняць. Але такія дзяўчаты, як Рая, паспяваюць пасля працы і кожную кінокарціну паглядзець, і ўзяць прыз на танцах, і спяваць у заводскім хоры.

Калі гаварыць пра людзей, што вытрымліваюць на сваіх плячах увесь цяжар працы, нельга абмінуць булачнікаў. Каб вы пабачылі, як завіхаюцца яны вакол стала, робячы з камячкоў цеста рознастайныя прыгожыя булачкі, здзівіліся-б іх спрыту. Дзяўчаты так напрактыкаваліся, што не робяць ніводнага лішняга руху. Упяцярых за змену робяць каля 13 тысяч розных па форме булачак!

Зіна Пікулік, Жана Ажойчык, Оля Курмыз, Рэня Ліневіч, Клава Аблавацкая... Гэта — камсамольская змена, ініцыятар спаборніцтва. Яе ўзначальвае камсамолка Соня Школьнікава, старанная, кемлівая дзяўчына, завочніца універсітэта. Соня паставіла справу так, што кожны ў брыгадзе выконвае любую аперацыю. Заўсёды сярод рабочых можна знайсці чалавека, які заменіць машыніста, падмайстра.

Авалодваць сумежнымі спецыяльнасцямі моладзі дапамагае Аляксандр Пятровіч Галенчык, лепшы майстар хлебапячэння краіны. З яго брыгадай і спаборнічаюць дзяўчаты.

— Як у цябе, Соф'я Фамінічна?— пытае ў Школьнікавай Галенчык, прышоўшы на змену ў сваёй, як звычайна, чыстай, адпрасаванай белай куртцы і каўпачку.

— Усё добра, Аляксандр Пятровіч, — шчыра адказвае на прывітанне Соня. — Заданне і сёння перавыканалі.

— О, дык вы мяне, старога, абгоніце! — усміхаецца Галенчык і пачынае аглядаць гаспадарку.

А з шырокіх заводскіх варот усё ідуць і ідуць машыны з надпісамі: «Хлеб». У вясновым паветры — духмяны хлебны пах.

Тэкст С. КУХАРАВА.

Фото С. ЧЫРЭШКІНА.



Старшы тэхнолаг завода Ліда Сазановіч правярае цеста.

Сакратар партарганізацыі Ю. І. Каспяровіч падказала:

— Волька Кудзін са сваёй памочніцай Валяй Цішкевіч у спаборніцтве ў гонар 40-годдзя Вялікага Кастрычніка абавязаліся даваць 140 працэнтаў зменнага задання.

— І слова сваё трымаюць моцна, — заўважыла Ніна Гулай.

На заводзе не так многа моладзі, але яна з'яўляецца гонарам калектыву. У тым-жа хлебным цэху пасадчыцай працуе камсамолка Рая Знак. Яе ўчастак — бадай самы цяжкі. З канвеера ідуць і ідуць батоны, толькі ўпраўляйся падаваць іх у гарачую пашчу печы. Трэба паспець яшчэ і зрабіць ножыкам на кожным нарэзы — ліноўку. Па-

тысячы людзей. У аддзяленні, дзе квасіцца рошчына і месіцца цеста, адзін пры адным стаяць дзесяткі велізарных дзежак на нізкіх колах. У кожнай замешваецца 240 кілаграмаў мукі. Дзяўчына-цестамес з памочніцай абслугоўваюць дзве машыны. Яны паспяваюць закласці ў чаны апару-рошчыну і назіраюць, каб механізаваны це-



Лепшы цестамес Волька Кудзін (справа) і сакратар камсамольскай арганізацыі завода Ніна Гулай.



# ДЗВЕ НАЗВЫ

Хесус КАЛОН

Хесус КАЛОН — пуэртарыканскі пісьменнік, негр, вядзе актыўную дзейнасць сярод лацінаамерыканскіх неграў у Н'ю-Йорку, як арганізатар, лектар і журналіст. У апошні час ён працуе ў н'ю-йоркскай газеце «Дэйлі Уоркер» — органе Кампартыі ЗША.

Мал. Г. Паплаўскага.



Гэта адбылося ў пачатку дваццатых гадоў нашага стагоддзя. Спатканне было прызначана ў нядзелю. Чалавек, які нас запрасіў да сябе, быў лацінаамерыканскі негр, паэт і друкар; ён сам сябе асудзіў на выгнанне. Жыў гэты чалавек у Грынідж-Вілідж, у Н'ю-Йорку.

Мы падняліся на пяты паверх і трапілі ў нейкую дзіўную гасцінyю. З аднаго боку, каля самай сцяны, стаялі два друкарскія сталы. На іх ляжалі розныя драўляныя скрынкі, так званыя наборныя касы, з квадратнымі клеткамі. У кожнай клетцы былі металічныя брусочкі з адной якой-небудзь літарай. Сталы і наборныя касы на выгляд былі зусім новенькімі, таксама як і невялікі нажны друкарскі прэс, што стаяў ля процілеглай сцяны.

Сярод гэтых самых неабходных друкарскіх сродкаў стаялі простыя крэслы, пара парожніх скрынак і невялічкі круглы столік. Пакой чымсьці нагадваў сямейную гасцінyю. Заглянуўшы ў другія пакоі, вы-б заўважылі старыя ложкі і кушэткі. А ў другім канцы гэтай кватэры вы-б прыкмецілі жанчыну, якая ўвіхалася на кухні пры балтузні і крыках трох яе маленькіх дзяцей.

Калі мы ўвайшлі, нас ужо чакала з поўдзесятка людзей. Яны сядзелі на крэслах і скрынках у гэтай гасцінападобнай друкарні.

Пасля таго, як прыйшлі яшчэ два-тры чалавекі, наш друкар-паэт не стаў марна траціць часу: ён устаў і без далейшай цырымоніі падрабязна растлумачыў нам, чаго ён нас паклікаў. Ён коратка расказаў гісторыю ўзнікнення лацінаамерыканскай калоніі ў Н'ю-Йорку. Потым пералічыў усе зняваті і здзекі, усе факты дыскрымінацыі і парушэння самых элементарных правоў і закончыў прыблізна наступнымі словамі:

— Я вельмі практычны чалавек, хоць я і паэт. Я ўжо даўно вырашыў, што каб змагацца супроць усіх гэтых здзекаў над лацінаамерыканскімі неграмі, нам патрэбна сваё штотыднёвае выданне... свой друкаваны голас. Я ведаю таксама, што такое выданне патрабуе ад нас грошай і працы. І я купіў гэтыя наборныя касы і гэты вось друкарскі прэс, у растэрміноўку. Я друкар. Што мне яшчэ сказаць?

Заставалася сказаць, сапраўды, нямнога, асабліва, калі глянуць на ўсё гэта здалёку, пасля трыццаці пяці гадоў пакуты і барацьбы. Але ў пачатку дваццатых гадоў мы былі маладыя, натхнёныя ружовымі ідэямі. З поўтузіна наборных кас і адзін маленькі нажны друкарскі прэс. Урэшце Веніямін Франклін пачаў выдаваць сваю газету нават з меншымі сродкамі.

— А цяпер пагаворым аб назве нашага выдання,— працягваў друкар-паэт. — Якую назву мы дадзім?

Былі прапанаваны розныя назвы. — І ўсе яны былі важкімі, вострымі: «Молат», «Разак», «Прабуджэнне». Я прапанаваў «Наперад» — так зваўся наш штомесячны школьны часопіс, які я некалі рэдагаваў у Пуэрта-Рыка. Усе назвы ўсебакова абмяркоўваліся. І ні адна з іх не была прынята.

— Дык вось, у мяне ёсць назва. Я пакуль што маўчаў, — сказаў друкар-паэт. Ён падыйшоў да друкарскага прэса і, пяшчотна пагладзіўшы яго, абвясціў: — Я прапаную выданне, што будзе друкавацца на гэтым станку, назваць «Ваэ вікціс!»

— Што? Як? — у адзін голас запыталі амаль усе, хто з намі быў.

Друкар паэт-выгнаннік паўтарыў, павольна і павучальна:

— Ваэ вікціс!

— Якая гэта мова? Што азначаюць гэтыя словы? — з усіх куткоў пасыпалася на друкара-паэта.

— Што-ж, я скажу. «Ваэ вікціс!» — гэта па-лацінску, а па-іспанску значыць «Ай, дэ лос венсідос», што па-англійску азначае «Гора пераможаным!» Цяпер вы разумееце?

Наступіла поўная цішыня.

Ён зразумеў, што трэба растлумачыць.

— Дык вось што. Калі мы не арганізуемся, калі мы не ўзнімем нашага голасу да верхніх паверхаў самага высокага небаскробу ў Н'ю-Йорку, нас раздушаць... нас пераможуць. «Ваэ вікціс!» «Гора пераможаным!» Мы не павінны дапусціць, каб нас перамаглі. Мы павінны гаварыць, павінны пісаць, павінны змагацца.

Друкар-паэт гаварыў вельмі красамоўна. Ён прывёў мноства «довадаў». Але цяпер я выразна бачу, што яны ішлі больш ад сэрца і нам тады толькі здавалася, што яны падмацаваны логікаю слоў. Ён дадаў, што самая навізна гэтай ідэі і цікавасць, якую выклікае назва ў будучага чытача, на наступны-ж дзень прымусяць нас падвоіць тыраж.

І як гэта я мог падаць свой голас за такую назву для часопіса іспана-амерыканцаў у Н'ю-Йорку? Якой недарэчнасцю здаецца мне гэта цяпер! Але як цудоўна і лагічна гучала гэтая назва тады!

Такім чынам, была зацверджана назва «Ваэ вікціс!» Без ніякага перакладу ні на англійскую, ні на іспанскую мову. Мы былі тады вельмі самаўпэўненымі. Фармат быў некалькі большым за які-небудзь сучасны месячны часопіс. Невялікі прэс у гасцінай друкара-паэта не дазваляў больш нічога. Пакуль друкар-паэт часамі прастойваў перад наборнымі касамі, робячы набор уручную, другія друкавалі старонкі, карыстаючыся ў якасці наборнага стала мармуровай плітой, выдранай са стаяка. Астатнія звяралі гранкі ўжо надрукаваных старонак. Потым мы ўсе браліся за праверку лістоў і сшывалі іх у брашуры. Вось гэта дык была работа!

Нарэшце выйшаў першы нумар. Мы размеркавалі між сабою раёны, у якіх у тыя гады звычайна жылі іспанцы, пуэртарыканцы і іншыя лацінаамерыканцы.

Нам даводзілася пісаць, друкаваць, чытаць карэктуру, насіць часопіс у кіёскі. Потым забіраць нераспраданыя экземпляры і вяртацца з новымі выпускамі. Той хлопец з Грэцыі, што каціў угору камені тысячы гадоў таму назад, нічога не варты перад намі!

Калі я зноў прыходзіў да кіёскаў, мне вярталі ўсе экземпляры някупленымі. За вельмі малым выключэннем, так было і ў другіх кіёсках. Напэўна, грэкі думалі, што гэты часопіс быў прызначаны для італьянцаў, італьянцы — што ён для румынаў, а тыя — што ён для французаў, і гэтак бясконца. Кожны думаў, што часопіс гэты не для яго, а для другіх. Я прыкмеціў, што адзіным пакупніком быў заблудны малады свяшчэннік, які выпадкова кінуў позірк на рамантычную вокладку «Паліцэйскай газеты» і вырашыў зняць са сваёй душы гэты вялікі грэх, купіўшы часопіс, напісаны, як ён меркаваў, на мове каталіцкай царквы.

О, праз якую колькасць глупстваў трэба прайсці ў жыцці, каб атрымаць хоць трошкі ведаў і вопыту! І вы ведаеце што? Калі-б група людзей, накшталт тых юнакоў, што былі ў пачатку дваццатых гадоў, запытала сёння ў мяне, ці хачу я зноў прайсці праз усё гэта, я-б напэўна згадзіўся.

Адзінае, супроць чаго-б я паўстаў, дык гэта супроць лацінскай назвы. Я мог-бы іх пераканаць, бо я цяпер многае спазнаў.

Некалькі маладых людзей калісьці, у пачатку гэтага стагоддзя, пачалі выдаваць газету ў значна больш цяжкіх умовах, чым мы наш «Ваэ вікціс»!

У гэтых маладых людзей не было ўласнага друкарскага станка, ні наборных кас. Нярэдка ў іх не было нават дастаткова грошай, каб купіць сабе чаго-небудзь з'есці.

Потым ім трэба было ўпотай перапраўляць гэтую газету з той краіны, дзе яе друкавалі, у другую краіну, дзе пагранічная варта, ваенная і спецыяльная тайная паліцыя мелі загад канфіскаваць любы экземпляр гэтай маленькай газеты, а людзей, злоўленых з ім, кінуць у астрог.

Так, гэтыя людзі ў далёкай Еўропе працавалі сапраўды ў значна больш цяжкіх умовах, чым мы.

У іх была вялікая перавага — назва іх газеты: яна не была лацінскай. Яна была напісана на мове таго народа, для якога яна прызначалася. Калі рабочыя чыталі гэтую газету, то яна не гучала ні па-грэчаску, ні па-лацінску: бо была яна напісана для народа, на мове народа і расказвала аб патрэбах і задачах народа. Яе пісала жменька найвялікшых розумаў нашага часу, і сапраўды ўвесь свет усё яшчэ абмяркоўвае і вывучае артыкулы і нататкі, напісаныя гэтымі маладымі людзьмі, і мы яшчэ і цяпер не пачулі апошняга слова адносна ідэй, якія яны раскрывалі на старонках свайго невялічкага выдання.

Гэтая група маладых «летуценнікаў» і «ідэалістаў», як іх, напэўна, называлі «практычныя і разумныя» людзі таго часу, дала сваёй газеце назву: «Іскра», і пры дапамозе гэтай іскры яны сапраўды распалілі вялікае вогнішча мыслі і ідэй, якое разгарэлася на ўвесь свет!

Пераклад з англійскай мовы
С. ДОРСКАГА.

Калі хочаце быць звышчэмпіёнам па настольнаму тэнісу, трэніруйцеся па майму метаду.

А. Цыбулька.



## ГОРАДУ-ГЕРОЮ—250 ГОД

Ленінград! Няма горада больш маладога, але з такой багатай і слаўнай гісторыяй. Здаецца і ўзнік ён тут, каб уславіць у вяках рускага чалавека, яго неўміручыя подзвігі.

Тут, на берагах Нявы, больш за пяцьсот год да заснавання горада рускія войскі перамаглі скандынаўскіх захопнікаў. Трыста год пазней на тых-жа топкіх берагах білі рускія салдаты лівонскіх князёў і магнатаў. Праз сотні год тут зноў разыграліся кровепралітныя бітвы: пачалося канчатковае выгнанне чужынцаў-захопнікаў з рускіх земляў. Перамога ў Поўночнай вайне дала магчымасць вярнуць захопленыя некалі ворагам славянскія землі. Тут 16 мая 1703 года на Заячым востраве і была закладзена Петрапаўлаўская крэпасць; пад яе абаронай пачала будавацца новая сталіца рускай дзяржавы — Санкт-Пецярбург.

З усіх куткоў рускай зямлі прыйшлі на берагі Нявы каменшчыкі, цесляры, умельцы будаваць масты, палацы. Рускі тут працаваў поплеч з беларусам і украінцам. Было вельмі цяжка. Але горад рос, як у казцы. Новыя пакаленні змянялі старыя. Заставалася нязменнай толькі нястача і галеча простага люду.

На ўскраінах выраслі фабрыкі і заводы. Ужо ў 1862 годзе ў Пецярбургу было каля 300 фабрык і заводаў, звыш 21 тысячы рабочых. Узнікаюць першыя рабочыя арганізацыі.

У 1895 годзе Владзімір Ільіч Ленін аб'ядноўвае ў Пецярбургу ўсе рабочыя марксісцкія гурткі ў «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа». «Саюз барацьбы» праводзіць вялікую работу, і неўзабаве адбываюцца першыя выступленні рабочага класа супраць рускага царызма.

З года ў год штурмуе рабочы клас царскі трон. На бітву з самаўладствам яго вядзе Комуністычная партыя бальшэвікоў. У 1917 годзе піцерскія рабочыя, з дапамогай салдатаў, пры падтрымцы ўсяго працоўнага народа скінулі капіталістаў, стварылі першую ў свеце дзяржаву рабочых і сялян. Горад, пабудаваны рукамі працоўнага люду, стаў калыбеллю рэвалюцыі.

Вялікі ўклад Ленінграда і ў справу развіцця рускай культуры, навукі, тэхнікі. Тут жылі і пісалі свае вядомыя ўсяму свету творы Пушкін і Дастаеўскі, Чайкоўскі і Мусаргскі. Тут жыў вялікі Ламаносаў. Адсюль па ўсёй Расіі распаўсюджваліся перадавыя ідэі.

Асабліва праславіў сябе Ленінград і яго людзі ў дні Вялікай Айчыннай вайны 1941 — 1945 гадоў: 900 дзён адбіваўся горад ад фашысцкіх захопнікаў. І перамог.

Ленінград стаў для нас сімвалам доблесці і гераізму. Вось чаму 250-гадовы юбілей горада — гэта свята не адных ленінградцаў, а ўсяго совецкага народа.

А. АЛЯКСАНДРАЎ



Ленінград. Петрапаўлаўская крэпасць.



«Дорага каштуе ў нас літр малака», — гаворыць сваім сяброўкам даярка Вера Басалыга.

# ЛІТР МАЛАКА

Ул. МАЯРОВІЧ, Н. МАРУШКЕВІЧ

1

Ад каго-небудзь іншага, толькі не ад Надзі Крываль, мог чакаць Аляксей Ксяндзоў такой непрыемнасці. Чаго-б, здавалася, нехапае дзяўчыне? Працуе яна на «цэнтральнай» ферме, а тут, вядома, лепш, чым, скажам, ва Ушалове ці ў Гарадзішчах: тут добрыя кароўнікі, аўтапаілкі, электрадаільныя апараты. Чысціня ўсюды: сцены пабелены, кармушкі аж свецяцца, як новыя. Ды і на работу Надзі недалёка — толькі вуліцу перайсці. А зарабляе яна не менш, а нават больш за іншых, дадатковую аплату атрымлівае. І ўсё гэта не без яго, Аляксея Ксяндзова, дапамогі... А яна аддзякавала за ўсё гэта — усенародна, перад усім сходам зняважыла!..

— Нядобра вы робіце, Аляксей Рыгоравіч, — гэтыя словы, як кіпнем, апяклі загадчыка фермы. — Колькі цялятам малака даем? Шэсць літраў. А спісваеце вы — дзевяць? Навошта-ж гэта? Каб у перадавікі выйсці? Я думаю, што ад гэтага карысці ні нам, ні дзяржаве няма. Ад таго, што здадзім на прыёмачны пункт тры лішнія літры малака, недадаўшы іх цялятам, надоі не павялічацца.

Аляксей нізка апусціў пачырванелы твар, утаропіў у падлогу вочы і, злосна сплёўваючы, развażаў сам з сабою: «Ну, няхай-бы прыйшла да мяне пагаварылі-б з вока на вока, уладзілі-б... А то знайшла дзе гаварыць пра такія рэчы».

Тым часам сход загудзеў, як разварушаны вулей.

— Правільна Надзя гаворыць! — з месца крыкнула цялятніца Феня Красуцкая. — Цялё не паскардзіцца, што яму малака недадалі.

Нехта з калгаснікаў загаварыў і пра іншае.

— Ды гэта што! Варта разабрацца ва ўсім, як належыць. Пастухі ў нас, здаецца, занадта дарагімі сталі. За тое, што каровы ўсе з поля вяртаюцца — ім плаці, цялё нагу не зломіць — таксама пастухам дадатковую аплату налічвай.

Гаварылі пра ўсё. Адны пра тое, што ва Ушалове і Гарадзішчах рыхтуюць кармы ўручную; другія патрабавалі ад праўлення больш клапаціцца аб жывёлаводах; трэція зноў загаварылі пра «цэнтральную» ферму. Зрабілі, моў, адну, паказальную, а на іншых усё па-старому. Час падумаць ужо і аб астатніх кароўніках, абсталяваць іх па-гаспадарску.

— Цішэй, цішэй, таварышы! — супакойваў грамаду Іван Піліпавіч Грышкоў, старшыня калгаса. — Заўвагі вашы слушныя. Будзем разам вырашаць, як і што...

У душы старшыня быў задаволены тым, што гаварылі калгаснікі, хоць, прызнацца, не чакаў такога павароту. Ён ведаў, што фермы буйнай рагатай жывёлы яшчэ патрабуюць уладкавання. Дзеля гэтага і сход збіралі. А вось, што Аляксей Ксяндзоў так распараджаецца малаком — нечаканасць.

«Малайцы комсамольцы, — думаў Іван Піліпавіч. — Нездарма мы іх на фермы пасылалі. Прынцыповыя дзяўчаты, любяць парадак. Але якое-ж прыняць рашэнне?

Пагадзіліся на тым, каб даручыць праўленню дэталёва разабрацца ў заўвагах, якія выказваліся на сходзе. Іван Піліпавіч наважыў узяць усё гэта пад свой асабісты кантроль.

Усе задаволеныя разыходзіліся дадому. Толькі неяк неспакойна на душы было ў загадчыка фермы Аляксея Ксяндзова, ён прадчуваў нешта нядобрае.

2

Дні праз два Іван Піліпавіч выклікаў да сябе зоатэхніка Марыю Прылепскую. Яна не прысутнічала на сходзе, і цяпер старшыня расказваў ёй «навіны».

— Крытыкуюць нас, Марыя Кірылаўна. Чула пра сход?

— Чула, Іван Піліпавіч, але-ж хочацца паслухаць, што вы на ўсё гэта скажаце.

— Мая думка?— перапытаў старшыня, прыгладжваючы рукою непаслухмяныя валасы. Відаць, ён нешта абдумваў, а потым, хутка павярнуўшыся да зоатэхніка, загаварыў: — Добра робяць калгаснікі, што падштурхваюць нас. Трэба сур'ёзна брацца за ўсе фермы, даволі выязджаць на гэтай самай «цэнтральнай»!

— Яно гэтак, Іван Піліпавіч, — згаджалася разважлівая Марыя Прылепская. — Але-ж, самі ведаеце, не ўсё адразу; на ўсё час патрэбен, а галоўнае — сродкі.

— Сродкі, кажаш? Знойдуцца і сродкі, калі ўсё рабіць з розумам.

— Дык хіба-ж у нас усё цераз пень-калоду ідзе? — не разумеючы яшчэ, куды хіліць старшыня, пярэчыла зоатэхнік.

— Гутарка ідзе пра тое, каб як мае быць разабрацца, што людзі кажуць. Пастухам пераплачваем. Колькі людзей на фермах працуе! А якія ў нас нормы выпрацоўкі? У якую капейку кармы нам абыходзяцца!

Марыя слухала і ў знак згоды ківала галавою.

— Разумееш, аб чым размова ідзе? Аб сабекошту літра малака! Дарагаваты яшчэ ў нас ён, гэты літр. Вось ты там, на занятках, тлумачыш сваім даяркам ды пастухам, як дагля-

даць жывёлу. А не шкодзіла-б, здаецца, і пра гэта пагаварыць. Хай і жывёлаводы вучацца лічыць калгасную капейку.

— Лёгка гэта сказаць, Іван Піліпавіч, — задумліва прагаварыла Марыя. — Ці ўмеем мы яшчэ і самі добра лічыць гэтую капейку...

У Марыі былі падставы для такога меркавання. Тры гады таму назад дзяўчына скончыла заатэхнічны факультэт Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Вывучала, зразумела, там і эканоміку сельскай гаспадаркі, але адна справа — вучыць па кніжках, і другая — разабрацца ва ўсім на практыцы.

Жыццё рушыла наперад. Цяпер сабекошту сельскагаспадарчай прадукцыі надаецца сур'ёзная ўвага.

— Васілій Фёдаравіч, на дапамогу! — паклікаў старшыня галоўнага бухгалтара калгаса Барцэвіча.

Гадзіны напэўна са дзве сядзелі старшыня, бухгалтар і заатэхнік, робячы падлікі. Адна за другой занатоўваліся цікавыя лічбы ў іх запісных кніжках.

1955 год. Ад кожнае каровы было надоена 1.567 літраў малака, у 1956 годзе — 1.923 літры. На сто гектараў угоддзяў атрымана ў тым годзе 199 цэнтнераў малака, або на 38 цэнтнераў больш, чым у папярэднім годзе. Прыбытак ад малочна-таварнай фермы ў 1955 годзе склаў 721.294 рублі, а ў 1956 годзе — 816.478 рублёў. А колькі-ж каштаваў калгасу адзін літр малака?

Калгасны бухгалтар Васіль Фёдаравіч Барцэвіч перагортвае пухлыя папкі, зглядае ў справаздачы, шчоўкае арыфмометрам. На адзін літр малака затрачана ў 1956 годзе: 0,05 працадня, што складае 82 капейкі, ды 14 капеек, затрачаныя на жмых, камбікорм, брагу. Але тут яшчэ не ўлічаны кошт тых кармоў, якія нарыхтоўваў калгас, яны-ж абыйшліся арцелі 53 капейкі на кожны літр малака. Значыць, адзін літр малака калгасу каштуе адзін рубель сорак дзевяць капеек...



«Крытыкуюць нас, Марыя Кірылаўна. Чула?» — гаворыць старшыня калгаса І. Ф. Грышко заатэхніку Марыі Прылепскай.

### 3

Ніколі Марыя, здаецца, не хвалявалася так, як цяпер, ідучы ў чырвоны куток. Хвалявалася, хоць усё тут ёй добра знаёма і людзей яна ведае добра. Справа ў тым, што гутарка, якую яна рашыла правесці з жывёлаводамі, датычыцца іх саміх: і норм выпрацоўкі, і дадатковай аплаты, і тых літраў малака, што выяўлены рэвізійнай камісіяй. Як паглядзяць на гэта даяркі, пастухі? Ці не будуць яны супраць тых меркаванняў, якія думае выказаць Марыя?

Заатэхніка ўжо чакалі. Дзяўчаты і хлопцы, жанкі і мужчыны сядзелі за сталом, накрытым чыстым чырвоным абрусам. Пакойчык іхні сёння асабліва ўтульны, прыгожы. І свежы нумар газеты вывешаны, і плакат новы.

— Хіба пачнем, таварышы! — звярнулася Марыя да прысутных. — Сёння ў нас крыху іншая гутарка будзе. Паспрабуем павучыцца лічыць. З сённяшняга дня будзем займацца эканамічнай вучобай.

Слухалі Марыю ўважліва. Тое, аб чым яна гаварыла, лічбы, якія прыводзіла, не толькі зацікавілі, але і ўварушылі людзей. Гэта была шчырая, задушэўная гутарка. Марыя і не думала спыняць прамоўцаў, ёй было радасна паслухаць думкі саміх жывёлаводаў.

Вось устала вопытная даярка Вера Басалыга і загаварыла:

— Непарадак гэта, таварышы, што ў нас літр малака каштуе амаль столькі, колькі на рынку. А мы ведаем, адкуль нітка цягнецца. Вунь Антаніне Ліневіч прыпісаў Ксяндзоў 1.200 літраў, якіх яна не надаіла, а працадні і дадатковую плату атрымала.



**Лепшая даярка фермы калгаса імя Дзержынскага комсамолка Надзя Крываль.**

Фото С. Чырэшкіна.

— У наш кароўнік, — сказала Надзя Крываль, — прыемна зайсці. Усё тут даведзена да ладу. Уключыш матор, і толькі паспявай буракі падаваць. Ваду не трэба цягаць з калодзежа. А як цяжка даяркам у тым-жа Ушалове! Дзяўчаты рукамі круцяць кормарэзку. І электрадаенне там не ўведзена. За ручную працу больш і працадзён налічваецца.

— А хіба з рацыёнамі парадак? — абурылася Соня Красуцкая. — І нядойныя і дойныя каровы атрымліваюць аднолькавы корм. Кепска мы даглядаем дойных кароў, і ўлетку мала сеем траў. Таму і малако дарагое.

— А як вы думаеце наконт таго, што нашы пастухі і зімой і ўлетку атрымліваюць аднолькавую аплату? — запытала заатэхнік.

З хвіліну ўсе маўчалі. Потым загаварылі самі пастухі:

— Што праўда, то праўда. Зімой мы менш працуем, чым летам. Няхай праўленне пераглядзіць нормы, мы не супраць.

Нехта ўнёс прапанову наконт таго, каб і даяркам крыху знізіць аплату. Гаварылі і аб махінацыях загадчыка фермы Аляксея Ксяндзова. 24 тысячы літраў малака прыпісаў ён за год да «надояў», спісаўшы ўсё на кармленне цялят. Малако, праўда, ён не браў сабе, яно здавалася на нарыхтоўчы пункт. Але якая ад гэтага карысць арцельнай гаспадарцы: маладняк гадаваўся горш, чым ён мог-бы гадавацца. Чалавек гнаўся за славай, у перадавікі хацеў выйсці махлярскім шляхам.

Марыя Прылепская старанна запісвала прапановы, падказаныя самімі людзьмі.

А праз колькі часу ў праўленні сабраліся загадчыкі ферм, жывёлаводы, члены праўлення, актыў. Дакладвала Марыя Прылепская. Памятная была гэта нарада, бо тут вырашалі важную справу — якім чынам знізіць сабекошт малака. На першым часе вырашылі: пераглядзець нормы аплаты пастухоў і даярак. Даяркам, напрыклад, рашылі давесці выпрацоўку працадзён за год не шэсцьсот, як было раней, а пяцьсот. За звышпланавыя надоі кожнай налічваецца 15 працэнтаў. І ніхто з даярак не пакрыўдзіўся, бо гэта было справядліва.

Перад праўленнем пастаўлена задача палепшыць пародзістасць статку. Вырашана распачаць у хуткім часе і механізацыю астатніх ферм. А то хіба гэта парадак, што 411 дойных кароў даглядае 41 даярка. Па прапанове жывёлаводаў вызвалены ад работы загадчык фермы Аляксей Ксяндзоў, а на яго месца абраны новы працавіты чалавек — Павел Галкін.

Усе пажаданні жывёлаводаў улічаны. Колькі цяпер будзе каштаваць калгасу літр малака, пакажа бягучы год. Але важна ўжо, што зроблены першы крок: малако будзе каштаваць танней, яго будзе больш, фермы дадуць калгасу куды большы даход. У гэтым можна не сумнявацца.

Што датычыцца дзяўчат-комсамолак, праз якіх загарэўся ўвесь сыр-бор, то яны працуюць выдатна. І на занятку гуртка ходзяць вучыцца лічыць, ацэньваць сваю працу па яе здабытках.

**Слуцкі раён.**

— Скакаць у вышыню з шастом кожны можа. Чым даўжэй шэст, тым вышэй скочыш. Вось толькі на зямлю потым падаць непрыемна. Але-ж у нас ёсць парашут. Ура! Цяпер я магу і на 100 метраў скокнуць, абы жэрдка такая знайшлася.

# ПАМЫЛКА

**Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ**

**Апавяданне**

Мал. Ю. Пучынскага.

Жыццё Раісы Міхайлаўны Сянчук склалася не так, як яна марыла аб ім у інстытуце. І здарылася ўсё гэта праз маці. Так, прынамсі, думала потым не раз Раіса.

— Ідзі, дачушка, ідзі. Не зважай, што ўдавец ды ў гадах, — даводзіла Серафіма Пятроўна дачцы, — затое з горада нікуды не паедзеш, будзеш побач са мною жыць. І табе добра, і мне, старой, уцеха. Ты-ж у мяне адна—і радасць і гора.

Сяброўкі, як дачуліся пра рaісіны намеры, зусім іншае раілі. Найбольш перажывала Аня Бохан. Яны разам вучыліся ў сярэдняй школе, не раз марылі аб сваёй працы пасля інстытута, і цяпер Аня лічыла сваім абавязкам даць параду сяброўцы.

— Што ты сабе толькі думаеш, Раіска? З такіх гадоў ісці на мужаў хлеб?—дакарала яна.—Паспрабуй хоць свае здольнасці, пакажы іх у працы. Няўжо ты забылася на нашы летуценні?

Некаторы час Раіса вагалася паміж сяброўчынымі парадамі і матчынымі довадамі. Але паколькі яна праводзіла больш часу з маці, чым у інстытуце, і тая ўмела маляваць надзвычай захапляючыя перспектывы будучыні, дык і перамога засталася на баку Серафімы Пятроўны.

Усё адбылося ў летнія канікулы, калі раісіны сяброўкі пасля атрымання прызначэння паехалі дахаты адпачыць. Раіса ў ліпені запісалася з Апанасам Пятровічам і ў той-жа дзень перайшла на мужаву кватэру.

Такога вяселля, як робяць людзі, не наладжвалі. Сабраліся сваёю сям'ёю, павячэралі ды і ўсё. Серафіма Пятроўна казала: «Не трэба лішніх выдаткаў рабіць, лепш за гэтыя грошы купіць штонебудзь на абжывак!». Калі-ж казаць праўду, не хацела паказваць знаёмым зяця. Няхай самі ўбачаць, ды не адразу ўсе, а пасобку.

Першыя дні замужжа Раіса прывыкала да новага жыцця, і яны ішлі непрыкметна. Але чым далей, тым больш усё пачало надакучаць. І ўвосень яна ўжо скардзілася маці:

— Не магу я ў такой пакуце жыць. Рабіць ён нічога не дазваляе, усё—«адпачні ды адпачні». Апрыкрала ўсё: і раманы чытаць і блукаць з пакоя ў пакой.

Маці доўга ўгаварвала дачку, прыводзіла шмат прыкладаў такога-ж замужжа, і ўсе яе довады зводзіліся да аднаго:

— Дурненькая, не набірай надта ў галаву. Пройдзе ўсё. Прывыкнеш да свае ролі. Можа бог дасць яшчэ выбераш чалавека сабе па сэрцу ды па густу. На такую раскошу заўсёды знойдзецца жаніх, ды і не абы які.

І паплылі, як у тумане, аднастайныя дні Раісы Міхайлаўны. Ніякіх клопатаў, ніякае работы. Дамашняя работніца, бабуля гадоў шасцідзесяці, рабіла ўсё — загадай толькі. Спачатку свой вольны час Раіса каратала за чытаннем кніг, гадзінамі сядзела перад люстэркам, прыхарошвалася. Але і гэта падчас надакучала. Апанас Пятровіч, вярнуўшыся з работы, не заўважаў ні моднае прычоскі, ні падфарбаваных броваў, а значыць, і не ацэньваў патрачаны на гэта час. Некалькі дзён пасля такой няўвагі Раіса хадзіла як сама не свая: злосная і на сябе і на мужа, не прыбіралася, не прыхарошвалася. Потым зноў адлягала на сэрцы — маладосць брала сваё.

Усё менш і менш пачала сустракацца яна з былымі аднакурсніцамі. Многія з іх паехалі настаўніцамі на вёску, а тыя, што засталіся ў горадзе пры інстытуце, былі заўсёды заняты: яны знаходзілі прыгажосць жыцця ў працы, у клопаце. Раіса Міхайлаўна, калі на тое пайшло, і сама не вельмі хацела бачыцца з сяброўкамі — не было ёй чаго расказваць аб сабе пры сустрэчах.

Часамі да Раісы заходзіла пасядзець, ці, як яна сама казала, змарнаваць час, былая аднакурсніца Галя. Яна выйшла замуж з чацвёртага курса і неўзабаве пакінула вучэнне. На парады сяброўак канчаць інстытут яна неяк асаблівa, па-свойму, крывіла губы і з пагардай гаварыла: «Вельмі мне патрэбна цяпер сушыць мазгі. Усё ў мяне ёсць, ва ўсім дастатак... Каб вас хацяў такая доля ды такая бясклапотнасць напаткала пасля інстытута».

Такі погляд Галі на жыццё з'явіўся быў прычынай доўгай размовы ў жаночым пакоі інтэрната. Усе нарэшце прыйшлі тады да аднаго вываду — нельга, каб матэрыяльны бок, раскоша засланялі ўсё ў жыцці чалавека, сталі на першым плане. Як толькі рэчы пачнуць пераважаць, гнясці чалавека, ён шмат траціць тады з свайго духоўнага багацця.

І вось цяпер, праз некаторы час, зноў сустрэліся былыя аднакурсніцы. Сядзяць Галя і Раіса на плюшавай канапе адна супроць другой, падкурчыўшы пад сябе ногі, вядуць размову. Успомнілі лекцыі, сяброўак, хлопцаў. Галя нават прыгадала той вечар, калі дакаралі яе, што кідае вучэнне. Тут-жа расказала пра Соню Ігнацюк з фізмата.

— Памятаеш, як яна тады распіналася пра багацці духоўныя. А сама, казала мне Поля Саевіч, ускочыла па вушы. Выйшла за ўдаўца, двое дзяцей, ён аграномам пры МТС, увесь час у раз'ездах ды ў раз'ездах, дома амаль не стыкаецца.

— Ну, па каханню-ж, мабыць, выйшла?—пацікавілася Раіса.

— Яшчэ і па якому! Аж не ведае, што рабіць, як ён затрымаецца дзе ў аб'ездзе. Урок можа кінуць і выбегчы насустрач, калі той вяртаецца дахаты. Пры ўсіх на шыю кінецца, расцалуе...

Ад апошніх слоў раісін твар заірдзеўся. Міжвольна, на момант, уявіла сябе на месцы Соні і чамусьці аж скаланула ўсю: не можа яна так сустрэць свайго Апанаса Пятровіча. Не спыняючы размовы, спытала ў Галіны:

— Дык чаму-ж ты думаеш— ускочыла? Яна засталася верная сваім поглядам. Чалавек прышоўся да спадобы, кахаюць адно аднаго...

— Але-ж дзеці чужыя... Разумееш?—аж прыўзнялася на калені Галіна.—Праўда, даглядае іх мужава маці, і ўсё-ж такі...

— А што «ўсё-ж такі?»—не дала дакончыць Раіса. — Па-мойму, добра зрабіла. Выбрала чалавека па сэрцу, па душы, і будзе жыць у шчасці.

Галіна лепш уселася ў куточку канапы, здзіўлена зірнула на сяброўку і падумала: «А сама, нябось, інача́й зрабіла». Раіса нібы прачытала яе думкі.

— Не ведаю, як ты глядзіш, а я зусім не такім уяўляла сваё замужжа. Расказала ты вось цяпер пра Соню, і зайздрасць мяне ўзяла, захацелася апынуцца на яе месцы, хоць ты і кажаш, што яна «ўскочыла па вушы».

— Я разумею цябе, Раечка: вялікая розніца ў вас ва ўзросце,—уздыхнула з ноткай спагады Галіна.

— Не гэта, Галачка, прычына. Ты не так мяне зразумела. Апанас Пятровіч надзвычай добры чалавек. Ён стварыў мне найлепшыя ўмовы, а душа мая ўсё-ж да яго не ляжыць. Думала, прывыкну. Мама казала: зжывешся... А ўжо колькі часу прайшло—нічога не выходзіць. Зноў-такі пра Соню. У яе ёсць пэўная мэта ў жыцці. А ў мяне што: сягоння не ведаю, чым займу заўтрашні дзень. Ён хутчэй за ўсё будзе падобны на сённяшні. А чым выдатны сённяшні? Хіба тым, што наведала мяне былая аднакурсніца. Пойдзеш ты дахаты, зноў усё ўвойдзе ў сваю каляіну. Прыдзе з інстытута мой Апанас Пятровіч, паабедае, адпачне, зоймецца сваёй работай, а мне зноў у самоце каратай час...

На момант Раіса спыняе гаворку. Думае, гаварыць Галіне ці не аб сваіх патаемных намерах. Усхваляваная ад нахлынуўшых пачуццяў, яна наважвае падзяліцца імі з сяброўкай. Хочацца пачуць, што скажа тая.

— Знаеш, Галачка, іншы раз хочацца пакінуць гэты прытулак, гэты поўны дастатак і пайсці зарабіць самой кавалак хлеба. Можа на першы пачатак не будзе таго, што маю тут, але гэта будзе здабытае сваёй галавой, сваімі рукамі. Я не раз успамінаю Аню Бохан. Памятаеш яе? Мы сябравалі.



Як яна адгаварвала мяне не выходзіць за Апанаса Пятровіча! Не паслухала. Хацелася ў горадзе застацца, бліжэй да мамы... Ды яшчэ і самастойная праца палохала...

Галіна злёгку ківае галавой, жмурыць левае вока, і ледзь прыкметны смяшок блукае ў куточках яе вуснаў.

— Не смейся, Галачка, я кажу табе праўду.

— Я не з цябе смяюся, а з тваёй наіўнасці. Кідаць такую кватэру, такую раскошу,—Галіна заплюшчыла вочы і пакруціла галавой.—Ніколі!..—хвіліну памаўчала і ўжо больш лагаднейшым тонам загаварыла:—Канешне, так жыць, як ты жывеш, будзе і сумна і не міла. Дурненькая, трэба самой наладжваць весялосць. — Яна акінула вачыма пакой, падсунулася бліжэй і ціхенька, хоць ва ўсёй кватэры нікога не было, шапнула сваю параду Раісе.

Раіса пачырванела, нібы хто сыпануў жарам у твар, і пакруціла галавой. Галіна зірнула ў вочы сяброўцы і гучна засмяялася:

— Ты ўсё такая-ж наіўная, як была...—Праз момант дадала зусім сур'ёзна:—Твая добрая воля. Тады няма чаго скардзіцца і на сум і на адзіноту... А я ледзь не зайшла сёння з ім сюды, каб ты паглядзела, што за прыгажун. Ды, відаць, не варта?

— Не, не варта. Ты памылілася, калі так думала пра мяне.

Галіна іранічна, з выглядам «тым горш для цябе», зірнула на Раісу і перавяла гутарку на новы фасон сукенак.

Неўзабаве яна падалася да другой знаёмай, а Раіса пайшла ў кабінет мужа, узяла наўздагад з паліцы кніжку і паспрабавала, прыхіліўшыся плячом да сцяны, чытаць. Гартала старонкі, прабягала вачыма з пятага на дзесятае і нічога не знаходзіла, што магло-б спыніць увагу. Стаяла перад вачыма Соня, яе ветлівая ўсмешка так і вабіла да сябе. Паплылі ўспаміны за ўспамінамі. Сярэдняя школа, інстытут, лекцыі, знаёмства з Апанасам Пятровічам. Бывае-ж так — зачэпіш думкамі што-небудзь, а тое прыцягне, нібы кругам, іншае, і так доўга-доўга чапляецца адно за адно, аж да стомленасці.

Задумлівасць Раісы перапыніў званок. Каб не затрымлівацца, палажыла кніжку не на сваё месца, а на стол, а сама кінулася адчыняць дзверы. І ледзь толькі Апанас Пятровіч ступіў у прыхожую, абняла яго за шыю і моцна пацалавала ў шчаку. Збянтэжаны нечаканасцю, той паглядзеў Раісе ў твар і здзіўлена спытаў:



— Што з табою, Раечка?

— Нічога, так,—адказала ціхім голасам, і рукі павольна ссунуліся з мужавых плячэй, павіслі, як нежывыя. Уявіла сябе Соняй з фізмата, а мужа—аграномам і выйшла не так, як у іх. Мільганула: «Не пытаецца-ж, пэўна, аграном у Соні, што з ёю, калі яна выбежыць насустрач, абдыме за шыю, прыпадзе да яго грудзей галавою?»

Прайшло тры гады. Апанас Пятровіч кожны дзень ездзіў на работу і ў свой час вяртаўся дамоў. Аднаго разу ён папрасіў жонку згатаваць яму бульбу з шаткаванай капустай, і вельмі рады быў, калі Раіса выканала яго просьбу. Вячэра спадабалася тады Апанасу Пятровічу лепш, чым бульён з піражкамі ці розныя там жэле. Ён з'еў шмат і з вялікім апетытам. Раіса стаяла і глядзела з трывогай, як апаражнілася спачатку адна, потым другая талерка з капустай. Нейкая жаласлівасць заварушылася на момант у падсвядомасці: «А што калі гэта пашкодзіць яго здароўю?»

Усю тую ноч не самкнула вачэй Раіса. Напалі на яе трывога і страх за свой учынак. Шмат чаго перадумала і пры святле лямпачкі і ў цемені. Хоць не кахае яго, а ўсё-ж такі муж. І ці-ж ён вінават, што яго пацалункі агідныя, а пакладзеная ім на плячо рука выклікае заўсёды халодную дрыготку. Некалькі разоў падыходзіла да ложка, на якім моцна спаў Апанас Пятровіч. Раніцою задрамала, і скрозь сон пачула знаёмы напеў мужа. Апанас Пятровіч хадзіў па сваім кабінеце і, прытупваючы правай нагой, упоўголаса, каб не разбудзіць жонку, напяваў з Лермантаўскай «Тамары»:

«Прекрасна, как ангел небесный, как демон, коварна и зла»...

— Ну, як вы сябе адчуваеце, Фоня? — спытала Раіса, увайшоўшы ў кабінет. Ласкавае імя свайму мужу яна знайшла, а змяніць «вы» на блізкае «ты» так і не змагла.

— Добра, Раечка. Надзвычай добра. Ад перамены стравы нават паздаравеў. Я з дзяцінства прывык да такой ежы, і твае далікатэсы, відаць, на карысць мне не ішлі.

Пасля снедання Раіса пайшла да маці расказаць пра ўсё, што перадумала за ноч. Прыйшла, а тая сама ляжыць хворая. Жанчына ўжо і раней адчувала боль у сэрцы. Нібы хтосьці браў яго ў жменю і бязлітасна сціскаў. Тады, здавалася, прыходзіў канец жыццю. Потым станавілася лягчэй — сэрца пачынала зноў біцца, толькі халодны пот чамусьці не пераставаў выступаць на ілбе. Раіса падала лякарства маці і села каля ложка на крэсле. Неўпрыкметку стала расказваць пра здароўе Апанаса Пятровіча і скончыла неяк абыякава:

— Сама не ведаю, што рабіць?

— А што-ж цяпер, дачушка, зробіш,—ціха, павольна, нібы прыслухоўваючыся да кожнага свайго слова, загаварыла маці.—Цярпела больш, пацярпі менш. Ты-ж амаль у тры разы маладзей за яго. Усё тваё яшчэ наперадзе.

— Мама, нядобра неяк чакаць чужой смерці. Няхай сабе жыве чалавек.

— А хто яе чакае, дачушка? На сухі лес ёй дарога. Я толькі кажу так, як яно ёсць: старэй ён і за цябе, і за мяне, і два жыцці не будзе жыць.

— Я не пра тое, мама, думала. Жывуць-жа ўсе мае сяброўкі інакшым жыццём.

Серафіма Пятроўна схапілася за левы бок грудзей і толькі паспела вымавіць: «І не думай», як ёй стала горш. Раіса больш не заводзіла гаворкі па гэтую тэму. Яна ўжо дакарала сябе нават і за тое, што расхвалявала маці выказваннем сваіх намераў.

Хворая так і не ўстала больш з ложка, не дачакалася зяця-прыгажуна. Згаслі апошнія вугольчыкі, што падагравалі мары Раісы. Не было цяпер з кім параіцца, прыходзілася разлічваць толькі на свой розум.

Аднойчы, на прадвесні, Апанас Пятровіч моцна захварэў. Прыйшоўшы з работы, ён не ўзяў нічога ў рот. А ўвечары пачаў трызніць. Раіса выклікала ўрача, той абслухаў, абстукаў з усіх бакоў, паглядзеў на язык і супакоіў хворага:

— Грыпок. Пасцельны рэжым, прапішу лякарствы і праз тыдзень які зноў пойдзеце на працу.

— Добра было-б, — узрадаваўся Апанас Пятровіч.—Не хочацца, каб пераносілі лекцыі... Трацішца ад гэтага стройнасць у плане.

— Дык гэта-ж не ваша віна,— хацела падвесяліць яго пры чужых людзях Раіса.

— Усёроўна нядобра, Раечка,— зірнуў ласкава ў твар жонцы хворы.

Урач выйшаў на кухню, услед за ім пайшла Раіса. Яна хацела спытаць сёе-тое ў яго, але пры хворым не магла. Урач мыў рукі над тазам, а Раіса стаяла побач. Яна выслала за нечым работніцу ў другі пакой, а сама гэтым часам нясмела звярнулася:

— Скажыце, доктар, як у Апанаса Пятровіча з сэрцам?

Урач адказаў не адразу. Ён атрос над тазам ваду з рук, разагнуўся і, выціраючы аб ручнік палец за пальцам, спачатку левай рукі, потым правай, упэўнена адказаў:

— Гадоў дваццаць яшчэ пастукае.

— Што вы кажаце?—вырваўся міжвольна спалох з грудзей Раісы. У адзін момант яна прыкінула ў галаве—дык гэта-ж ёй будзе тады за сорак пяць.

— А чаго вы здзіўляецеся?—адступіў на два крокі ўрач і пільна паглядзеў у вочы Раісе.—За дваццаць гадоў можна ручацца. Такія, як Апанас Пятровіч, нас з вамі яшчэ, дарагая, перажывуць. Вы як даводзіцеся яму: дачка ці ўнучка?—спытаў, падаючы ручнік.

Раіса на момант збянтэжылася. Яна не чакала такога пытання, але, пакуль вешала ручнік, сабралася з думкамі і адказала:

— Сваячка... дальняя.

— А-а-а!—працягнуў шматзначна ўрач і з цікаўнасцю агледзеў Раісу.

Вечарам таго дня Апанас Пятровіч выпацеў пасля лякарства і адчуў сябе лепш. З'явілася жаданне пажартаваць з Раісы:

— А я ўжо думаў, астанешся ты маладою ўдавою.

— Рана вы думаеце аб смерці. Доктар казаў, гадоў дваццаць яшчэ пажывеце,—штучна ўсміхнулася Раіса.

Вочы ў хворага павесялелі ад жончыных слоў. Ён прыўзняўся, абапёрся на локаць і неяк задумліва сказаў, гледзячы ў акно.

— Хацелася-б пажыць яшчэ столькі. Работы шмат незакончанай.—Потым памаўчаў хвіліну і павольна перавёў погляд на жонку:—Ты не ўяўляеш сабе, Раіса, якую радасць прыносіць чалавеку




Са старта выехаў — весяліўся.




Прыйшоў на фініш — праслязіўся.

праца. Не перажываеш ты гэтага шчасця. Спачатку я шкадаваў цябе, як дзіця. Хацеў, каб адпачыла пасля стольніх гадоў вучэння. А пазней, як я заўважыў, ты ўжо сама перастала думаць аб працы. У мяне-ж не павярнуўся язык сказаць табе пра гэта. Матэрыяльнай патрэбы, каб працаваць, не было ў нас, а так — ты сама ў сталым розуме...

Увесь час Раіса слухала з увагаю мужавы разважанні і міжвольна ўяўляла сабе жыццё сяброваканакурсніц. І як толькі Апанас Пятровіч на момант змоўк, каб сабрацца з думкамі ці, можа, праверыць, якое ўражанне зрабілі яго словы на жонку, Раіса адразу-ж загаварыла:

— І зусім я не пераставала думаць пра работу, Фоня. Мне не міла было ўсё, бо пайшла я ў жыццё не тою дарогаю,—і ўсхліпнула.

— Раіска, Раечка, дарагая мая, прабач! Ты не так зразумела ўсё. Я не хацеў пакрыўдзіць цябе,— узяў Апанас Пятровіч раісіну руку ў сваю і некалькі разоў пацалаваў. На гэты раз Раіса не вырывала рукі. Яна сама прыпала да пляча мужа і скрозь усхліпванні прашаптала:

— Колькі ў вас чалавечнасці, Фоня!

Зноў усю ноч не магла заснуць Раіса. Да самай глыбіні душы кранулі яе словы мужа. Паўстала перад вачыма перажытае. «Так і ўсё жыццё пройдзе, і самую старасць агорне»,—палезлі ў галаву самі па сабе палахлівыя думкі. Раіса ўключыла настольную лямпу: спадзявалася, святло зменіць ход разважанняў, але гэта нічога не памагло: «Мае сяброўкі даўно скончылі аспірантуру, працуюць, любяць сваю работу... І тыя, што паехалі на вёску, таксама знайшлі сваё месца ў жыцці, а гэта... хадзі па велізарных пакоях і чакай. Чаго? Ды гэта нават, калі на тое пайшло, бесчалавечна. Мець усе выгады ад чалавека і зычыць яму зла».

Раіса ўстала з ложка, прайшла ў адзін, другі пакой, падыйшла да дзвярэй кабінета, прыслухалася: Апанас Пятровіч ціха спаў на канапе. Тады вярнулася назад, легла зноў у пасцель, паспрабавала чытаць, правяла вачыма некалькі старонак ды нічога не магла зразумець. Выключыла святло, накрыла галаву коўдрай, заплюшчыла вочы, хацела заснуць сілком і не заснула.

Некалькі дзён Раіса Міхайлаўна была сама не свая: з дамашняй работніцай гаварыла мала, пазней звычайнага валялася ў пасцелі, радзей стала заходзіць у кабінет да мужа.

Нарэшце, аднае раніцы яна знікла з кватэры. Знікла так, каб ніхто не бачыў у доме.

Занепакоены цішынёй у жончынай спальні, Апанас Пятровіч паціхеньку прыадчыніў дзверы з намерам пажартаваць над познім сном Раісы, але на ложку нікога не было, было заслана чыстай капай. Ён не паверыў сваім вачам, хуткімі крокамі прайшоў у пакой, адхінуў цюлевую фіранку і, хоць тут было светла, памацаў у некалькіх месцах пасцель. Потым зірнуў на столік і ўбачыў складзены ў чатыры столкі ліст паперы.

Апанас Пятровіч памкнуўся ўзяць пісульку і спыніўся. Рука задрыжала ад жахлівай раптоўнай думкі: «Што з ёю?» Але ён перамог сябе і разгарнуў ліст паперы. Абедзве старонкі яго былі спісаны вялікімі, няроўнымі, відаць ад спешкі, літарамі. Ён умомант выйшаў з пакоя ў свой кабінет. Там надзеў акуляры і вось што прачытаў:

«Паважаны Апанас Пятровіч!»

«Нават не «Фоня» і не «дарагі»,—мільганула думка, але жаданне хутчэй даведацца, што далей—заглушыла крыўду.

«Прабачце за ўсё. Я зрабіла памылку ў жыцці, якую яшчэ можна выправіць. Маці хацела бачыць мяне ў раскошы, у пашане. Усё гэта я мела, але шчасця свайго не знайшла. Кожнай раніцы, калі з кабінета даносіўся да маіх вушэй ваш любімы напеў, гэта не радавала мяне, як яно павінна быць у сямейным жыцці. Цяпер вам стане зразумелым маё нежаданне хадзіць з Вамі ў тэатр. Я не знаходзіла сабе месца ў Вашай прасторнай, але цеснай і душнай для мяне кватэры. Нялёгка мне было адважыцца на тое, што раблю зараз, але лічу—гэта найлепшы выхад з становішча.

Дакументы і грошы ляжаць у шуфлядцы, на ранейшым месцы. Я ўзяла толькі дзвесце рублёў на першыя дні, пакуль уладжуся на работу. Цяжка будзе мне наганяць упушчанае, але ў гэтых цяжкасцях і будзе асалода майго жыцця.

Ад шчырага сэрца жадаю Вам, Апанас Пятровіч, доўгіх гадоў жыцця і поспехаў у працы. Моцна цалую Вас як чалавека. Цалую так, як не цалавала за ўсе восем год. Яшчэ раз прабачце маю памылку.

Раіса».

Апанас Пятровіч перачытаў апошні сказ пісьма і глыбока задумаўся: «Ці-ж гэта толькі яе памылка?»





# Юнацкія гады Максіма Багдановіча

**Н. ВАТАЦЫ, Н. ЛАПІДУС**

Восенню 1896 года служачы сялянскага банка. Адам Ягоравіч Багдановіч прыехаў з Беларусі ў вялікі горад на Волзе — Ніжні Ноўгарад. Незадоўга да гэтага памерла яго жонка Марыя Апанасаўна, і асірацелая сям'я, разам з маленькім Максімам, пераехала на новае месцажыхарства.

Тут, у Ніжнім Ноўгарадзе, у канцы лістапада бацька паэта пазнаёміўся з Максімам Горкім, дом якога знаходзіўся на Вязнясенскім завулку — непадалёк ад Багдановічаў. Маленькі Максім часта бываў у доме вялікага пісьменніка, уважліва слухаў бясконцыя размовы, якія вялі між сабою яго бацька і Аляксей Максімавіч.

Надоўга ў памяці Максіма захаваліся ўспаміны яго дзіцячых гадоў, звязаныя з наладжваннем спектакля і бясплатнай ёлкі для дзяцей бедных у памяшканні гарадской управы. Усё гэта было прыдумана і ажыццёўлена Горкім, які горача любіў маленькіх жыхароў свайго горада.

У жніўні 1902 года Максім Багдановіч паступіў у першы клас Ніжненаўгародскай губернскай гімназіі. Будынак гімназіі стаяў на гарадской плошчы, насупраць старажытнага Крэмля, побач з памяшканнем духоўнай семінарыі, дзе некалі вучыўся Дабралюбаў. За некалькі месяцаў да паступлення Максіма ў гімназію адбылася вядомая першамайская дэманстрацыя ў Сормаве, на чале з Пятром Заломавым, якога пасля апісаў Горкі ў кнізе «Маці».

У гімназіі, куды паступіў Максім, былі моцныя рэвалюцыйныя настроі. У 1896—1900 гадах тут займаўся Я. М. Свердлоў, які хоць і пакінуў вучобу з пятага класа, але падтрымліваў сувязь з рэвалюцыйна-настроенымі гімназістамі.

Калі пачалася першая руская рэвалюцыя, Максім разам з іншымі вучнямі прымаў удзел у бунтах, у час якіх гімназісты свядома зрывалі заняткі і патрабавалі звальнення рэакцыйна настроеных выкладчыкаў. Гэтыя выступленні пераклікаліся з палітычнымі забастоўкамі і дэманстрацыямі ў Ніжнім Ноўгарадзе і Сормаве, былі ў цеснай сувязі з імі.

Юны Максім быў у гушчы

«гімназісцкіх непарадкаў». У асабістай справе яго, якая захоўваецца ў Горкаўскім абласным архіве, адзначаны шматлікія факты, якія характарызуюць яго ўдзел у гэтых хваляваннях.

У той час Максім прагна цягнуўся да ведаў. Незадаволены тым, што ён атрымлівае на ўроках у гімназіі, юнак стараўся папоўніць свае веды заняткамі дома. Ён звяртаўся да кніг, карыстаючыся багатай бібліятэкай свайго бацькі, у якой былі рэдкія бібліяграфічныя выданні, што выклікалі захапленне самога Горкага.

У сям'і Адама Багдановіча, беларуса па паходжанню, увесь час жылі цёплыя ўспаміны пра Беларусь. Бацька паэта і ў Ніжнім Ноўгарадзе не спыняў сваёй ра-



боты па беларускай этнаграфіі. У сям'і добра ведалі і спявалі беларускія песні. Максім з цікавасцю перагортваў кнігі па беларускім фальклоры, знаёміўся з творамі Ф. Багушэвіча, Цёткі, Я. Купалы і Я. Коласа. Многія беларускія выданні ён спецыяльна выпісваў з Вільні і Пецярбурга.

Ужо ва ўзросце 10—11 год Максім пачаў пісаць вершы на беларускай мове. У 1907 годзе ў газеце «Наша ніва» было надрукавана першае апавяданне Максіма Багдановіча «Музыка». Тут, у Ніжнім Ноўгарадзе, былі напісаны вершы: «Мае песні», «Ноч», «Прыдзе вясна» і інш.

У канцы 1908 года, у сувязі з пераездам бацькі на працу ў яраслаўскае аддзяленне сялянскага банка, Максім пераводзіцца ў Яраслаўскую губернскую гімназію.

Закончыўшы Яраслаўскую гімназію, паэт увосень 1911 года паступае вучыцца на першы курс Яраслаўскага юрыдычнага ліцэя. Па словах бацькі, Максім хоць і наведваў ліцэй акуратна і залікі здаваў выдатна, лекцыі слухаў не часта: больш займаўся ў велізарнай ліцэйскай бібліятэцы.

Яраслаўскі перыяд жыцця паэта — гэта перыяд напружанай літаратурнай і навуковай працы. Пачынаючы з 1909 года, у друку з'яўляюцца ўсё новыя і новыя яго творы на беларускай і рускай мовах. Вершы свае паэт прысвячае беларускаму народу, яго цяжкаму гору і светлай надзеі на будучае.

Багдановіч імкнецца паглыбіць свае веды, вучыцца на лепшых узорах класічнай рускай літаратуры. Ён перакладае на родную мову вершы Пушкіна, Майкава і інш., самастойна вывучае украінскую і другія славянскія мовы, праяўляючы вялікую цікавасць да твораў славянскіх паэтаў. Шмат увагі ён аддае вывучэнню замежных моў, перакладае творы антычных, французскіх і нямецкіх паэтаў. У гэты час распачынаецца яго шырокая літаратурна-крытычная, журналісцкая і публіцыстычная дзейнасць.

З 1913 года па 1916 год Максім Багдановіч супрацоўнічае ў Яраслаўскай газеце «Голас», адгукаючыся на яе старонках на важнейшыя літаратурныя з'явы свайго часу. Адначасова ён пасылае свае артыкулы і пераклады ў буйнейшыя маскоўскія і петраградскія выданні. У маскоўскім выдавецтве К. Ф. Някрасава выходзяць з друку брашуры Максіма Багдановіча — «Угорская Русь», «Червонная Русь», «Братья-чехи».

Асаблівую цікавасць для нашага часу мае трэцяя кніжка, якая прасякнута велізарнай любоўю да брацкага чэшскага народа. У ёй Максім Багдановіч даваў кароткі гісторыка-геаграфічны нарыс пра землі, населеныя чэхамі, знаёміў з чэшскай культурай, гаварыў аб неабходнасці далейшага ўмацавання сувязей паміж рускім і чэшскім народамі. Гэтая невялічкая кніжка паэта да самага апошняга часу не была вядома і не ўвайшла ні ў адзін збор твораў Максіма Багдановіча.

Папулярнасць Максіма Багдановіча як журналіста і публіцыста расце, і ўжо ў 1914 годзе ён быў прыняты сапраўдным членам усерасійскага Таварыства дзеячоў перыядычнага друку і літаратуры, ганаровымі членамі якога былі В. Г. Караленка і А. М. Горкі.

Буйнейшай падзеяй у творчым жыцці паэта з'яўляецца выхад у свет у 1913 годзе ў Вільні зборніка яго вершаў — «Вянок». Гэты зборнік сведчыць аб тым, што ў беларускую паэзію прыйшоў яркі паэт з самабытным і бліскучым талентам.

У сваіх ненадрукаваных успамінах пра Максіма Багдановіча яраславец Н. Г. Огурцоў прыводзіць наступныя словы паэта, якія ён сказаў у сувязі з выхадам у свет «Вянка»: «За беларускай мовай не хочуць прызнаваць самастойнасці і самабытнасці. Не хочуць дапусціць і думкі, што на гэтай мове можна выразіць усе рухі чалавечай душы і даць любую літаратурную форму. Я сваёй кніжачкай і хацеў паказаць, што ўсё гэта магчыма...» (Архіў М. Багдановіча, папка № 2, ліст № 5).

Восенню 1916 года, пасля сканчэння Яраслаўскага юрыдычнага ліцэя, спаўняецца даўняя мара Максіма Багдановіча — ён пераязджае ў Мінск. Нейкі час паэт працуе сакратаром Мінскай гу-




бернскай прадуктовай камісіі і адначасова прадаўжае творчую работу. На аснове фальклорных матэрыялаў Максім Багдановіч піша свой апошні твор «Страцім—Лебедзь», які з'яўляецца апошняй песняй паміраючага паэта.

У канцы лютага 1917 года Максім Багдановіч, цяжка хворы, едзе ў Крым насустрач сваёй апошняй вясне. 25 мая 1917 года паэт памёр ад сухотаў і быў пахаваны ў Ялце.

Паэт памёр у самым росквіце сваіх творчых сіл, аддаўшы ўсю сваю маладосць Радзіме, так горача ўслаўленай у яго цудоўных вершах.

**Еўдакія ЛОСЬ**

## На ялцінскіх магілках

*Памяці М. Багдановіча*

Пераплецены пліты быллём незнаёмым,
Пахаваны гадамі з каменняў скляпы,
Палахліва пасталі крыжы на пад'ёме, —
Непрыемна кранае іх позірк сляпы.

Я магілу паэта шукаю старанна,
Верш журботны ягоны не моўкне ў душы;
Зноў шкадую, навошта загінуў так рана
І навечна застаўся у гэтай цішы.

Можа, доўга-б яшчэ я самотна блукала,
Каб не гук, што імгненна мне шлях азарыў:
Праляцела зязюля
і так закувала
Тут, у Ялце,
нібы ў беларускім бары!..



— Іду на рэкорд па глыбіні.



У палявым стане пятай брыгады Мінскай МТС. Паштальён Ірына Крышановіч перадае газеты трактарысту Віктару Карпілавічу. На другім плане — брыгадзір Уладзімір Карпілавіч з сынам.



Піянеры ў гасцях у маладых артыстаў Беларускага тэатра юнага гледача.
Фото М. Ананьіна.



# Як трымаць сябе на людзях

**Г. ПУЗІС,**
**кандыдат філалагічных навук**

Мал. Н. Лебедзевай.

Уменне трымаць сябе сярод людзей неабходна кожнаму чалавеку. Яно складае неад'емную частку яго агульнай культуры. Вельмі пажадана, каб у сямейным выхаванні бацькі не забывалі і аб гэтым баку «шліфоўкі» паводзін дзяцей. Прычым, лепшы спосаб навучыць дзяцей добра трымацца ў грамадзе — уласны прыклад.

У гэтым артыкуле пойдзе гаворка аб тым, як трымаць сябе, будучы запрошаным у госці. Гэта тым больш патрэбна, што гасціннасць — даўняя, вельмі добрая традыцыя нашага народа.

Уявім, што сёння збор гасцей у невялікай кватэры. Гаспадары — людзі параўнальна маладыя або сярэдняга ўзросту. З выпадку святочнага дня або сямейнай урачыстасці збіраюцца родзічы і сябры, прыкладна да 10 чалавек.

Натуральна, што гаспадары і госці апрануцца ў святочным плацці ў залежнасці ад свайго дастатку і пары года. Трэба імкнуцца да таго, каб ваша адзенне: гарнітур, кофтачка і спадніца, штаны і пінжак, сарочка і гальштук, панчохі і абутак былі падабраны ў тон. Чалавек, апрануты ў адзенне самых розных колераў, нечым нагадвае папугая. Чым важнейшая ўрачыстасць або свята, тым больш строга трэба аднесціся да колеру нашай адзежы. Калі гэта які-небудзь юбілейны дзень ці вялікая ўрачыстасць, то лепш, каб адзежа была больш цёмных тонаў. Калі-ж гэта звычайнае свята ці нядзеля, гарнітуры могуць быць і больш светлых адценняў і другіх тонаў, асабліва вясной або летам.

Чорны абутак падыходзіць да ўсіх колераў гарнітураў, асабліва лакавы. Летні абутак, светлыя туфлі, каляровыя сандалеты падыходзяць да ўсіх плаццяў і гарнітураў, апрача чорных і сініх.

Панчохі і шкарпэткі падбіраюць пад колер абутку, гарнітура або гальштука. У парадныя дні кофтачку або мужчынскую сарочку пад гарнітур лепш апранаць белую, але можна апранаць і каляровую, светлую. Цёмныя кофтачкі ці верхнія кашулі, цямнейшыя за колер гарнітура, не рэкамендуецца апранаць, ідучы ў госці. Адпаведна падбіраюцца і жаночыя плацці.

Гаспадыня дома павінна апранацца сціпла. Нават у дзень свайго нараджэння або гадавіну шлюбу яна адзяецца не крыкліва. Гаспадыня ні ў якім выпадку не павінна «зацямняць» сваім убраннем гасцей, — наадварот, ветлівасцю і сціплым уборам яна стварае для гасцей абставіны прастаты і натуральнасці.

Дзеці, калі яны ідуць не на свой вечар, а будуць знаходзіцца ў асяроддзі дарослых, могуць быць апрануты: дзяўчынкі ў святочную школьную форму з белым пярэднікам, хлопчыкі — у кіцелі, але пры жаданні могуць апрануць любое сціплае святочнае плацце. Старшакласнікі, якія скончылі школу, студэнты і наогул маладыя людзі апранаюцца, як дарослыя, але ў плацці «маладзейшых» фасонаў. На школьны вечар лепш апранаць больш зручнае, лёгкае плацце, каб уволю пагуляць, павесяліцца. Юнакі могуць быць у пінжаку або куртцы і штанах рознага тону.

Школьнікам, у тым ліку і старшакласнікам, не рэкамендуецца ўжываць духі, дзяўчынкам — пудру і губную памаду. Маладосць прыгожая сама па сабе, натуральнасцю сваіх фарбаў. Усякае падмалёўванне гаворыць не ў карысць розуму тых маладых людзей, якія ім карыстаюцца.

Галоўнае патрабаванне да адзення — чыстата і акуратнасць. Не страшна, калі ў каго-небудзь паношаны або будзённы гарнітур, але дрэнна, калі пляма на новым гарнітуры не вычышчаны або плацце памятае, абутак новы, але брудны.

Прычоску кожны носіць такую, якая яму да твару. Але ёсць прычоскі наогул непрыгожыя. Такімі з'яўляюцца валасы, завітыя вельмі дробна, «баранчыкам», і грыўка, якая закрывае лоб да брывей.

Такім чынам, мы апрануты чыста, з густам, да твару прычасаны, абутак не ціснe, да гарнітура або суконкі мы прывыклі, не азіраемся ўвесь час у люстэрка і зусім абыякавыя да таго, ці звяртаюць другія ўвагу на якасць тканіны або фасон нашага ўбрання. Але гэтага мала. У нас павінен быць належны выгляд, постава. Трэба прывучацца з дзяцінства трымацца прама, не выпінаць ні грудзей, ні жывата, не горбіцца, не жмурыць вачэй, не



азірацца, не гаварыць надзвычай гучна або вельмі ціха, не рагатаць без прычыны, не ўсхопвацца і не круціцца, не кідаць да сяброўкі на шыю, не глядзецца раз-пораз ў ручное люстэрка і, прыхарошваючыся, папраўляць то прычоску, то каўнерчык, то брошку.

Прыходзіць на вечар або сустрэчу сяброў трэба дакладна ў прызначаны час. Калі-ж здарыцца так, што госць па нейкай уважлівай прычыне спозніцца, то з далікатнасці, якім-бы галодным ён ні быў, належыць адхіліць прапанову гаспадароў зноў падаць для яго ўжо прыбраныя са стала стравы, а трэба ўключыцца ў застольны «ход».

Увайшоўшы ў кватэру, адразу-ж здымаюць капялюш або шапку і вітаюць гаспадара ці гаспадыню, але не здароўкаюцца з імі за руку, не абдымаюць і не цалуюць да таго часу, пакуль не скінуць пальчаткі, паліто, галошы. (Пальчаткі скідаюць спачатку правую, потым левую, а надзяваюць спачатку левую).

Не трэба ўваходзіць у дэмісезонным або зімовым паліто і шляпе ў пакой нават і «на хвілінку». Пры кароткім візіце ўваходзіць у пакой можна ў цёплую пару года, трымаючы капялюш або кепку ў руцэ, а лёгкае паліто або плашч складзеным, на руцэ. Парасон заўсёды пакідаюць у прыхожай. Ніколі не заходзяць у пакой у ботах або галошах.

Нярэдка ветлівыя гаспадары, сустракаючы гасцей, стараюцца дапамагчы зняць паліто, а праводзячы — апрануць яго. Маладыя людзі павінны пастарацца зрабіць гэта самі. Але юнакі заўсёды павінны дапамагчы ў такіх выпадках дзяўчатам. Распрануўшыся, вітаюцца з гаспадарамі за руку, калі яны яе працягваюць. Калі гаспадары просяць заходзіць у пакой і прапускаюць госця ўперад, выкарыстаць гэта можа жанчына, мужчына-ж заходзіць першым толькі ў тым выпадку, калі ён значна старэйшы за гаспадыню. Наогул усюды, не толькі ў гасцях, мужчына адчыняе дзверы перад жанчынай і прапускае яе ўперад, а на вуліцы саступае ёй дарогу.

Калі дзверы адчыніў хто-небудзь другі, а не самі гаспадары, то, распрануўшыся і прывітаўшыся, заходзяць у пакой, дзе сабраліся госці. Увайшоўшы, з парога здароўкаюцца з усімі агульным прывітаннем, падыходзяць да гаспадароў і вітаюцца з імі, паціскаючы працягнутую руку, а затым вітаюцца і знаёмяцца з усімі астатнімі гасцямі асабіста. Руку працягваюць спакойна, а не размашыстым жэстам. Паціскаюць руку злёгку, не вельмі моцна, але і не слаба. Вельмі недалікатна пядбайна падаваць руку, быццам робячы гэтым ласку, не адказваць на поціск або працягваць два пальцы. Мужчына, вітаючыся, чакае,



пакуль жанчына першая падасць яму руку.

Вітаюцца аднолькава ветліва з усімі, нікому не аказваючы пераваrі, нікому не ўдзяляючы асаблівай ўвагі, ні да каго не адносячыся халадна і непрыязна.

Калі знаёмяць двух незнаёмых адзін другому людзей, то той, што знаёміць, называе спачатку малодшага, а потым старэйшага. Калі госці знаёмяцца самі, то называюць толькі сваё прозвішча, а потым ужо ў гутарцы абменьваюцца імёнамі і па бацьку.

Стаяць пры гутарцы трэба вольна, а не навыцяжку. Калі, размаўляючы, жанчына стаіць, то яе субяседнік таксама не павінен сядзець. Маладыя людзі не павінны садзіцца, пакуль не сядуць жанчыны і старэйшыя мужчыны. Размаўляючы, ні ў якім разе нельга трымаць рукі ў кішэнях, не вадзіць рукой па спінцы дывана, крэсла; у размове не кранаць за плячо субяседніка.

Калі ў дзяўчыны ці жанчыны ў руках сумка, не трэба яе часта адкрываць, шчоўкаючы замком, а лепш за ўсё сумку палажыць у даступнае месца, каб не звязваць ёю рукі. У руцэ можна трымаць хустачку або веер.

У гурце трэба старацца як мага менш курыць: сярод гасцей заўсёды знойдуцца такія, хто не курыць, не любіць табачнага дыму. Знаходзячыся побач з аматарамі курэння, яны не будуць пярэчыць супраць курэння. Але злоўжываць гэтым нельга. Зразумела, курыць можна, толькі атрымаўшы на гэта дазвол гаспадароў. Але, апрача гэтага, належыць атрымаць і згоду тых, якія сядзяць побач. А лепш за ўсё — курыць, выходзячы з агульнага пакоя.

Не паварочвайцеся да каго-небудзь спіной, жадаючы пагаварыць з другім суседам. Не звяртайцеся да другіх, нахіляючыся тулавам цераз суседа.

Седзячы за сталом або ў групе гасцей, не трэба быць залішне шумным, развязным. Не варта і напружвацца з-за боязні зрабіць промах ці памылку. Прасцей зрабіць што-небудзь не так, а потым выправіць, убачыўшы, як гэта зробяць другія, чым сядзець «статуяй». Заўсёды памятайце аб тым, што па выразу Чэхава, культурны чалавек не той, хто не разліў шклянкі чаю на абрус, а той, хто не заўважыў, калі з другім гэта здарылася.

За сталом не трэба манернічаць, ледзь дакранаючыся да стравы, — гэта крыўдзіць гаспадароў і бянтэжыць прысутных. Але, з другога боку, есці празмерна, прагна і многа таксама непрыгожа. Няма чаго і гаварыць аб тым, што нястрыманасць пры выпіўцы не да месца. Дзецям, у тым ліку і школьнікам, якія сядзяць за адным сталом з дарослымі, віна не даюць і не прапануюць.

Усё, што тут пералічана, ні для каго не складае асаблівай цяжкасці. Гэта звычайныя нормы паводзін.

Цяжэй авалодаць уменнем падтрымаць весялосць у кампаніі.

Дасціпным, вядома, можа быць далёка не кожны. Для гэтага трэба мець пачуццё гумару, начытанасць, культуру. Не варта імкнуцца быць дасціпным, калі гэта ў вас не атрымліваецца. У калектыве заўсёды знойдуцца «выпрабаваныя жартаўнікі» і дазвольце ім гэтую ролю. Наогул знойдзецца свая роля і ў кожнага з гасцей: пратанцаваць, заспяваць або прачытаць свае вершы, нават проста дапамагчы пагаспадарыць, прыняць гасцей ці арганізаваць гульню. Не трэба старацца падмяніць другіх, выстаўляць сябе і свае таленты. Бывае так: у дзяўчыны добры голас, і яна спявае ўвесь вечар, пачынае то адну, то другую песню і, калі падхоплівае гэтую песню хор, з усіх сіл стараецца, каб яе голас выдзяляўся — зацягвае, падаўжае ноты. Гэта хутка ўсім надакучвае.

Калі просяць што-небудзь прачытаць, заспяваць, зайграць і калі гэта можна зрабіць, то не трэба аднеквацца, прымушаць сябе ўпрошваць.

Не гаварыце дрэннага аб другіх, не паўтарайце плётак. Калі вы хочаце пажартаваць, то старайцеся жартаваць так, каб не закранаць самалюбства прысутных. Зусім не да месца жарты над знешнасцю, імёнамі ці ўзростам другіх. Чалавек не вінаваты ў тым, што ён тоўсты або тонкі, вельмі блізарукі або надта малады, як і ў тым, што бацькі далі яму якое-небудзь «незвычайнае» імя.

Нельга прыдаваць асаблівую ўвагу каму-небудзь аднаму. Недарэчны рэўнасць і забарона танцаваць сябру ці сяброўцы з кім-небудзь, апрача вас. Запрашаюць на танцы звычайна мужчыны, юнакі. Але калі дзяўчына або жанчына добра знаёмая з кім-небудзь, яна можа запрасіць свайго знаёмага іншы раз і сама. Вельмі непрыемнае ўражанне робіць малады чалавек, які ўвесь час запрашае на танцы адну і тую-ж дзяўчыну і як-бы «не заўважае» іншых. Наогул прыкметнае адасабленне на «парачкі» непрыстойнае.

Але вось вечар скончаны. Час разыходзіцца. (Можна пайсці з вечара і раней, незаўважаным, абавязкова толькі развітаўшыся з гаспадарамі.)

Пажадана, каб маладыя людзі выказалі жаданне праводзіць старых, інвалідаў або педагога, калі ён быў на вечары. Юнакі могуць праводзіць дзяўчат.

Суправаджаючы жанчыну, мужчына павінен, калі яна спускаецца па лесвіцы, ісці крыху ўперадзе яе, а калі падымаецца, дык на ступеньку ніжэй, ззаду. Калі на вуліцы сустрэнецца лужа ці канава, мужчына пераходзіць або пераскоквае першы і падае жанчыне руку. Ісці дзяўчыне або жанчыне падруку з двума мужчынамі лічыцца непрыгожа. З двух — пад руку яе вядзе адзін, а другі ідзе побач.

Уменне весці сябе ў грамадзе робіць вельмі добрае ўражанне, выклікае прыхільнасць да чалавека і можа паслужыць пачаткам узнікнення вялікага, добрага сяброўства людзей, якія сустрэліся ў кампаніі.



НАСУСТРАЧ МІЖНАРОДНАМУ ГЕАФІЗІЧНАМУ ГОДУ

# Год—з 18 месяцаў




Першага ліпеня гэтага года роўна ў 0 гадзін 00 мінут па ўмоўнаму радыёсігналу вучоныя многіх краін свету прыступяць да выканання вялікай праграмы ўсебаковых даследаванняў зямнога шара, вядомай пад назвай Міжнароднага геафізічнага года.

Інжынер І. А. Корзун і старшы тэхнік Л. С. Коханава правяраюць радыёзонд.



Старшы радыётэхнік Н. К. Емельянаў вызначае месца навальніцы.



Старшы тэхнік Н. А. Казлоўская наглядае за ціскам паветра.

Фото С. Чырэшкіна.



Наш карэспандэнт звярнуўся да дырэктара Мінскай гідраметэаралагічнай абсерваторыі А. Г. Булаўко з просьбай расказаць чытачам часопіса аб гэтым буйнейшым навуковым мерапрыемстве. Ніжэй мы змяшчаем адказы А. Г. Булаўко на пытанні нашага карэспандэнта.

**Пытанне:** Што такое Міжнародны геафізічны год?

**Адказ:** Міжнародны геафізічны год — гэта перыяд часу працягласцю ў 18 месяцаў (з 1 ліпеня 1957 г. па 31 снежня 1958 г.), у час якога вучоныя многіх краін свету адначасова правядуць глыбокія ўсебаковыя навуковыя даследаванні геафізічных з'яў на зямным шары.

Усе разнастайныя фізічныя з'явы і працэсы, якія адбываюцца ў нетрах і на паверхні зямнога шара, у яго газавай і вадкай абалонках, прынята аб'ядноўваць пад агульнай шырокай назвай геафізічных працэсаў і з'яў. Навука, якая вывучае гэтыя працэсы і з'явы, называецца геафізікай.

Геафізічныя працэсы і з'явы маюць вялікае значэнне ў жыцці і дзейнасці людзей. Яны даўно вывучаюцца вучонымі многіх краін. Аднак гэтае вывучэнне вядзецца ў розных краінах па-рознаму, з прымяненнем розных прыбораў і рознай методыкі. Гэта стварае цяжкасці ў выкарыстанні атрыманых вынікаў для агульнанавуковых вывадаў аб зямным шары ў цэлым.

Яшчэ ў мінулым стагоддзі ўзнікла думка аб'еднаць намаганні ўсіх вучоных па вывучэнню зямнога шара. Так былі праведзены, пры актыўным удзеле рускіх і савецкіх вучоных, першы, а потым другі Міжнародныя палярныя гады, названыя так таму, што галоўная ўвага аддавалася вывучэнню раёна паўночнага полюса.

У першым Міжнародным палярным годзе, які прадаўжаўся 12 месяцаў, — са жніўня 1882 па жнівень 1883 года — удзельнічалі вучоныя 12 краін. У другім, які прадаўжаўся 13 месяцаў (са жніўня 1932 па верасень 1933 года — удзельнічалі вучоныя 49 краін. У трэцім Міжнародным геафізічным годзе будуць удзельнічаць вучоныя 55 краін.

Геафізічным гэты год будзе называцца не толькі таму, што даследаванні будуць праводзіцца на ўсім зямным шары, а не ў асобных раёнах, як было раней, але і таму, што будзе пастаўлена многа новых геафізічных праблем, вырашэнне якіх стала магчыма дзякуючы інтэнсіўнаму развіццю эксперыментальнай тэхнікі за апошнія 25 год.

Ну а «годам» гэты перыяд называецца па традыцыі.

**Пытанне:** Якія даследаванні будуць праводзіцца ў перыяд МГГ?

**Адказ:** Праграма МГГ настолькі differentiated рознабаковая і шырокая, што гаварыць на гэтую тэму прыйшлося-б вельмі доўга. Коратка-ж можна сказаць, што даследаванні ахопяць усе раздзелы геафізікі. Шматабяцаючымі з'явяцца даследаванні верхніх слаёў атмасферы з прымяненнем у шырокім маштабе высотных ракет, а таксама назіранні над зямлёю са штучных спадарожнікаў, якія ўпершыню ў гісторыі навукі будуць запушчаны ў СССР і ЗША. На эмблеме МГГ паказаны такі спадарожнік у выглядзе маленькага шарыка, які рухаецца па арбіце вакол зямнога шара.

Аб размаху прадстаячых работ можна меркаваць па такіх дадзеных: толькі да гідраметэаралагічных назіранняў па праграме МГГ у Савецкім Саюзе прыцягваецца 292 навуковыя абсерваторыі і станцыі Акадэміі навук СССР, Гідраметслужбы і Галоўнага паўночнага марскога шляху, у тым ліку 2 дрэйфуючыя станцыі ў цэнтральнай Арктыцы і 3 станцыі на мацерыку Антарктыды.

Каля 100 аэралагічных станцый будуць вывучаць верхнія слаі атмасферы. 2—4 разы ў суткі будзе праводзіцца радыёзандыраванне атмасферы на вышыні 20—22 км, у тым ліку адзін раз у суткі — на вышыні 29—33 км. Цяпер сярэдняя вышыня радыёзандыравання атмасферы ў большасці краін не перавышае 20 км.

Больш паловы аэралагічных станцый абсталявана спецыяльнай радыёлакацыйнай тэхнікай, якая дазваляе па траекторыі палёту зондаў даследаваць ветравы рэжым атмасферы на вялікіх вышынях.

Вывучэннем сонечнай радыяцыі будзе займацца 36 станцый. На 6 станцыях, абсталяваных удасканаленымі спектрафатометрамі і інтэгральнымі электрафатометрамі, намечана вызначаць колькасць азону ў атмасферы.

На морах СССР будуць праводзіцца глыбокаводныя гідралагічныя разрэзы працягласцю да 100 міль.

Да назіранняў над палярнымі ззяннямі прыступяць 283 станцыі; на 32 з іх спецыяльнымі аўтаматычнымі фотакамерамі будуць фатаграфавацца палярныя ззянні. У 9 пунктах будзе вывучацца выпарэнне вады з воднай паверхні і глебы.

Адзін з сусветных цэнтраў па збору і распаўсюджванню матэрыялаў і назіранняў МГГ ствараецца ў Новасібірску. Там будуецца спецыяльны будынак з добра абсталяванымі лабараторыямі для аналізу, апрацоўкі і выдання матэрыялаў назіранняў.

У шырокай праграме назіранняў МГГ удзельнічаюць Інстытут геалогіі АН БССР, Мінская гідраметэаралагічная абсерваторыя, Мінская аэралагічная станцыя, Гомельская авіяметэаралагічная станцыя і Брэсцкая метэастанцыя.

Інстытут геалогіі стварае спецыяльную станцыю, дзе будуць вывучацца зямныя токі і магнетызм, праводзіцца гравіметрычныя вымярэнні. Станцыі ў Гомелі і Брэсце правядуць поўны комплекс метэаралагічных назіранняў, уключаючы сонечнае ззянне. Са стартавай пляцоўкі абсерваторыі падымуцца ўверх радыёзонды. Для вызначэння іх траекторыі выкарыстоўваецца радыёлакацыйная тэхніка. Электронныя прыстасаванні, размешчаныя ў будынку абсерваторыі, укажуць азімуты навальнічных месц у радыусе да 3 тысяч км. Вывучэнне інтэнсіўнасці выпарэння вады з воднай паверхні будзе весціся на спецыяльным басейне плошчаю ў 20 кв. м.

**Пытанне:** Якое значэнне маюць даследаванні, якія будуць праводзіцца ў час МГГ?

**Адказ.** Навуковае значэнне даследаванняў МГГ заключаецца ў тым, што яны дазволяць атрымаць новыя важныя звесткі аб стане верхніх слаёў атмасферы вышэй 100 км, аб зменлівасці геаграфічных каардынатаў, аб уплыве сонечнай актыўнасці на інтэнсіўнасць і развіццё геафізічных з'яў.

Практычнае значэнне гэтых даследаванняў заключаецца ў тым, што яны дазволяць удасканаліць метады прагнозу надвор'я, вырашыць шэраг пытанняў дальняй радыёсувязі, удакладніць умовы жыцця і навігацыі ў антарктычных водах і многія іншыя пытанні.

І, нарэшце, палітычнае значэнне МГГ можна бачыць у тым, што ўжо ў ходзе яго падрыхтоўкі паміж вучонымі многіх краін устаноўлены навуковыя кантакты, якія пашырацца і ўмацуюцца ў працэсе правядзення МГГ. Гэта несумненна прывядзе да паляпшэння ўзаемаразумення і ўмацавання дружбы паміж народамі.

# Вакол свету





Краіны дэмакратыі і соцыялізма паспяхова развіваюць сваю эканоміку і культуру.

У Народнай Рэспубліцы Балгарыі разгортваецца будаўніцтва новых вялікіх гідратэхнічных збудаванняў. Буйнейшай будоўляй другой пяцігодкі з'яўляецца Батакскі каскад электрастанцый.

На здымку ўверсе злева вы бачыце электразваршчыкаў Метадзі Сімеонава і Тодара Ніколава за работай у трубаправодзе Батакскай ГЭС.

Будаўніцтва соцыялізма ідзе і на далёкім усходзе. Азія заўсёды была крыніцай нажывы імперыялістаў. Яны пакінулі ў спадчыну народам Азіі галечу, непісьменнасць, хваробы. Цяпер там, дзе да ўлады прышоў народ, гэтыя спадчынныя з'явы паступова знікаюць. Вось Дэмакратычная Рэспубліка В'етнам. Народная ўлада прадаставіла доступ да асветы. Колькасць вучняў у школах набліжаецца да мільёна. У краіне ёсць 5 універсітэтаў і 13 сярэдніх прафесіянальных школ, у якіх вучацца звыш 10 тысяч чалавек.

На другім здымку уверсе студэнтка прафесіянальнай школы на практычных занятках.

Моладзь усяго свету чакае новых алімпійскіх гульняў, якія адбудуцца ў 1960 г. у Рыме. У сталіцы Італіі цяпер ідзе будаўніцтва спартыўных збудаванняў.

На трэцім здымку — будаўніцтва залы для спаборніцтваў па гімнастыцы і фехтаванню.



Свет капіталізма — гэта свет бяспраўя і галечы, з аднаго боку, і неверагоднай раскошы кучкі манапалістаў — з другога, гэта барацьба каланіяльных і заняволеных народаў за сваё вызваленне.

Наступны здымак паказвае, як нялёгка жывецца гэтым вясковым жанчынам Ірана. Цяжкая доля быць жонкай беззямельнага селяніна.

Сярэдзіна XX ст. увойдзе ў гісторыю, як эпоха краху каланіялізма. Вялікія і малыя народы некалі каланіяльных краін дружна выступаюць супроць каланізатараў. І нішто не можа выратаваць амерыканскіх, англійскіх, французскіх імперыялістаў: ні войны, ні подкупы.

Неўзабаве пасля паражэння ў Егіпце англійскія інтэрвенты пачалі агрэсіўныя дзеянні супроць невялікай міралюбівай дзяржавы — Йемен.

Як адзін чалавек, падняўся йеменскі народ на абарону сваёй свабоды і незалежнасці. Йемен не будзе калоніяй! — пра гэта павінны помніць няўдачлівыя англійскія ваякі.

На пятым здымку: йеменскія салдаты, якія змагаюцца супроць англійскіх захопнікаў.





Чаму-ж так квапяцца на чужыя землі амерыкана-англійскія імперыялісты? На гэта часткова адказвае здымак унізе злева.

«Банкроцтва. Распрадажа! Купляйце, толькі 20 цэнтаў за долар». Такіх аб'яў многа ў амерыканскім друку. Церпяць банкроцтва не толькі дробныя банкі і фірмы, але і буйныя. Імперыялізм памірае. Ажывіць яго хоць на кароткі час могуць рабункі чужых тэрыторый. Вайна для імперыялістаў — бізнес. Але нішто ўжо не можа надоўга вярнуць капіталізм да жыцця.

Народы залежных і паўкаланіяльных краін рашуча змагаюцца супроць імперыялізма і каланіялізма. Гэтая барацьба ідзе літаральна побач з тэрыторыяй ЗША. Нядаўна на Кубе адбыліся ўзброеныя выступленні супроць рэакцыйнага рэжыму Батысты, які абапіраецца на амерыканскія штыкі.

На здымку ўнізе справа — малады кубінец Фідэль Кастра, які кіруе аперацыямі супроць войск Батысты.

Капіталізм перажывае чорныя дні сваёй паралюшнай старасці. А краіны соцыялізма і дэмакратыі поўны сіл і росквіту.






*Наша пошта*

# Новы завод

На заходняй ускраіне Віцебска, у новым прамысловым раёне — Маркаўшчыне, вырастаюць карпусы завода радыёдэталяў, будаўніцтва якога прадугледжана планам шостай пяцігодкі.

Ужо ясна вырысоўваюцца контуры новага прадпрыемства, пракладзены вадаправод, зроблена каналізацыйная сістэма.

У галоўным корпусе заканчваецца мантаж металаканструкцый. Завод будзе абсталяваны першакласнай тэхнікай. Шматлікія аўтаматы і прэсы для яго выпрацоўваюцца ў Віцебску.

Усе працэсы на заводзе будуць поўнасцю аўтаматызаваны. Нават кантроль гатовых дэталей будзе праводзіцца лабараторным спосабам, з дапамогай дасканалых прыбораў.

Першая чарга завода ўступіць у строй у апошнім квартале бягучага года.

Побач з заводам будуюцца жылыя дамы для рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых новага прадпрыемства. Першы дом ужо здадзены ў эксплуатацыю.

За гады шостай пяцігодкі жылая заводская плошча ўзрасце да 25 тысяч квадратных метраў. Намечана пабудаваць клуб, дзіцячы сад, яслі, спартыўны гарадок і г. д.

Пройдзе нямнога часу, і з аўтаматычных ліній, канвеераў завода сыйдзе гатовая прадукцыя — рознастайныя дэталі для радыёпрамысловасці нашай краіны.

**Ул. БАСАК.**

# Лепшы друкар

Пяць год таму назад у друкарні імя Сталіна паявіўся статны юнак у новай сіняй спяцоўцы. Гэта быў выпускнік рамесніцкага вучылішча камсамолец Гарый Дзятлоўскі. На вытворчасць ён прышоў з добрымі ведамі, аднак яму нехапала яшчэ практычных навыкаў і той прафесійнай упэўненасці, якая нараджаецца ў працы. На дапамогу маладому рабочаму прышоў калектыў. Гарый уважліва прыслухоўваўся да парад сваіх суседзяў па станку, імкнуўся пераняць усё карыснае з іх вопыту.

Неўзабаве Гарыю Дзятлоўскаму даверылі новую складаную машыну, якую ён хутка асвоіў, авалодаў яе тэхнічнымі «сакрэтамі». Прайшло некалькі месяцаў, і хлопец не толькі выконваў, але і перавыконваў свае вытворчыя заданні. Імя яго называлася ў ліку перадавікоў.

У 1953 годзе Г. Дзятлоўскі быў прызваны ў Савецкую Армію. Дэмабілізаваўшыся, ён зноў вярнуўся на сваё прадпрыемства і працуе на той-жа машыне, з'яўляецца перадавіком вытворчасці.

У жыцці маладога рабочага нядаўна адбылася важная падзея — ён прыняты кандыдатам у партыю.

**Н. ФІДЛЕР.**

## Слесар-рацыяналізатар

Скончыўшы рамесніцкае вучылішча, Віль Яфрэмаў прышоў на Мінскі інструментальны завод у рамонтны цэх слесарам.

Юнак палюбіў сваю працу — рамонт станкоў. Выконваючы тое ці іншае заданне, ён усё больш задумваўся над пытаннем удасканалення заводскай тэхнікі. У той час на заводзе не было яшчэ ні аднаго аўтамата ці поўаўтамата.

Малады слесар першы падаў думку пачаць мадэрнізацыю станкоў. Па яго прапанове ў цэху, дзе робяцца напілкі, на шліфавальным станку ВШ-6 была заменена перадача каробкі скорасцей. У выніку шліфавальшчык, які працуе на гэтым станку, павысіў прадукцыйнасць працы ў два разы.

Некалькі год таму назад на завод паступіла партыя станкоў па насечцы зубцоў напілкаў. Магутнасць электраматораў, што прыводзяць у рух гэтыя станкі, была заніжанай. Яфрэмаў прапанаваў зрабіць паслядоўнае падключэнне іх да электрасеткі. Энергетык цэха Паплаўскі спачатку недаверліва аднёсся да прапановы хлопца, а потым, памеркаваўшы, сам прышоў яму на дапамогу. Была ажыццёўлена і другая ідэя слесара Яфрэмава. Эканамічны эфект ад гэтай прапановы складае каля 100 тысяч рублёў у год.

Насечныя станкі мелі і іншыя істотныя недахопы. Напрыклад, шпіндэлі іх пры рабоце атрымлівалі вялікую нагрузку, вельмі часта крышыліся, і машыны надоўга выходзілі са строю. Неўзабаве Яфрэмаў сканструяваў спецыяльнае прыстасаванне да шпіндэля, і працягласць службы станка павялічылася ў 3—4 разы, ды і сам працэс насечкі напілкаў палепшыўся.

Слесар Віль Яфрэмаў унёс шмат рацыяналізатарскіх прапаноў па ўдасканаленню тэхналагічнага працэсу і тэхналогіі вытворчасці. У яго — свой асабісты рахунак, куды занесены ўсе гэтыя прапановы. Дзякуючы ўкараненню іх у вытворчасць завод штогод эканоміць сотні тысяч рублёў.

Дзелячыся сваімі творчымі планамі, слесар-рацыяналізатар гаворыць:

— Разам са сваімі таварышамі зараз я працую над тым, каб яшчэ дзесяць насечных станкоў Т-2 перавесці на аўтаматычны цыкл работы. Гэта наш вытворчы падарунак да 40-годдзя Вялікага Кастрычніка.

Слесар-наватар Віль Яфрэмаў прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці завода, з'яўляецца дэпутатам Мінскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных.

**А. АЛЯКСЕЕЎ.**

### ВЫНІКІ КОНКУРСА НА ЛЕПШАЕ ФОТО

**Журы прызнала лепшымі здымкі:** Я. Новікава «Кармленне галубоў» (г. Мінск), «Маладосць» № 1, 1957; В. Бараноўскага «На рыбалцы» (г. Мінск), Маладосць» № 9, 1956; Э. Прысмакова «Юная натуралістка» (г. Мінск), «Маладосць» № 6, 1956; Г. Стэфанскага «Рашаючы ўдар» (г. Мінск), «Маладосць» № 10, 1956; А. Свідэрскага «Індустрыяльны пейзаж» (г. Магілёў), «Маладосць» № 1, 1957. Гэтыя таварышы будуць прэміраваны.

Журы выказвае падзяку ўсім таварышам, хто прымаў удзел у конкурсе.

# ШАХМАТЫ

пад рэдакцыяй майстра спорту
**А. СУЭЦІНА**

## Самыя маладыя гросмайстры свету

Мы раскажам у шэрагу артыкулаў пра самых маладых гросмайстраў не толькі нашай краіны, але і ўсяго свету. Ім усяго толькі па 20 год. Імёны іх ведаюць ва ўсім свеце нават тыя, хто не цікавіцца шахматамі.

Савецкія гросмайстры ленінградзец Барыс Спаскі і рыжанін Міхаіл Таль пачалі свой шахматны шлях амаль аднвчасова. Спаскі ў 10 год атрымлівае першы разрад! Таль становіцца вядомым некалькі пазней, але хутка абганяе многіх больш дарослых таварышаў-шахматыстаў. Далей два маладыя шахматысты супернічаюць на юнацкіх спаборніцтвах СССР, і больш вопытны Спаскі дамагаецца перамог часцей за свайго юнага сябра. Спаскі хутка выходзіць на ўсесаюзную і міжнародную арэну. Выключных спартыўных дасягненняў ён дамагаецца ў XXII першынстве краіны па шахматах, у адборачных міжнародных турнірах да матча на званне чэмпіёна свету і ўжо восьпаўтара года як мае «вышэйшае» шахматнае званне гросмайстра, званне, пра якое марыць кожны здольны шахматыст. Савецкая шахматная школа заслужана ганарыцца сваім юным прадстаўніком Барысам Спаскім.

Але нашы маладыя рэзервы невычарпальны. У XXIV першынстве СССР, якое закончылася нядаўна, нарадзілася новая шахматная «зорка першай велічыні». Гэта супернік Спаскага па юнацкіх турнірах Міхаіл Таль, які стаў чэмпіёнам СССР і аднвчасова дзевятнаццатым савецкім гросмайстрам. Худзенькі стройны хлапчук з вялікімі выразнымі вачыма хутка прыцягнуў увагу да сваёй ігры ўсіх, хто прысутнічаў на XXIV першынстве СССР. Ужо ў першым туры супраць майстра Арансона ён стварыў выдатнае шахматнае поле, якое, бясспрэчна, абыйдзе ўвесь сусветны шахматны друк. Далей — дзве грунтоўныя перамогі над гросмайстрамі М. Тайманавым і Д. Браштэйнам, і Таль канчаткова заваёўвае сэрцы балельшчыкаў. Пасля бліскучага старту Таль некалькі знізіў свае тэмпы. Яго дагнала, а потым абагнала некалькі ігракоў. Турнір набліжаўся да фінішу, і менш за ўсё чакалі ўбачыць парамокцам Таля. Але раптам ён адну за другой выйграе некалькі партый. І асабліва цярпяць ад яго гросмайстры. Валявога націску і фантазіі Таля не змаглі вытрымаць нават такія ветэраны, як П. Керэс і Т. Петрасян, а ў апошнім туры і А. Толуш, які ішоў з Талем нароўні. У выніку адбыўся амаль што адзіны ў гісторыі турніраў на першынство СССР прэцэдэнт — майстар, да таго-ж яшчэ зусім юны, апярэдзіў усіх гросмайстраў і зрабіўся чэмпіёнам СССР! Гэта «аўтаматычна» павысіла яго ў званні і дадала да ранейшага маленькае слова «грос»! У гэтым турніры Таль абыйшоў і Спаскага, які падзяліў чацвёртае і пятае месцы і меў на ачко менш.

Мы пераканаены, што гэтых двух гросмайстраў чакае доўгае творчае суперніцтва, і кожны з іх не адзін раз пакажа свае яшчэ не разгорнутыя добра здольнасці і магчымасці. Пакуль што спаборніцтва толькі пачынаецца і надзвычай паспяхова для абодвух прадстаўнікоў нашай студэнцкай шахматнай моладзі. Мы гаворым «студэнцкай», таму што М. Таль толькі ў гэтым годзе заканчвае філалагічны факультэт Рыжскага ўніверсітэта, а Б. Спаскі вучыцца на 3 курсе аддзялення журналістыкі Ленінградскага ўніверсітэта.

Даем цікавую вельмі ваяўнічую партыю, іграную ў XXIV першынствах СССР паміж Талем і Спаскім.

Іспанская партыя

1. e4 e5, 2. Kf3 Ксв, 3. Cb5 f5!? (Спаскі выбірае востры варыянт, які лічыцца нявыгадным для чорных, але істотна ўзмацняе ігру чорных), 4. Кс3 (Лічыцца мацнейшым; заслугоўвае ўвагі і 4. d4), 4. ...Кf6, 5. ef Kd4, 6. K:e5 Cc5, 7. 0-0 0-0, 8. Kf3 c6, 9. K:d4 C:d4, 10. Cd3 d5, 11. Ke2 (Белым удалося захаваць лішнюю пешку, але чорныя лепш развітыя і валодаюць ініцыятывай.) 11. ...Ce5, 12. Kg3 Ke4!



(Нечакана і дакладна разлічаны выпад, які дазваляе чорным ураўнаваць ігру), 13. C:e4 de, 14. d3 (Прымусова; дрэнна. 14. K:e4 з-за C:f5; папярэдні ход белыя маглі іграць, 13. K:e4 de, але 14. C:e4 было нельга з-за Фh4!). Цяпер шансы абодвух ігракоў зусім ураўнаваюцца: 14. ...ed, 15. Ф:d3 Ф:d3, 16. cd C:g3, 17. hg C:f5, 18. d4 Лad8, 19. Ce3 Лd5, 20. Лfc1 Лb5, 21. b3 Лd8, 22. Лc4 Лbd5, і праз некалькі ходаў праціўнікі згадзіліся на нічыю.

**Да нумару прыкладаецца бясплатны дадатак часопіса «У дапамогу політэхнічнаму навучанню».**



Люблю рыбную лоўлю спінінгам. Размахнешся вось так — і...

Не думайце, што я такі ўжо недацёпа. Я спорт люблю. А гэта мяне мастак Анатоль Волкаў такім зрабіў.




Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ.

Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ (намеснік рэдактара), Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость».
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-854.

АТ 03463. Фармат паперы 70×108 1/16. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7. Здадзена ў набор 13.IV.57 г. Падпісана да друку 3.V.57 г. Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб. Заказ 243.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.




**На рацэ Мухавец у выхадны дзень.**

